# ПОЛЫМЯ



КНІГА АДЗІНАЦЦАТАЯ і ДВАНАЦЦАТАЯ



ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ
ПОЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ

1930

ВЫДАВЕЦТВА

# ПОЛЫМЯ



БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕВЯТЫ

ЛІСТАПАД—СЬНЕЖАНЬ
1930

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

# СУРОВЫ ПРЫГАВАР ПАДПІСЫВАЮ ПЕРШЫМ

**М. Чарот**

Чаго хацелі вы? Якое мелі права
Крывёю гандляваць працоўных Беларусі?
Прышла на вас суровая расправа,
Перад судом віну прызнаць прымусім.
Драпежных крыл спынілі мы разьбежнасьць,
Жыцьцё для нас ня будзе сутарэньнем...
А справа вашых рук і ваша незалежнасьць,—
Гандлярства дзікае загубленым сумленьнем.
Вы кайзэру наш край прадаць хацелі
І рукі брудныя памыць ў крыві рабочых...
Калі пільсудчыны пагоны зіхацелі,—
Таксама вам асьлеплівала вочы,
Хто вам плаціў і у каго вы ў ласцы,
Той точыць нож на нас і паглядае ласа.
Вам, гандляры, прадаць ня ўдасца
Вялікіх заваёў рабочай клясы.
Ваўкамі лютымі жылі ў авечай скуры,
Мы вам паверылі, вашым прызнаньням, словам,
Над намі вы, агідныя натуры,
Расправу учыніць заўжды былі гатовы.
Прысяга ваша, ваша красамоўнасьць,
Што вы ня эдрадзіце рабочым і сялянам,—
Было маною ўсё. Вас захапляла подласьць
Даўно задуманага здрадніцкага пляну.
Мне помніцца Дзянікін і Юдзеніч,
І панскіх наймітаў над мужыком расправа...
Тады хацелі вы свае ўсе мары зьдзейсьніць,
Гукалі ворагам: „Віват! Ура! і Слава!
Вы махляры шляхоў спрадвеку цёмных,
І ў нашы дні ішлі вы гэтым шляхам...
Пайшоў за вамі той, хіба хто няпрытомны...
Паход ваш, здраднікі, для нас ня будзе страхам.
Ня зьдзейсьніць дум вам, найміты Антанты,
Жыцьцё зьмяце вас бальшавіцкім шквалам.

Вам не счакаць фашыстых чорнай банды,—
Зноў боты цалаваць францускім генэралам.
О, ганьба вам! Ня змыць вам гэту пляму,
Вас праклянуць вякі і пакаленьні,
Як вы, калісь, на акрываўленым пляцдарму
Перад злачынцамі стаялі на каленях.
Прасілі вы, вы здрайцы-падхалімы,
Аб гэтым сорамна і гаварыць сягоньня,
Вярнуць закон „единой неделимой“
І бачыць Беларусь вам з каралём на троне!
Драпежныя арлы кружыліся над намі,
Пад крыльлямі якіх хацелі вы сагрэцца...
Упалі вобземлю, аж неба застагнала...
Дзе вольны край—драпежнікам ня месца.
Ды як-жа вы, драпежніцкая зграя,
Пасьмелі распасьцёрці крыльлі,
Каб тут, над бальшавіцкім краем,
Паспрабаваць яшчэ раз свае сілы?
Вы доўгі час атручвалі паветра
І несьлі змрок туды, дзе сьветла, ясна...
Вольны прастор зламаў вам крыльлі ветрам,—
Узьлёт апошні быў, узьлёт напрасны.
За ворагам мы сочым дужа пільна,
Савецкае зямлі мы не дадзім і пядзі...
Інакшы тут закон,—яно так быць павінна,—
Чым там у вас, у „найвышэйшай радзе“.
Мінулі дні. На вогнішчах—руінах
Варожы стан працоўнымі быў зьмецен...
І вось цяпер Савецкая краіна
Цьвіце нявіданай яшчэ на цэлым сьвеце.
Вы прытаіліся пад венікам, як мышы,
Каб зноў паўзьці на вольныя загоны,
Вы марылі ўзабрацца на узвышша
І дыктаваць драпежныя законы.
Наш сьмелы крок—узвышша затраслося,
Законы піша дыктатура працы,
Кулацтва дзікае у роспачы галосіць,—
Дык на каго-ж цяпер вам апірацца?
Свае мы шэрагі яшчэ мацней узброім,
Як клясу зьнішчым вашу мы апору...
Ня жыць вам больш махлярствам і манаю,
Зладзейскі загавор чыніць на нас у норах.
Мы поўны сіл жывых і творчага запалу,
Камуны радаснай будуючы айчызну...

Варожую зруйнуем мы навалу
Магутным наступам соцыялізму.
Заводы, фабрыкі, сьвятло электрастанцый
Змагацца й будаваць нам наддаюць натхненьне...
А ну, папробуйце—вы супроць нас паўстаньце,—
Няшчасных вырадкаў ліхое пакаленьне!
Ня зьнішчыць нас, нас не зламаць, ня здужаць,
Якой-бы сілаю на нас ня рушыў вораг,—
За нас працоўных сьвет,—вось нашае аружжа,
Нас не палохае, што пахне дым і порах.
Зямля савецкая агнём адплаты дыша,
Яна цьвісьці і красавацца хоча!..
Над вамі, здраднікі, цяжкі прысуд падпіша
Ўладар зямлі—мільёны рук рабочых.
О, ганьба вам! Пішу вам пакараньне
І шлю праклён сваёю думай-вершам...
Суровы прыгавар, каб зьнішчыць вас да званьня,
Над вамі я падпісываю першым.

# АДШЧАПЕНЕЦ

## Якуб Колас

### I

Сьмела і ўпэўнена, як нейкі важны адміністратар, ходзіць па полі вецер. Відаць, і яго захапіла ідэя колектывізацыі: ён вельмі гарліва сьцірае ўсякія сьляды і знакі індывідуальнай гаспадаркі—засыпае сьнегам вузенькія межы, дзе матляюцца голыя вярхі сухога быльніку, абагульняе загоны і цэлыя палеткі, бязжаласна трасе хірлявыя кусты па канцох шнуроў, як-бы хочучы павырываць іх, каб і сьледу не засталося ад іх, каб не напаміналі яны аб граніцах. І з асабліваю заўзятасьцю насядае ён на двор і сядзібу Пракопа Дубягі, наносячы туды цэлыя гурбы хрыбусткога сьнегу, пранятага ёмкім марозам. Ад Пракопавага плоту засталіся адны толькі кончыкі кольляў над замыславатымі карнізамі сьнягоў, а клуня па самую страху ўвайшла ў гурбы. І трудна сказаць, чаму так няласкаў вецер да дзядзькі Пракопа: ці то таму, што яго сядзіба крыху вытыркае з раду другіх сядзіб, тулячыся ў лагчынцы каля балотца, што падступае амаль да самай вёскі Затоньне, ці можа і таму, што дзядзька Пракоп ня надта горнецца да колектывізацыі.

Ужо месяцы са два, а можа і болей, як дзядзька Пракоп носіць у сабе гэты цяжкі калгасны клопат і гэтыя неадступныя думкі аб колгасе. Ды як і ня думаць аб ім, калі ўсе і ўсюды толькі тое і робяць, што гавораць аб колектывізацыі, аб колгасах і чым далей, тым усё галасьней і ўсё з большым запалам. Проста ў вушох гудзе ад гэтых гутарак.

Пракоп на дварэ тупае, пракідае сьцежку ад клуні да хлява, ды толькі пачмыхвае носам, каб прачысьціць трохі ноздры-люхты ад насеўшага там пылу—ён толькі што дамалаціў апошні пасад грэчкі. Матлошыць вецер Пракопаву бараду і псуе работу яму: засыпае сьцежку белымі струменчыкамі дробнага, пухкага, як мука сьнегу. Пракоп не зважае на гэта, упарта скробае лапатаю. Сказаць, ня так і патрэбна яму гэтая работа—проста хочацца хоць чым-небудзь заняць рукі, каб адчапіцца ад надаедлівых думак. Але няма ад іх ратунку, сьвідруюць яны яму мозаг, не даюць спакою, і работа ня клеіцца. Разгінаецца, выпроствае сваю крыху згорбленую сьпіну, трубіць пачырванелым носам у пальцы, на хаду зьняўшы рукавіцу, ды глядзіць на пагорак, што за балотцам. На пагорку чуць рудзее пакручастая дарожка, як баразёнка, узораная плыўкімі палазамі, мястамі замеценая сьнегам, мястамі цямнеючы рудымі плямкамі конскага памёту. Маўклівая дарога, глуха і пуста на ёй.

І што яно будзе?—у соты, у тысячны раз пытае сябе Пракоп і не знаходзіць адказу. І як гэта так? ён больш ня будзе гаспадаром на сваёй зямлі! Цяпер ён волен рабіць, што хоча, як хоча і калі хоча, а там брат, дудкі: рабі тое, што табе прыкажуць. Нават над сваім конікам ня будзе ён гаспадаром!

Пракоп утыкае ў сьнег лапату, ідзе ў хлеў. Сваясаблівы і так знаёмы Пракопу запах хлява і конскага стойла востра б'е ў нос. Падласая карова з закарэлымі ад гною сьцёгнамі і трацячка-цялушка стаяць з аднаго боку, а па другую руку, зьвесіўшы губу, як адстаўны штацкі чыноўнік, дрэмле над жолабам рахманы чырвоненькі конік. Скаціна лагодна, кожная на свой манер, вітае гаспадара простымі аднаскладовымі гукамі, што адпусьціла скупая для іх прырода. Колькі хвілін Пракоп стаіць моўчкі, глядзіць на скаціну, як-бы штось прыкідаючы ў сваім розуме, а потым гаворыць да цялушкі:

— Зробіш ты мяне, воўчае мяса, кулаком? А карысьці з цябе—кот наплакаў. Прадаць цябе ці што? Ці ты ў колгас пойдзеш?

Цялушка, чакаючы гаспадара, каб ён пачухаў яе пад сківіцаю, што рабілася ня раз, трасе галавою і выцягвае морду.

— Ня хочаш у колгас? Ой, мусіць, пойдзеш,—гаворыць Пракоп і чухае цялушку, а потым адразу абрывае гэтую сялянскую лірыку і дзелавіта падыходзіць да каня, глядзіць, як там у яго ў жолабе. Строгім голасам робіць вымову каню за яго нешляхетныя паводзіны: конь умудрыўся накласьці ў жолаб таго, чаму быць там не палагаецца. Пракоп робіць у жолабе парадак і надае іншы характар свайму візыту ў хлеў, хоць асноўнаю прычынаю гэтага візыту было якраз жаданьне палюбавацца на сваю жывёлу, зрабіўшы парадак, яшчэ раз глядзіць на скаціну і выходзіць на двор. Работы няма там ніякай. Яго цягне на вуліцу паслухаць, што чуваць новага, што кажуць людзі. З раёну мелася прыехаць сёньня нейкая брыгада. Будуць, кажуць, рабіць колектывізацыю. Пракоп ўздыхае і сунецца на вуліцу, яшчэ раз глянуўшы на дарогу.

## II

Густа лепяцца наабапал вуліцы сялянскія хаты з такімі-ж вузкімі і цеснымі, як і сама вуліца, дворыкамі. У агародчыках каля хат за пасівелымі частаколамі намецены гурбы сьнегу. Маленькія шыбы шчыльна затканы марозам. Тоўстым пластом зьлёг на саламяных стрэхах сьнег і, здаецца, яшчэ ніжай прыгінае да зямлі старасьвецкія будынкі, шэрыя, нізкія, аднастайныя. Адбітак старасьвеччыны, убоства і акасьцянеласьці налажыў на іх глыбокі сьлед. Але Пракоп прывык да гэтых малюнкаў свае вёскі, як прывыкае прусак да свае шчыліны. Ён ня бачыць плесені заскарузлага ў сваёй архаічнасьці вясковага жыцьця.

Глуха і пуста на вуліцы, хіба толькі часамі прамільгне на ёй жаночая постаць з вёдрамі ды скрыпучым голасам зарыпіць журавель над

прымітыўнаю студняю з трухлявым дзервяным зрубам і гузамі лёду каля яго. Пустым, нібы вымершым здаецца і само затоньне. Але пад гэтымі прыгнутымі саламянымі стрэхамі, за засьнежанымі шыбамі акон ідзе жыцьцё, вядуцца гарачыя дыскусіі, а часамі і ліквідацыя рухомай сялянскай маёмасьці. Сям-там на задворках пылае агнём салома, а вецер разносіць гарэлы запах сьвіной шчэці. У гэтых ціхіх на погляд хатах на ўсе лады памінаецца колектывізацыя. Каля яе сконцэнтраваны ўсе думкі, пачуцьці і разрахункі практычнага сялянскага розуму, навокал яе вядзецца самая дзейнасная агітацыя і за і супраць. Яна робіць людзей і шчырымі прыяцелямі і зацятымі ворагамі, падзяляючы іх на розныя катэгорыі.

Пацягнуўшы носам паветра, Пракоп падымае галаву. Яго погляд запыняецца на хаце Лявона Марыніча. З коміна, дзе ўткнута шэрая пад колер сталі гліняная труба, тарапліва, як-бы яго ліхаманка трасе, плывебяжыць сіняваты дымок, а разам з ім расплываецца па паветры спакусьлівы запах сакаўных скварак.

— Гуляе Марыніч, запускі робіць,—сам сабе думае Пракоп,—у колгас наважыўся запісацца.

Павярнуўшы голаву ў другі канец вуліцы, дзе яна ўжо выходзіць у поле, ён бачыць—чалавек паўсоваецца сюды. Хто-ж гэта? Пракоп прыглядаецца, пазнае. Да і пазнаць ня трудна: лісіная шапка, кароткая на аўчынах, бравэрка, суконныя нагавіцы з некаторым намёкам на галіфэ. Гэта Ігнат Чыкілевіч. Пракоп зноў прачышчае нос, праводзіць рукою па вусах—рыхтуецца да гутаркі з Чыкілевічам. Чыкілевіч—абаротлівы, сьмякалісты чалавек, спрытны гаспадар, жыве на водшыбі, індывідуальна абложаны, з чым ён ніяк ня можа пагадзіцца і лічыць, што з ім паступілі несправядліва.

— Дзень добры, таварыш Пракоп!

Чыкілевіч стараецца паказаць сябе савецкім чалавекам. Ён гарою стаіць за савецкую ўладу і часамі можа, дзе трэба, падпусьціць на яе карысьць агітацыі.

— Здароў!—коротка адказвае Пракоп.

Чыкілевіч адразу заўважае, што Пракоп чымся заклапочаны, ня ў гумары.

— Што нявесел, голаву павесіў?—пытае Чыкілевіч і вострымі, крыху насьмешлівымі вачамі глядзіць на Пракопа. Пракоп, як і кожны селянін, дыплёмат. Свае карты раскрывае не адразу.

— Цяпер, брат, невясёлых няма. Усім стала весела. Работу папакідалі. А Марыніч, дык той зараз цэлага япрука прыкончыць. Такое зажарвае смажэньне, што ўсіх тхароў з ваколіцы пасьцягвае сюды... П'юць, улююць, як перад пустым канцом, прагульваюць і зводзяць гаспадаркі... Пагібель чуе народ,—ня выдзержвае нарэшце тону Пракоп. Чыкілевіч таксама мяняе позыцыю і заходзіць з другога боку.

— Цёмны, дурны народ! Ой, які цёмны! І чаго яму валаводзіцца? Запісваліся-б у колгас.

— Да некаторыя і пазапісваліся былі, але назад паадпісваліся.

— Бо дурні!—з жарам накідаецца Чыкілевіч:—ну, чым-жа кепска будзе ў калгасе? Ты-ж пасудзі сам: грамада, гуртовая праца, прастор. Ні табе гэтых межаў, ні вузкіх загонаў, дзе і з канём павярнуцца нельга. Зямля-ж, брат, вольнаю зьявілася ў сьвет, дык навошта дзяліць яе, рэзаць на шматкі, калаціцца з-за яе? А гуртам управіцца з ёю латвей. Што адзін чалавек, а што грамада! Вось табе прыклад. Ты адзін цупаеш цэпам і рукі дрантвеюць, падымацца ня хочуць. А стануць чатыры малацьбіты ды як жарнуць—адкуль яно што і возьмецца: і рукі лёгка ходзяць, і цэп сам падымаецца, проста як пад музыку, хоць у танцы ідзі. Так і ў колгасе. Да ці цапамі-ж там малаціць будуць? Машын табе прышлюць, трактара пусьцяць, а ты сабе хадзі ды пасьвіствай.

— Як будзеш сьвістаць, то трасцу і мець будзеш,—панура адзываецца Пракоп:—а машына сама рабіць ня будзе. І перш, чым пусьціць трактар, то трэба папацець. І што твой трактар? Трактар каштуе вялікіх грошай: і сам ён дарагі, і бэнзін аплаціць трэба, аліву. Ды яго-ж хто-небудзь і вадзіць павінен, а мяне ці цябе на яго не пасадзіш. Ды па нашай зямлі, па камяніцы, ці пойдзе табе твой трактар? А паломіцца, вось тады і сьвішчы. А гною дасьць ён табе? Рабіць-жа грамадою з нашым нарадам—ня многа ты наробіш. Адзін будзе працаваць, а дзесяць туліцца ад работы, як сабакі ад мух.

— Дысцыплінка, дысцыплінка, браце, павінна быць! Бяз гэтага нельга!—Чыклевіч падымае палец і зьлёгка грозіць Пракопу, як настаўнік неразумнаму вучню і пераходзіць ужо на такі спосаб абароны колгасу, каб яшчэ больш адштурхнуць ад яго Пракопа.

— Перш за ўсё патрэбна цьвёрдая рука. Трэба пакамандаваць нашым братам, кожнага на работу паставіць ды прымусіць і зрабіць яе. А свае меркаваньні і сваю волю прыдзецца ў кішэньку схаваць. Там, брат, ня скажаш сабе: сёньня зраблю гэта, а заўтра тое, або сёньня даўжэй пасплю, а заўтра ўстану раней. Тут, брат, як па гудку на фабрыцы—загулі, і зьбірайся. І ўжо не паедзеш, куды табе зажадаецца. А калі такая патрэба здарыцца, то мусіш да начальства свайго пайсьці. Начальствам-жа можа быць і Кандрат Козей, бо хоць яго рукі да работы і ня здатны, але язык яго ходзіць спрытна. Ну, што-ж? работнік з яго хоць і ня важны, а адміністратар з яго можа быць добры.

Пракоп, унурыўшыся, слухае, а потым перастае сачыць за словамі Чыкілевіча, разважаючы над пытаньнем, ці пойдзе ён у колгас, ці ня пойдзе.

Ня горне яго колгас.

## III

Андрэй, старшы Пракопаў сын, быў у Чырвонай арміі. Якраз у гэты дзень прышло ад яго пісьмо. Другі Пракопаў сын, Мікіта, сядзеў у хаце

і чытаў матцы пісьмо. Між іншым Андрэй катэгорычна патрабаваў, каб ішлі ў колгас, што вельмі радавала і цешыла падлетка Мікіту. Ён ужо ня раз казаў бацьком, што колгас мае ўсе перавагі над дробнаю гаспадаркаю. Вось аб гэтым у Тацяны і ў Мікіты і вялася гутарка. З маткаю Мікіта дагаварыўся лёгка: сваім практычным здаровым розумам яна бачыла, што ў колгасе чалавеку будзе лепей. Яшчэ да Андрэевага пісьма Тацяна выказвала Пракопу думку, што няма прычыны баяцца колгасу, бо калі чалавек будзе працаваць, то яму ўсюды можна жыць. Вось тут, на сваёй гаспадарцы, калі захварэе работнік, то ўся работа спыняецца. У колгасе-ж зусім інакш. Там работа ніколі ня спыніцца: захварэе дзесяць, а на работу стануць сотні. Ды і работаю там ня будзе так душыцца чалавек. Праўда, гэтыя думкі выказваліся спачатку нясьмела, асьцярожна. Падаючы голас за колгас, маці пераважна кіравалася інтарэсамі меншага сына, якога яна дужа любіла і паважала. Мікіта-ж быў, можна сказаць, чалавек адукаваны. Мала таго, што ён скончыў сямігодку, дык ён яшчэ процьму кніг прачытаў аб колгасным будаўніцтве. Цяпер-жа, калі і Андрэй так цьвёрда гаворыць пра колгас, яна стала больш актыўнаю яго староньніцаю.

— Пражылі мы сваё жыцьцё. Дзеці заступяць наша месца,—разважала Тацяна,—а раз яны хочуць жыць у колгасе, дык навошта станавіцца ўпоперак ім дарогі?

Але калі ў хату ўвайшоў Пракоп, то маці і сын адразу змоўклі. Пераступіўшы парог і спыніўшыся ў качарэжніку, Пракоп, скоса зірнуўшы на жонку і сына, ушчаміў пальцамі нос, як музыка клярнэт, і двоякротна звонка затрубіў. Так ён рабіў кожны раз, калі быў чым-небудзь нездаволены або моцна заклапочаны. Не пазіраючы ні на кога і тупнуўшы разы са два, Пракоп моўчкі расьперазаўся і зьняў сярмягу. Некалькі хвілін у хаце панавала маўчаньне. Пракоп адчуваў, што і ў сваёй уласнай хаце напірала на яго колгасная стыхія, выбівала грунт з-пад ног: ні ў жонцы, ні ў сыне не знаходзіў ён апоры ў сваім проціваколгасным настрою. Але чым крапчэй напірала гэтая стыхія, тым з большаю сілаю і ўпартасьцю адпіхаўся ён ад яе. Хоць яго аргуманты блеклі, трацілі сілу ў яго ўласных вачох, але ён не здаваўся, ламаў галаву, шукаючы новых, прагавіта лавіў іх на вуліцы, на сходах і наогул дзе толькі можна злавіць.

— Апошнімі днямі цябе, Пракоп, і пазнаць няможна,—першая падала голас Тацяна:—ходзіш, пануры, як асуджаны, або як-бы на сябе зямлю носіш.

Гэтая прадмова была тою лішняю кропляю, што перапоўніла пасудзіну Пракопавых згрызот. Ён увесь ускіпеў і гатоў быў распрыжыцца ўсімі адзнакамі навальнічнай хмары, але раптам стрымаўся, сам ня ведаючы як, і заместа маланак і громаў, гатовых вырынуць з яго, ён са спакойнаю насьмешкаю адказаў:

— Ня можна пазнаць? то мусі-быць багатым буду.

Тацяна не спадзявалася такога спакойнага тону і наогул Пракопавага адказу, і гэты адказ зьбіў яе з тропу.

— Не вялікае шчасьце быць цяпер багатым,—заўважыла яна.

Мікіта, баючыся, што бацькі пачнуць парадзіць усякае глупства і Андрэева пісьмо можа выплысьці з цэнтру ўвагі, палічыў патрэбным умяшацца ў іх гутарку.

— Андрэй пісьмо прыслаў,—зьвярнуўся ён да бацькі і паказаў гэтае пісьмо, Пракоп перавёў погляд на Мікіту, а потым на пісьмо.

— Што-ж ён піша?

— А вось я пачытаю.

Мікіта разгарнуў пісьмо і стаў чытаць, Тацяна ціхенька ўходжвалася, каб не перашкаджаць чытаньню, а Пракоп вастрэй наставіў левае вуха і слухаў уважна, глядзячы ў неазначаныя прасторы.

Андрэй паведамляў, што ён здаровы. Апісваў сваё жыцьцё ў чырвонай арміі, сваю вучобу, асабліва спыняючыся на вучобе агульна-асьветнага характару, а ў заключэньне, пытаючыся, што робіцца ў іх вёсцы, рашуча трэбаваў ісьці ў колгас. Калі Мікіта дайшоў да гэтага месца, то голас яго стаў званчэйшы, а тэмп чытаньня больш паважны. „Пара скончыць з аджытымі формамі гаспадараньня на вузкіх палосках і забіць асінавы кол у магілу індывідуальнай гаспадаркі, дзе людзі толькі гібеюць, а на іх целе расьце шкодны грыб—кулак. Наш час—час разгорнутага наступленьня па ўсім фронце на кулацкія элемэнты ў вёсцы і на нэпманскія ў горадзе. Колектывізацыя сельскай гаспадаркі—вось лёзунг сёнешняга дня. Вы-ж там павінны стаць піонэрамі колгаснага будаўніцтва. Дык ня слухайце кулацкіх провокацый, а першымі запісвайцеся ў колгас“.

## IV

Дачытаўшы апошні сказ, Мікіта выразьліва паглядзеў на бацьку. Пракоп сядзеў нярухома. Андрэява пісьмо яшчэ больш прыгнула яго. Вось насланое—як-бы ўсе згаварыліся супроць яго і ціснуць з усіх бакоў! Але-ж трэба нешта сказаць, адгукнуцца на сынава пісьмо. Усьміхнуўся недарэчнаю ўсьмешкаю.

— Маладзец Андрэй: ведае чырвонаармейскую дысцыпліну!

Мікіта не заўважыў гіранічнага тону і палічыў бацькаў адказ за добры знак.

— Вось няхай толькі Андрэй са службы вернецца: яго старшынёю колгасу абяруць,—горача азваўся Мікіта. У ім гаварыла гордасьць за брата і ў той-жа час хацелася ўлагодзіць і бацьку.

— А цябе зробяць сакратаром, і будзеце бацькам камандаваць... А працаваць на вас хто будзе?—Пракоп двойчы затрубіў носам. Мікіта расчаравана паглядзеў бацьку ў вочы. Але тут ня ўтрывала маці.

— Табе таксама ніхто не замінае быць сакратаром.

Пракоп з дакорам паглядзеў на жонку: навошта-ж гэты глум з яго? Як ён можа быць сакратаром, калі ён няпісьменны? Сярдзіта затрубіў носам, а маці сыпала далей:

— Ты-ж думаеш—пісаць дык гэта не работа? Нябось трэба пасушыць галаву, покі навучышся. Ды ці зьнясе яшчэ твая галава, каб пісаць?

— Ды куды ўжо варта мая галава?—з крыўдаю ў голасе сказаў Пракоп:—стараўся, працаваў, колькі хапала змогі, зьбіраў дабро, як крумкач косьці...

— Хто-ж кажа, што ты не працаваў? Працаваў то ты многа.

— Многа ці мала, а падзяка адна.

І раптам, павысіўшы голас, зьняважліва сказаў:

— Эх, вы, колгасьнікі! Батракамі захацелі быць!

У яго зьявілася патрэба выказаць свае мысьлі аб колгасе. Даўно ўжо карцела ў яго думка выступіць з прамоваю на сходзе, а цяпер якраз налучаецца зручны выпадак. Дык ці не сказаць яе цяпер? Па-першае, будзе практыка яму, а па-другое, праверыць моц свае прамовы. Каб наблізіць сваю ролю да ролі прамоўцы на сходзе, Пракоп кашлянуў, устаў.

— Таварышы!—праз меру громка пачаў Пракоп. Тацяна і Мікіта са зьдзіўленьнем і страхам паднялі на Пракопа вочы. Пракоп зрабіў невялічкі перапынак і сказаў яшчэ раз:

— Таварышы!.. Вось вы тут кажаце—колгас, абагульненьне жывёлы, каб, значыцца, нічыё, колектыўна, ну, значыць, гуртам... леканструкцыя сельскай гаспадаркі...

— Рэконструкцыя!—паправіў бацьку Мікіта.

— Папраў казе хвост! Гіцаль ты! што ты не даеш мне слова сказаць?

— Што ты чаўпеш, Пракоп?—у тоне жончынага пытаньня чулася недаўменьне.

Пракоп зьбіўся з нагі, нос яго пачырванеў, і мысьлі вылецелі з галавы, як маладыя шпакі з дупла. Злосьць апанавала яго: правальваецца ён з прамоваю.

— Вы слухайце, пустыя вашы головы! Гэта я вам кажу, як сказаў-бы я на сходзе! Павінен-жа я выказаць свае думкі, сваё разуменьне, а ня кідацца з галавою ў бухту, каб потым ня бегаць, як кот з падсмаленым хвастом. А вы мне рот затыкаеце... Калі вы ня хочаце слухаць мяне, дык я буду казаць гэтым глухім сьценам, няхай хоць яны паслухаюць мяне!—з горыччу выгукнуў Пракоп.

— Дурны ты чалавек, што ты забраў сабе ў галаву? Да ты-ж ня ведаеш, ці табе лепш аднаму на гаспадарцы, ці з людзьмі ў колгасе. Няўжо-ж гэта людзі ўсе дурныя, а ты адзін разумны? Проста глядзець на цябе моташна. Немаведама чаго згрызаецца чалавек. Жывуць-жа людзі ў колгасе. І работаю так ня душацца, і жывуць лепей. Ня ты-ж, калі на тое пашло, жыць там будзеш, а дзеці твае. Пражылі мы ўжо,

можна сказаць, свой век. Няхай дзеці жывуць. Не станавіся ты ім упоперак дарогі. Ці ліха сабе нажыць хочаш? Каго ты слухаеш?

— Клясавых ворагаў,—заўважыў Мікіта:—проста ня хоча паварушыць мазгамі, упёрся і ўсё. Тут робіш тысячы работ, а там будзеш рабіць адну. Тут дрыжыш ты за свайго каня, каб яго ня ўкралі ў цябе, а там хто будзе красьці? На чорта ён патрэбен каму? Кожны стане на сваю работу і будзе ведаць адну справу, а не разрывацца, як тут, на кавалкі. Зямля дасьць больш даходу—будуць абрабляць яе машынамі, падвязуць мінэральных гнаёў... Да што тут казаць? Сьляпому толькі ня відаць гэтага.

Мікіта трохі сароміўся, і прамова яго была ня зусім гладкая, але ён гаварыў шчыра, з пракананьнем.

Ракоп адчуў сябе пабітым і адвінокім. Унурыўся і маўчаў. У хаце зноў стала ціха. Свая-ж хата пазірала на Пракопа нявётла і негасьцінна, як-бы ён тут быў чужы і лішні. А можа і праўда ён тут чужы і непатрэбны?

Гутарка змоўкла.

Ды й аб чым гаварыць?

Пракоп моцна задумаўся.

— Папалуднуйце,—парушыла цішыню Таццяна і стала засьцілаць настольнік.

Пракоп падняўся і, нічога не сказаўшы, вышаў з хаты.

## V

Затонская школа набіта біткам. Кажухі, сярмягі, шапкі і хусткі розвай формы і колеру стракацяць у вачох. Барадатыя і безбародыя, маладыя і старыя сядзяць і стаяць, дзе толькі можна, плячо ў плячо. Шуміць, гудзе сход, як разводзьдзе вясною. Настрой узьняты; сёньня на гэтым сходзе павінна так ці іначай скончыцца справа аб колгасе.

Старшыня сельсавету Мікалай Тур з суседняй вёскі Крутагор'е заметна хвалюецца. Па правую руку ад яго сядзіць, разлажыўшы паперы, сакратар Міхайлік, наставіўшы буферам чуб, што прыдае сакратару значную долю заліхвацкасьці. Побач з ім шыракаплечы, худашчавы і жылісты, нібы зьбіты з чугуна, Мірон Брыль, брыгадзір, рабочы з заводу. Шырокі твар яго спакойны, а погляд сьмелы, упэўнены. З другога боку яшчэ два чалавекі: худы, бледны настаўнік тутэйшай школы і пісьменьнік Базыль Базылец. Гэта высокі, жывы, рухавы чалавек, гадоў пад трыццаць, у чорным кажусе з вялізным каўняром. Быстрыя шэрыя вочы то бегаюць па натоўпу, то па тварах членаў прэзыдыуму. Перад ім на стале запісная кніжка, куды ён не-не ды нешта запіша. Гэтая кніжка і запісы ў яе робяць відавочнае ўражаньне на сход. Там нават перакідаюцца заўвагамі на гэты шчот, але, на шчасьце, Базыль Базылец іх ня чуе.

Пара-б ужо і сход пачынаць, але там, за сталом, ня надта сьпяшаюцца: у іх ужо ёсьць сходаўская практыка—чым больш нагаворацца, нашу-

мяцца да сходу, тым гладзей праходзіць сход. І тут таксама ўжытна тактыка старога Гіндэнбурга аб крэпасьці нэрваў.

Сход пачынае выказваць нецярплівасьць—абрыдла ўжо так сядзець.

— Сход пачынаць!—заглушаючы шум грамады, чуецца голас з цёмнага кутка.

— Пачынаць! пачынаць!—далучаюцца галасы.

Старшыня нахіляецца да Мірона Брыля, штось гаворыць, відаць, аб адчыненьні сходу. Брыль моўчкі ківае галавою, як-бы ўсё роўна яму, цяпер ці яшчэ пачакаць. Не сьпяшаючыся, падымаецца старшыня, перабірае паперачкі, зьбіраецца з думкамі, а потым звоніць. З пярэдніх радоў шум заціхае, і хваля гэтага заціханьня паволі праходзіць па ўсёй школе і вярэшце зусім глухне на задніх партах.

— Абвяшчаю сход адкрытым!

Абіраецца прэзыдыум, запрашаецца туды некалькі асоб.

— Таварышы!—пачынае старшыня. Пракоп стаіць каля печы. Сэрца яго затухкала мацней, як і ў ва ўсіх членаў сходу. „Таварышы, і я магу сказаць, але што скажаш ты далей?“ думае сам сабе Пракоп.

— У нас сёньня на павестцы стаіць пытаньне аб колектывізацыі і бягучыя справы. Другіх пытаньняў ня будзе?

— Хопіць і гэта!—гудзе сход.

— Ужо пяць сходаў утапілі ў гэтай колектывізацыі,—чуецца сярдзіты голас.

— А табе што—часу няма?—Хтось спакойна падае рэпліку з месца.

— Таварышы!—голас старшыні робіцца строгім:—давайце прыступім да справы і прашу спыніць гармідар—так мы ні да чога не дагаворымся. А дагаварыцца і вырашыць пытаньне мы павінны. Вось тут хтось сказаў, што ўжо змарнована пяць сходаў. А хто ў гэтым вінаваты?.. Таварышы! Колектывізацыя сельскай гаспадаркі—наша чарговая, баявая задача, і мы павінны выканаць яе на сто процантаў.

— У некаторых мясцох яна зроблена на сто шэсьць, як пісалася ў газэтах,—з цёмнага кутка даносіцца нейчы насьмешлівы голас.

— Чулі мы ўжо гэтыя вашы песьні! Дакалгасімся да таго, што і шалудзівай авечкі не застанецца,—вырываецца прарэзьлівы жаночы голас.

— Да сьціхнеце вы там!—грыміць з другой групы сходу:—што не даеце слова сказаць?

Падымаецца шум. Старшыня звоніць з усяе сілы. Парадак наладжваецца. Узрушаны і выведзены з роўнавагі старшыня грозна ўсчуньвае крыкуноў.

— Таварышы! ці мы сабраліся тут справу рабіць, ці кулацкіх падпявалаў слухаць? Іншыя меры прыму проці тых, хто зрывае работу сходу!

— Правільна!—гудуць галасы з другога канца. У гэтым гармідары старшыня, відаць забыўся, што меўся яшчэ сказаць. Ён пацёр лоб і потым сказаў:

— Слова даецца таварышу Брылю, рабочаму з заводу. Тав. Брыль тваё слова!

Шырокі і зьвязісты Брыль падымаецца і здаравеннымі мазолістымі кулакамі, парадкам папрацаваўшымі каля станка, упіраецца ў стол. Ён весела акідае вачамі шэрую сялянскую масу.

— Таварышы!—пачынае ён. Голас яго чысты, звонкі.

— Я думаю, т. сяляне, што нашаму старшыні ня прыдзецца звярачацца тут да строгіх мер: мы—людзі свае, а чужынцаў мы лёгка пазнаем. Дык давайце пагамонім папростаму, як гаворыцца, на чыстую.

Брыль робіць кароткі перапынак. І яго магутная постаць, і голас, і нейкая прастата і шчырасьць у яго словах робяць на сялян добрае ўражаньне.

— Ялішнім тут будзе запытацца, таварышы,—паніжаным прыяцельскім голасам гаворыць далей Брыль:—у чым сіла і моц нашай пролетарскай дзяржавы?

Як напрактыкованы настаўнік, ён робіць ізноў кароткі перапынак, як-бы даючы сходу падумаць.

„Куды-ж гэта ён гне?“ думае сход, а Брыль зараз-жа адказвае сам:

— Будзе правільны адказ, калі я скажу: сіла і моц нашай дзяржавы трымаецца на саюзе рабочае клясы з працоўнай сялянскай, батрацкай і серадняцкай масай. Гэты саюз даў перамогу Кастрычніцкай рэволюцыі. Ён вызваліў нас ад памешчыцкага гнёту, выпраг з ярма капіталізму. Ён-жа абараніў нас ад навалы белых армій і іх саюзьнікаў, замежнай буржуазіі, што ў сьмертнай хватцы прабавала задушыць нас, каб ізноў вярнуць панаваньне памешчыку і капіталісту. Нарэшце гэты саюз зрабіў нас гаспадарамі на зямлі і на фабрыцы і будаўнікамі свайго ўласнага жыцьця на аснове соцыялізму. І калі, таварышы, я чуў тут злосныя выкрыкі, недавер'е, то гэтыя выкрыкі можна расцэньваць толькі як голас або сьвядомага ворага, які імкнецца рашчапіць наш саюз з працоўным сялянствам, або проста як голас неразуменьня і палітычнай несьвядомасьці.

— Правільна!—падцьвярджаюць галасы, з пярэдніх радоў. Сход слухае ўважна. Настрой яго мяняецца.

— Цяпер я пераходжу да асноўнага нашага пытаньня, да перабудовы нашай сельскай гаспадаркі на аснове колектывізацыі. Гэтая перабудова, таварышы, так вяліка і настолькі нова, што сьвет бачыць яе ўпяршыню. Дык ня дзіва, таварышы, што вы падыходзіце да яе з некаторым страхам і сумленьнем. Але давайце разьбяромся, дойдзем да канца, каб прыняць правільнае рашэньне. Прыпусьцім таварышы, што каму-небудзь з вас прыходзіцца перарабляць той ці іншы свой будынак. Вось ён пачынае аглядаць яго, што падправіць і як. І аказваецца: страха сапрэла, латы спарахнелі, сьцены пакрывіліся, бярвеньні згнілі, падмуроўка збуцьвела. Што-ж ён тады будзе рабіць?—Прыклад, прыведзены

Брылём, спадабаўся. Яму запляскалі, а з пярэдніх радоў гукнулі гусьцей:

— Ламаць гнілы будынак і будаваць новы, крэпкі!

— Правільна, таварышы! У пляне савецкага будаўніцтва, калі на нашых вачох гіблыя балоты абарачаюцца ва ўраджайныя землі, калі краіна пакрываецца сецьцю электрастанцый і вынікаюць волаты-заводы, фабрыкі і цэлыя гарады, ваш будынак, ваша форма дробнай сельскай гаспадаркі ёсьць гніль! Вашы гаспадаркі раскіданы, адгароджаны межамі, а на гэтых межах і ў гэтых межах разам з палыном і быльнікам будзе расьці і гадавацца і тое дзікае зельле, што ўжо ў сілу свае прыроды імкнецца разарваць наш саюз—будзе расьці кулак. Ваша гаспадарка, таварышы, у яе цяперашняй форме, адна недарэчнасьць. Вы працуеце многа, а зьбіраеце мала. Жывяце ў душных і цесных хатах разам з жывёламі, у гразі, у брудзе, але вы ня бачыце гэтага бруду—вы аблужаны павуцьцём старасьвеччыны і знаходзіцеся ў яе палоне. Наша задача, таварышы, задача партыі, і савецкай улады—захаваць сілу чалавека, зрабіць палёгку ў яго рабоце, вызваліць яго з-пад улады зямлі, што так скупа аплачвае яго працу, наша задача—павялічыць яго продукцыю, даўшы яму машыны. А гэтага можам дабіцца толькі тады, калі мы дашчэнту зломім гнілы будынак цяперашняй гаспадаркі, а на яго месьце паставім новы на падмурку колектыва свабодных людзей.

Таварыш Брыль быў ня кепскі прамоўца. Ён вельмі прыгожа і трапна даў малюнак жыцьця ў колектыве, не заплюшчваючы вачэй і на тыя труднасьці, што няўнікнёна павінны быць на першых часах. І калі ён скончыў прамову, то яму дружна і доўга пляскалі. Нягоршым прамоўцам аказаўся і пісьменьнік Базыль Базылец. Як пісьменьнік, ён галоўным чынам спыніўся на культурным баку і пераважна опэляваў да жанчын, да іх гаротнай долі ў старой госпадарцы. А калі ён спыніўся на дзецях, аб якіх мала дбаюць бацькі, і ў імя дзяцей заклікаў бацькоў у колгас, то некаторыя больш мяккія натуры пусьцілі сьлязу.

## VI

Мікіта, седзячы ў першых радох і слухаючы прамовы, увесь гарэў. Мацней і шчырэй за ўсіх пляскаў ён прамоўцам, і радасьць яго ўсё ўзрастала, у меру таго, як раставаў лёд недавер'я ў сялянскіх сэрцах пад іскрамі гарачых слоў прамоўцаў. Павесялеў і прэзыдыум: перамога выяўна хілілася ў яго бок.

Зусім іначай адчуваў сябе Пракоп. Перад сходам ён цешыў сябе надзеяй, што і сёнешні сход скончыцца так-жа, як скончваліся і ранейшыя сходы: пагавораць, пакрычаць, можа хто і запішацца, а ў агуле справа наперад не пасунецца. Але калі з прамоваю выступіў гэты рабочы і захапіў сялян прастатою свае гутаркі і шчырасьцю веры ў пераможнасьць новых форм жыцьця, то Пракопава надзея пагасла, і ён ціха сказаў свайму суседу, таўкануўшы яго локцем:

— Пазапісваюцца ўсе!

— Пазапісваюцца!—падцьвердзіў сусед.

Пракоп слухае прамоўцу, а думкі яго ўжо пачынаюць вярцецца каля колгасу. Ён бачыць шырокае поле, нідзе ні межачкі, і яго палоска, што пад восень так добра даў гною, зьвілася, захлынулася ў суцэльнай заворанай лаве зямлі. Ён баранує паркаю колгасную зямлю, а за ім таксама за бараною ідзе Марыніч. Марыніч—хітры, гультаяваты чалавек, толькі від паказвае, што робіць, а сам пасьмейваецца з Пракопа.

— Глядзі, Пракоп, як Міхалка сьцябае твайго каня! Што значыць не свая ўласная скаціна!

Пракопа забірае злосьць на Марыніча: сам папрагульваў усё сваё дабро ды яшчэ пасьміхаецца, што ён, Пракоп, захаваў сваю маемасьць і ў колгас прышоў, як маладая з заможнага дому ў сям'ю свайго мужа. Пракоп успамінае, што ён яшчэ не ў колгасе, шукае вачамі Марыніча. А Марыніч сядзіць сабе з выглядам нявіннага дзіцяці ды слухае. Пракоп упэўнены, што ён адзін з першых папрэцца ў колгас, і вялікая непрыязьнь да яго шавеліцца ў Пракопавым сэрцы.

Мікіта часта назад аглядаецца—хочацца ведаць, як успрымае бацька словы гэтага слаўнага Брыля. Брыль у яго вачох робіцца гэроем. Але нічога ня можа разгледзець Мікіта на бацькавым твары: Пракоп сядзіць ззаду каля сьцяны, і твар яго відаць цьмяна.

Кончыліся прамовы. Старшыня зварачаецца да сходу, якія ў каго ёсьць запытаньні.

— Запытаньняў няма?

— Няма.

— Хто хоча выказацца?

Сход маўчыць, а потым чуецца адзін голас, другі, а за ім хор галасоў гудзе:

— Чаго там выказвацца? Запісвацца і ўсё!

— Давайце запісвацца,—гаворыць старшыня;—але можа запішам пастанову?

— Гэта і будзе пастанова, калі пазапісваемся.

— Ну, хто першы?

Замінка. Ніхто не адважваецца выступаць першымі. Падштурхоўваюць адзін аднаго, патроху жартуюць, пасьмеваюцца. Нарэшце выпхнулі Амяльляна Нічыпарука, мотывуючы гэта тым, што Амяльлянава рука лёгкая. Амяльлян набіраецца сьмеласьці, падыходзіць да стала і жорсткімі заскарузлымі пальцамі выводзіць сваё прозьвішча.

— Ну, колгас, дык колгас!—кажа расьпісаўшыся. За ім сьмялей і дружней валіць народ. Каля стала робіцца чарга. І Марыніч у першых радох. Парог, што стаяў між сходам і колгасам, пяродзены, людзі апыніліся на другі бок мяжы.

Мікіта з трывогаю назірае за бацькам. Пракоп падаецца наперад, вапыняецца. Углядаецца ў пярэднія рады, у чаргу каля стала. Бачыць

Марыніча. Пракоп хмурыцца, топчацца на месьце і незаметна падаецца ў дзьверы. Яшчэ з большаю трывогаю глядзіць Мікіта на дзьверы, што зачынілі бацьку на той бок сходу. Няма, не варочаецца бацька. Мікіта таксама падаецца да дзьвярэй—дагнаць, вярнуць бацьку назад!

---

Ужо трэція пеўні прасьпявалі па вёсцы. І які дзіўны, які далёкі і глухі голас іх! Гэта вясковыя гудкі і сырэны, што з глыбіні вякоў данесьлі свой голас аж да гэтага часу і першабытнаю мераю мераюць вясковым людзям час і вяшчаюць аб зьменах пагоды. Пашумлівае вецер у голым вецьці бярозы, у вокны пазірае бясконцая зімняя ноч, а там, за вёскаю, ляжаць бяскрайныя, амяртвелыя прасторы. Пракоп бачыць іх у сваіх мысьлях, лежачы на палку каля печы. Дакучлівыя, невясёлыя думкі таўкуцца ў яго галаве, і на сэрцы цяжка. Ад гэтага ніяк ня можа заснуць Пракоп. Перабірае ў памяці падзеі сёнешняга дня і вечара. І які гэта доўгі, бясконца доўгі дзень!

Прыпамінае раніцу, спатканьне і гутарку з Чыкілевічам. Чыкілевіч можа і рад быў-бы пайсьці ў колгас, ды яго ня прымуць, бо ён пазбаўлены голасу. Можа і вышлюць яго. А што зробяць з ім, з Пракопам? Нешта гэты рабочы як-быківаў на яго ў сваёй прамове. Пракоп у непакою варушыцца пад дзяругаю. Мысьлі яго ідуць на другое. Яму прыпамінаюцца і жончыны словы—ці ты ліха сабе шукаеш?—І праўда: ці ня шукае ён сабе ліха? Пракоп ціха ўздыхае. Адвечны круг сялянскага жыцьця яму робіцца цесным. Падымаецца, садзіцца, зьвешвае ногі і думае. Яму штось трэба зрабіць, але што? Ня ведае. Трэба знайсьці нейкі выхад, на нешта адважыцца. У ваччу ўстае Мікіта. Як прасіў, як маліў, як дакараў бацьку, каб вярнуўся на сход! Але ён не вярнуўся, а хлопец плакаў ад крыўды.

Пракоп падымае галаву, пазірае праз цемень на тапчан, дзе сьпіць Мікіта. Мікіта сьпіць роўна і спакойна—што значыць моладасьць: яе не бяруць так згрызоты. Як забіраюць яны яго, старога. На патускнелыя ад гадоў і працы вочы набягаюць сьлёзы. Пракоп адчувае сябе адзінокім, яго штось есьць, грызе. І ён тут чужы для ўсіх, лішні. Адшчапіўся ад грамады, ад сям'і, як пень тырчыць на іх дарозе.

Перад яго вачамі ўстаюць белыя прасторы за вёскай, халодныя, неласкавыя, і дарожка на пагорку з рудымі плямамі аб чымся напамінае яму.

Ён рашуча падымаецца з пасьцелі, запальвае газоўку. Абуваецца. Накручвае на ногі суконкі, надзяе лепшыя боты. Адбірае адзежу, як-бы ён зьбіраецца ў госьці. Прачынаецца жонка, палохаецца, моўчкі глядзіць на Пракопа.

— Куды гэта строішся?—у жончыным голасе чутна трывога.

— Пайду ў сваю дарогу: нашы дарогі разыходзяцца.

— Пракоп! да адумайся ты! Што ты забраў сабе ў голаву?—лемантуе Таццяна:—ох, божачкі!

— Глухім стаўся бог для нас, і няма чаго ўспамінаць яго,—строга заўважае Пракоп.

— Тата! што з табою робіцца? Куды зьбіраешся?

Пракоп маўчыць. Адзяе кароткі кажушок, а наверх нацягвае доўгі, новы з шырокім каўняром. Становіцца перад абразамі, стаіць колькі хвілін, а потым насоўвае на вушы шапку, бярэ торбу з хлебам і палку.

Тацяна і Мікіта слупянеюць, а потым старая зрываецца з пасьцелі, хапае Пракопа за руку. Пракоп адпіхае яе, вырывае руку. На дапамогу ёй бяжыць Мікіта. Пракоп замахваецца на іх палкаю.

— Прэч!—Строга крычыць ён, а потым больш лагодным тонам гаворыць:

— Не замінайце мне, як не хачу замінаць і я вам. Цяпер ідзеце ў колгас: ня буду стаяць вам упоперак дарогі. А я цяпер—бабыль і вольны чалавек. Аставайцеся здаровы, жывеце шчасьліва.

І павярнуўся к парогу.

Жонка і сын кідаюцца зноў запыніць яго, але ён трасе на іх кіем і адганяе ад сябе.

— Ня ўводзьце мяне ў злосьць!

Скрыпнулі дзьверы, адны і другія, разоў пару хрыбуснуў сьнег, і стала ціха.

Цёмная ноч ахапіла Пракопа з усіх бакоў, і прыгнутая постаць яго зараз-жа зьнікла ў цемрадзі, не даходзячы да алешнічка, дзе праходзіць дарога.

II-X 1930 г.

## УДАРНІКІ

**Цішка Гартны**

Ударнікі, чуйце!
У сьвісту гудка,
Ў разьбегу станка,
У полымі зыркага горна
Глядзіць на нас вокам дазорным
Адозва Цэка.
Узмоцнена куйце!

*

Адважна на штурмы
Вялікіх работ
Мацуйма паход!
Вядзем мы
Стальныя брыгады!
Прарывам—
Ніякай спагады!
Трэцяга году прыход
Страчайма ударнасьцю бурнай!

*

Мы строім для сьвету
Адноўлены лад!
Ударны атрад,
Упорней
На подступ к комуне!
Нябачаным тэмпам,
Нячуйным
Разгонім варштат
Увагу к яму
Мы закрэпім!

*

За намі грамада,
Іх буйны уздым—
Зьліваюць у гімн
Аккорды
Натхненнай работы!
Энэргіі палкія ўзьлёты
Прыкладам сваім
Улійма у формы
Ударнай брыгады!

*

Гудзеце прыводы,
Шыпеце шківы,
Ў мамэнт баявы!
Разносьце
Свой окліч праверны
Да кожнай машыны ў майстэрні,
Да цэху завода
Прасоўвайце вы!

*

Ніводзін рабочы
Ў баку ад задань!
Працоўную дань
Краіне
Нясем колектывам!
Выконвайма
Тэмпам бурлівым
Промплян
І днямі і ўночы!

*

Змаганьне сумненьню,
Змаганьне ныцьцю!
З пуці не саб'юць
Нас
Ворага шкодныя дзеі!

Хай толькі паганец пасьмее
Нам шляхператнуць,
Як знойдзе сабе ён—
Зьнішчэньне!

*

Стальною калёнай
Ударных брыгад
Працоўны загад
Мы выпаўнім дружна,
Да сроку!
К вытворчасьці
Пільныя ўзрокі!
Пружынісьцей
Ўпартыя крокі!
Змыкаймася ў рад
Пад сьцягам чырвоным!

*

Ударнікі, чуйце!
У сьвісту гудка,
Ў разьбегу станка,
У полым'і
Зыркага горна—
Глядзіць на нас
Вокам дазорным
Адозва Цэка!
Узмоцнена чуйце!

# ВЯСНА

*Аповесьць*

**Кузьма Чорны**

I

Спакойная і цьвёрдая рука нашых хлопцаў давяла да таго, што да нас пачалі зьяўляцца новыя людзі—з коньмі, плугамі, калясьмі. Першы зьявіўся Сымон Мікуць. У той дзень у нас на полі работы ня было: з самага раньня і аж цераз поўдзень ішоў дождж перагонамі. Паміж двума дажджамі Мікуць і ўляцеў на наш шырокі двор. На сваім трыбухатым кані ён тросься і падскакваў, як на пакуце якой. Босыя ногі з падвязанымі калошамі матляліся паабапал каня. Ён заехаў пад самы аполкавы хлеў, дзе было наша гаспадарчае прыладзьдзе і гупнуў нагамі ў мокрую зямлю. Быў ён увесь мокры і ўгінаў карак у гаматны каўнер рудое жыкеткі. Шарачкавыя нагавіцы былі на ім вузенькія, калені павытыркалі ў іх. У руках ён трымаў ядлаўцовае пугаўё, яго ён адразу кінуў на саначкі з плугам. Конь падаўся назад, тручы аб нагу губою і аслабіў пастронкі. Мікуць стаў у адчыненых дзьвярах хлява. Шэсьць чалавек правілі кары: жніво і прыборка з поля былі блізка. З старое прывычкі, Мікуць сказаў:

— Памажы, божа.

І зусім забянтэжыўся: стала яму няёмка. Гэта ён хацеў пачаць гаворку добра і пасяброўску.

— Здароў, дзядзька,—сказаў наш Костусь, атрэпаючы з талстоўкі стружкі і падаючы Мікуцю руку.

— Я прыехаў да вас,—адказаў Мікуць.

— Бачым, што да нас.

— Зусім да вас прыехаў.

— А ты-ж, дзядзяка, як мае быць надумаўся?

— А як-жа.

— Ну дык прыходзь увечары на сход.

Самы старэйшы з нашых майстроў, Ладымер палажыў гэбаль і падышоў да Мікуця:

— Заводзь каня ў гурт... Як-жа гэта ты надумаўся?

— Як надумаўся? Паехаў з плугам на папар. Ну, паехаў, значыцца; дождж сабе йдзе, а я склею адзін... Ні душы нікога нідзе... От мяне і ўзяў

одум: вы сабе ўсе гуртам усё зробіце за пагоду, а я—кешкайся,важдайся адзін. Ды-й усё, адразу ўсяго не раскажаш. Не, думаю, хай сабе хто што хоча, а я...

— Адразу й тут да раю ня дойдзеш.

— Я гэта ведаю.

— Трэба спачатку глядзець на ўсё гэтакім вокам, і трымаць гэтакаю рукою, што каб...

— Я сам, здаецца, гаспадар і ведаю...

Ладымер і Сымон стаялі ў варотах і гулялі ў сталую гаворку. Ладымер насупроць Сымона зусім шчуплы і худы. Ён стары. Як гаворыць—плюе у бок, суха і дробна: „тфу, тфу, каб яго паляруш“. Яшчэ да колгасу, у вёсцы, яго ўсе прывыклі клікаць—Ладымер Паляруш. Прозьвішча яго—Стальмаховіч. Якраз-бо й сам ён стальмах, і вельмі добры. Але займаўся рамяством гэтым мала, ня было як ад гаспадаркі. Можа-б ён і лепш выграў, каб быў толькі стальмаствам заняўся, але што-ж, зямля цягне! Як ты яе кінеш! От ён і гібеў цэлы свой век бяз хлеба і бяз добрае адзежыны. Зямля нават была й ня кепская, але калі яе гэтулькі як старой бабе сесьці, ды калі яшчэ параскідана яна ў дзесяці кавалках, блізкі сьвет, дык... Ну, адным словам, Ладымер Стальмаховіч зазнаў за свой век галоднае і халоднае бяды.

Брат яго, Міхал Стальмаховіч, той крыху лепш жыў, але таксама ня вельмі. Той бязьдзетны. Удваіх з бабаю—дык колькі ім трэба! Кавалку хлеба—дык той жадзён ня быў. У колгас ён не пашоў. Праўда, яго былі ўпісалі, але без яго ахвоты. Гэтак і шмат каго. Дык колгас той доўга не пакрасаваўся. Ляснуў адразу. Але пра гэта ўспомнім пасьля.

Дык колгасаўскі стальмах, Ладымер Стальмаховіч, стоячы ў дзьверах, зьняў як-бы сяброўскі допыт з Сымона Мікуця. Гаварылі яны гэтак „да толку“ такі ніштавата часу. Нашы старыя людзі любяць пагаварыць. Нарэшце, Ладымер пачаў надаваць сваёй гаворцы тон навучальнасьці. Ён даводзіў Мікуцю тое, у чым той сам ужо ўпэўніўся. У іншы-б момант, дык Мікуць успомніў-бы, як Ладымер сам папамлеў, пакуль астаўся ў колгасе, але цяпер не да гэтага яму было.

Тут усе Ладымера Стальмаховіча любяць і шануюць. Ён практык, увішны ў рабоце, ня меў ніколі драпежніцкае хцівасьці, паспагадае і дапаможа, калі каму трэба...

Як скурылі па папяросе, зноў узяліся за работу, Мікуць падаўся з канём у глыб двара.

Было гэта з Ладымерам Стальмаховічам зімою. Мароз быў добры, пара была пасьля новага году.

У яго жылаватых руках задрыжала восілка і загойдалася вядро. Ацынкованая бляха завішчала, заскрыгітала. Конь глянуў на яго пудлівым зіркам, строс з скуры пацяруху і драпануў з двара.

Раніца была здаровая. Угару йшоў дым з каміноў, вароны ціхутка садзіліся на вецьце, позем спрабаваў увабрацца ў ясныя колеры. Ля студні намерзла высока і подступу каню ня было.

— Ніхто і не парупіцца каб абсячы. От бо народ!

З вуліцы ехалі сані. Ладымер пазнаў Банадысёвага каня. Сам Банадысь, высокі, у новым кажуху, пакуль сесьці ў сані, ішоў побач каня. Ля студні кінуў хцівае вока на Ладымера:

— Гэта-ж у цябе вядро новае!

— Новае.

— От, што меў я з прыкутага вядра паіць, дык дай я табе яго абнаўлю... І не абсячэ ніхто ад студні, гэтак намерзла. А-яй, што за людзі. Усякі ўсё на другога аглядаецца.

Узяўшы ў Ладымера вядро, ён пакаўзнуўся і траха ня ўпаў.

— Каб ім рукі паадбірала, як ніхто ня хоча. Усе туляюцца адно аднаго, каб першаму пад студню ня выйсьці.

Тут хтосьці быў вінаваты, хтосьці не хацеў абсячы лёду, хтосьці быў абібок, гультай нясусьветны. На яго злаваць трэба было! Яго клясьці трэба было!!

Узьлез на лёд, растапырыў ногі, упёрся каленьмі ў тын, прысядаў і цягнуў ваду. І ўсё стагнаў:

— От гультаі, от людзі.

А як аддаваў Ладымеру вядро, паважыў у руцэ, як-бы чаго пашкадаваў. Ці то таго, што вядро не яго, ці то большае што ўсьсела на яго і не давала спакою. Ладымер глядзеў, што да Банадысёвых саней прывязана карова.

— Ці не на кірмаш ты выбраўся?—сказаў Ладымер.

— На кірмаш?

— Карову прадаеш?

— Але. Што-ж, цяпер трымаць жывёліну? каб хто маім дабром ды карыстаўся, чорт лысы? У колгас усё адно забяруць. Я лепш сам спажыву пакуль што. Бо можа пасьля не давядзецца чаго добрага і ў вочы бачыць. Ня будзе ў што й зуба ўвязіць. Унь кажуць, што каля Агрэставіч зрабілі гэты самы колгас, дык і каровы і коні пазабіралі, адзежу кунпіскавалі і нават, кажуць, нагавіцы пазабіралі, каторыя ў каго лепшыя былі. Хадзі ў чым хочаш!

— Хадзі ў чым хочаш,—спалохана сказаў Ладымер.

— Хоць сьцёгнамі сьвяці,—паддаў яшчэ жару Банадысь—паншчына, кажу табе, Ладымерка, варочаецца. Спродвай карову і каня, ды спажыві, пакуль яшчэ льга, сам, бо пасьля...

— Ну добра,—пашоў у Ладымера пярэпалах з другога боку,—у цябе чатыры каровы, дык калі ты адну й прадасі, дык ліха цябе ня возьме. А я калі апошнюю прадам?

— Якія чатыры! Гэта ўжо другую прадаю. Усё паспродваю. Усё адно паншчыну робяць. Гэта кажу табе, Ладымерка, паншчына зноў варочаецца.

— Рабі што хочаш!—апусьціў рукі Ладымер.

— Я табе кажу, што рабіць.

Банадысь сеў у сані і сьцебануў пугаю сытую шыроказадую кабылу. Кабыла шпарка загупала нагамі. Карова не спраўлялася йсьці за саньмі.

— Будзе гэтак,—яшчэ раз азірнуўся Банадысь,—пазганяюць усіх і тады будзе табою арудаваць хто ўладу ў рукі ўграбе. А ты будзеш рабіць на яго і свайго нічога ня меціьмеш.

Ладымер явіўся дадому сам ня свой. Ён пастагнаў у сенцах, паенчыў, пабедаваў і падаўся ў хату. У хаце яго як мае быць разабрала. „Здаецца, зямля пад нагамі правальваецца"—расказваў ён пасьля. У хаце быў на той час толькі адзін унук яго, Міхалючок—сірата: бацька жывы не вярнуўся з польскае вайны. Цяпер Міхалюку год трынаццаць.

— Бяда, сынку,—сказаў Ладымер да Міхалючка,—у колгас зганяюць.

— Ну дык што,—адказаў Міхалючок.

Ладымер здаецца вырваў-бы ўсю віхрастую Міхалючкову чупрыну.

— Што ты ведаеш, дурань ты!

— А хто вам гаварыў?

— Банадысь.

— О-о! той вам нагаворыць! Чаму вы ні ў кога іншага ня пытаецеся, ды канешне ў гэтага заціскайлы. Вы нейкі падкулачнік, ці што? Вы клясавага ворага слухаеце!

І пачаў Міхалючок сыпаць проста такі, як з палітграматы. Ладымер яго ня слухаў. Што ты будзеш слухаць блазна, ды яшчэ свайго ўласнага ўнука! Ладымер пашоў з хаты распытваць у людзей і паслухаць, хто што дзе кажа.

Ладымера ўзяў тады ў работу наш Костусь. Ладымер, і ўсе ў нас, ведаюць Костуся з самых малых дзён яго. Як ён рос, як вырас, як зьявіўся ў нас, у каго служыў, як спаткала яго жыцьцё, што яно яму дало і як ён цяпер, як востры молат у распаленае жалеза, урэзаўся ў гэтае жыцьцё.

Мы скрозь гэткага ведаем, памятаем нашага Костуся.

Пачатак устае з сутоньня часу.

## Неаплачаныя даўгі

Увосень пад поўдзень, сонца як зьбярэ свае сілы,—разгорнецца дзе над каляінай позьні сіратлівы малачайнік—дробная кветка на высокім сьцябле. Падобна яна да цыбатае якое птушкі, што ў гэты час ляціць дзе-небудзь над полем у цёплы вырай, ці так куды ў спакой восенных узьлескаў. Цішыня тады стаіць скрозь. Пахне сьвежая ральля, пятрэе сухое бадыльлё, цьвёрды чабор хаваецца ў іржэўнік. З голаю галавою, ходзіць восень па ціхіх сваіх сьцежках. Яна садзіцца на берагох рэчак, гладзіць рукою траву. Рука ў яе каструбаватая, у зямлі. Восень сядзіць і бродзіць доўга. Часамі мацней правядзе яна рукою па самотнай чара-

Ладымер Стальмаховіч. Жняярка сьціхла. Мікалай спыніў коні, каб яны адпачылі. Сам ён падышоў да ўсіх.

— Ах, ах,—от што значыцца ня рукамі. Ах, ах, любата глядзець,—загаварыў Міхал Стальмаховіч.

— Мы гэта,—сказаў за ім сьледам Радзівон Бабака,—прышлі з ім (глянуў на Стальмаховіча) запытаць у вас як гэта трэба рабіць, каб да вас прыстаць у гурт, ці гэта заяву трэба пісаць, ці гэта як? І калі гэта лепш за ўсё рабіць?

Мікалай, Мікуць і Ладымер сталі з імі гаварыць.

А ўвечары раскідалася Рыгорава сям'я. І Тэкля, і Галена цэлы той дзень жалі на полі. Рыгор таксама быў на полі. Ён то жаў, то насіў снапы. Ніхто тут ні з кім не гаварыў цалюткі дзень. Усе маўчалі. Кожны глядзеў свае работы. Пасьля-ж позьняе вячэры, Мікалай падышоў пад Рыгораву хату. Ён доўга не чакаў тут. Адразу-ж выбегла да яго Тэкля і яны пашлі назад пад яго, Мікалаеву, хату. Людзі гэтага мала хто бачыў, але назаўтра з цёмнага пачалі гаварыць усе, што Тэкля назаўсёды пакінула Рыгораву хату.

Тымі самымі часамі Галена сказала бацьку, што йдзе замуж за Костуся. Яна адно памажа яму пажаць на полі. І Галена тымі-ж днямі пашла з бацькаўскае хаты. Рабіла яна яшчэ ў бацькі, але жыць перайшла ўжо на новае сваё з Костусем хатняе аселішча.

Рыгор ня божкаў больш. Ён некаторага дню палез на гару і дастаў там з-пад кастрыцы торбачку. Сядзеў там адзін і некалькі разоў пералічваў грошы. Дастаў крыху ў жменю, колькі яму здалося трэба было, а рэшту схаваў назад. І пашоў наняў некалькі жанцоў, каб скончыць сваё жніво. Дык Галена зусім пакінула бацькаўскую хату. І Рыгор астаўся як ёсьць адзін. Ён нават як-бы пачаў цурацца людзей. І пачалі гаварыць людзі—на ўсіх кублох папрыстройваў замкі, як-бы ў хаце яго жыў ня ён адзін, а шмат чужых і варожых да яго людзей. Сала ў кубле пачало псавацца. А ён варыў сабе сам квас з цыбуляю і часамі з сухімі тарановымі галовамі—іх ён хаваў цэлымі гадамі. І каб хто разварушыў яго сэрца і выклікаў яго на гаворку, ён бадай мог-бы сказаць, што рад гэткаму здарэньню: астацца аднаму! Тэкля? Сапраўды з кожным днём у яго расло задаваленьне, што яна кінула яго. А Галена? Ён быў рад вельмі, што „аддаў гэтак добра дачку замуж: чалавек папаўся добры, аніяк не запатрабаваў пасагу“.

Калгасаўцы як бачыш дажалі жыта і пачалі жаць ярыну. Надвор'е гадзіла. Вясна скончылася. Лета атаймавалася на шырокім полі.

Толькі канчаючы работу, людзі заўважылі, як страшэнна многа яны нажалі збажыны.

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ *)

## Якуб Колас

### XVIII

Зямля! дзе край тваім прасторам?..
Эй, поле, поле! раскажы,
Каго вартуюць тут крыжы,
У дол уткнутыя наскора?
Чыё пахована тут гора
На галічанскім рубяжы?
Маўчыць здрасованае поле,
Зацятасьць тояць і равы,
Дзе плуг прайшоўся баявы,
І іх адыграна ўжо роля,
І толькі вецер дзесь скаголіць,
Адзін астаўшыся жывы.
А войска—два віхры варожых—
У схватцы сьмертнай, баявой
На тэрыторыі другой,
На новым полі—раздарожжы
Крыжы, калецтва, гора множыць,
Касьцьмі засейвае шлях свой.
І ўсё—у імя вызваленьня!
За шчасьце нацый, дабрабыт
Узьняў бог Марс фальшывы шчыт,
Навёўшы сон і адурэньне,
Ды нёс няволю, разбурэньне
Ягоакованы капыт.
Расьлі што дзень, што час магілы,
Зьнікалі з дымам гарады,
А троп сахі, плугоў брады
Заносіў вецер горкім пылам,
Каб палыном і чорнабылам
Аздобіць Марсавы сьляды...
На ўсход адчынена дарога.
Праходзяць нашы зноў палкі,

*) Працяг. Гл. „Полымя“ № 4 за 1930 г.

Віхрацца ў полі казакі,
Як-бы і сташнага такога
Тут не здаралася нічога,
І песьні жарацъ землякі.
Набег, пранёсься шквал крывавы—
Чарговы вагар-перакат,
Як той раптоўны летні град.
Раёнам Грубешава. Равы
Дала вайна багата стравы,
Глынуўшы тысячы салдат.
І стала ціха. На Карпаты
Зноў націкаецца той шквал,
Каб што найбольшы ўзяць прагал.
Ня йдуць у лік людзкія страты—
Гані, пакуль настрой узьняты,
Пакуль ня вытахся запал!

Сышла зара. З глыбінь багровых,
Абрус заслаўшы агнявы,
Цікуе сонца з сінявы
На дол, на зьмятыя дубровы,
На зруйнаваныя будовы
І на забітых і жывых.
Сявец бліскучы поўнай жменяй
Вясёлкі сыпле з вышыні
І сее зернядкі-агні.
Лагодна сочацца струмені,
Ірдзяцца радасьцю праменьні
І ў буйных росах і на пні.
Ляжаць разгорнутыя далі,
Злучыўшы з небам берагі,
У тонкай намітцы смугі.
Плыві, хто вольны, плыткай хваляй
У сьвет шырокі далей, далей
За тыя цьмяныя кругі!

Абмеркавала мая Насьця
Падзеі ўсе ліхіх мінут.
Адзін, адзін ёй выхад тут:
Самой на плечы крыж ускласьці
Агульных боляў і няшчасьця
І часьць людзкіх узяць пакут.
Далоў ваганьне і сумненьне!..
Глухімі сьценкамі, лужком
Ідзе адно дзяўчо цішком.

На ўсход, на ўсход—адно збавеньне!
Прашчай-жа, роднае Засьценьне,
Юнацтва мары, бацькаў дом!
  Маркотна ёй і страшнавата
У невядомых берагох
На цёмных ростанях дарог,
Дзе ўсё маўкліва і зацята.
Яна староніцца салдата,
Як злодзей туліцца ў кустох.
Ды небясьпечна і туляньне:
Шпіёнкай могуць палічыць,
Па штабах стануць валачыць.
То лепш прыгодам на спатканьне
Ісьці адкрыта, без ваганьня,
Каб лішніх бед не налучыць.
Прынята новае рашэньне,
І, адганяючы той страх,
Яна зварочвае на шлях.
Жывы паток жывых струменьняў
Ўвабраў яе ў сваё імкненьне
У неакрэсьлены абсяг.

Грыміць, гудзе дарога,
Грукоча дзіка, тлумна,
А далі сочаць строга,
Зацята, многадумна.
Ідуць байцы, як хвалі
У скатках цераз плечы,
А сонца зорыць з жалем
На іх з глыбінь-сінечы.
Ахутаныя пылам,
Аглушаныя громам,
Ідуць яны к магілам
Далёкім, невядомым.
Паўзуць, гудуць гарматы,
Сталёвыя драконы,
А з крыжа бог расьпяты
Глядзіць так засмучона.
Гурчаць аўтомобілі,
Сярдзіты іх пагрозы.
На вёрсты і на мілі
Расьцягнуты абозы.
Нястрымны рух, імкненьне.
Двуколкі, людзі, коні,

А ўзбоч у задуменьні
Ляжаць пустыя гоні.
Імклівіць, коціць хваля
Бязглуздага зьнішчэньня.
У гэтым перавале
І сьмерць і разбурэньне.
Насустрач грознай плыні
Ідуць другія хвалі,
Маўклівы, як пустыні,
Як сьцёртыя скрыжалі.
Пад знакам „крыж чырвоны"
Праходзяць іх дарогі.
І колькі эшалёнаў
Бязрукіх і бязногіх!

Дзяўчыне страшна з няпрывычкі,
Няёмка ёй, ідзе хутчэй
Пад стрэлы тысячы вачэй.
Яе прымаюць за „сястрычку"
І жарцік пусьцяць невялічкі,
Было-б дзяўчыне весялей.
А то і песьню, адпаведна
Спатканьню з краляю-„сястрой",
Зацягне вухар і герой,
А ўвесь узвод трубою меднай,
Як нейкі гімн жыцьця пабедны,
Прыпеў падхопіць: „Дзеўка, стой!
Пабалуемся з табой!"
На момант труднасьці забыты
Вайны, паходнага жыцьця,
Ну, хоць мінута забыцьця.
А сыдзе момант-міг і квіта—
У цёмны колер зноў спавіта
Жыцьцё, блуканьне без пуця.
А Насьця толькі ўтупіць вочы
Ды загарыцца ўся, бы мак,
Пад жарты вольныя ваяк.
Ды што зрабіць? Усе ахвочы
Парушыць трохі стыд дзявочы,
Разьведку робячы няўзнак.
Ды покі што яе дарога,
Сказаць, ня так ужо страшна,
Як сабе мысьліла яна.
А ў гэтых жартах што ліхога?

Ваяк ня судзіць Насьця строга,
І ім даруецца віна.
Такіх выпадкаў мімалётных,
Нязначных стрэч, пустых, як сон,
Ў жыцьці налічыцца мільён
Іх час праносіць беззваротна
Паводле прыказкі журботнай:
„З вачэй далоў—і з сэрца вон“.
  Прайшлі палкі і іх абозы,
Бязьлюдней робіцца крыху
І прастарней на тым шляху.
Старыя ветлыя бярозы,
Пастаўшы ў вычварныя позы,
Вярхамі сходзяцца ў страху.
У іх цяньку сядзіць прывольна
Палонных гурт у колькі сот,
Папаску робяць без клапот
Ды кураць з нашымі супольна
І, як відаць, усе давольны—
Усё-ж бо нейкі паварот.
К таму-ж у ворага ў баклажках
Сям-там знайшоўся добры ром,
Каб улагодзіць тым дабром
І ад канвойных мець паблажку.
Сядзяць, шынэлі нараспашку,
Пусьціўшы выпраўку на злом.
Сядзяць, гутораць, хто як можа,
На свой манер, на свой узор.
Забыты штучны іх раздор
Ды і якая ў іх варожа,
У мас працоўных з Віслы, Сожа,
З Уральскіх і Карпацкіх гор?
  Мінае Насьця табар шэры,
Папаску мірную, прывал,
З прысад выходзіць на прагал,
А там шыбуюць афіцэры—
Адзеньне іх і іх манеры,
І не пазбыт у іх капрал:
Чаканяць крокі пехадрала,
Нясуць каманды гонар свой,
Не панікаюць галавой
І тут карона з іх ня спала,
Ім і ў палоне гора мала,
І больш пачэсны ім канвой.

Глядзіць—зьмяншаюць крок паволі.
Слабее ляск іх звонкіх шпор,
Ї ўраз спыняюцца—затор.
У Насьці сэрца мімаволі
Ў грудзях застукала да болі,—
А пара воч глядзіць ў упор!
Зірнула Насьця, задрыжала—
Ці вочы ёй заслаў туман?
Їх пастаялец, Крочак Ян!
Не, пастаялец сказаць мала:
Яна-ж яго і цалавала,—
Нашто уводзіць сябе ў зман?
Хацела зьбегчы ад той стрэчы
Ї не пазнаць тых палкіх воч,
З дарогі кінуцца на ўзбоч,
Ды позна ўжо і ці да рэчы
Хаваць пачутак чалавечы,
А вочы-ж чорныя, як ноч!
Яна глядзіць у замяшаньні.
Ї Крочак так-жа сам ня свой.
Ківае ветла галавой
Ї ў нязвычайным хваляваньні
З радоў бяжыць ёй на спатканьне
Ї не зважае на канвой.

Крочак

Вы, панна?! якім чынам?

Насьця

Хіба-ж мне сьвет сышоўся клінам?
Дарога вольна, сьвет адчынен...
Їду к сваім,
Мо' там карысна буду чым—
Пры дзеле кожны быць павінен.

Крочак

Ах, панна!
Я так шчасьлівы бачыць вас,
Хоць можа і ў астатні раз,
Бо шчасьце гэтак зманна!..

Я—ваш палонны... дубальтовы...
Ї без дазволу ад канвою
Ня маю права выйсьці з строю,
Каб вам сказаць хоць два-тры словы...
А што скажу?
Вы так суровы
Ї скупы сталі на размовы,
Ї я пастаўлен за мяжу...
Ды я давольны ўжо і тым,
Што мы паветрам дыхаем адным
Што ў старану адну, дарогаю адною
Хоць міг адзін прайшліся вы са мною...

Насьця

Пакіньце лепш аб гэтым—
Хай будзе яно сном...

Крочак

Ня выпітым віном,
Прыгожым пустацьветам?
Так, так!.. Куды-ж ідзеце,
Калі то не сакрэт?
Што маеце на мэце,
Пускаючыся ў сьвет?

Насьця

Не, гэта не сакрэт!
Я мела намер не са ўчора
Узяць хоць часьць людзкога гора—
Пайці ў шпіталь ці ў лазарэт...
Скажэце... чулі можа вы
Аб афіцэру тым?
Што стацца магло з ім?
Ці ён жывы ці ня жывы?
Прышоў і зьнікнуў патаемна.
Ї мне так цяжка, няпрыемна!
Ї ўсё стаіць ён мне ў ваччу,
Бы кара нейкая, дакораю жывою.

Крочак

Ня ведаю... ня чуў.—
Ї нікне чэх мой галавою.

Вось так стаяць яны, гутораць
Урыўкам, потайкам, насьпех,—
Малы той гутарцы разьбег,
А афіцэр канвойны зорыць,
Што там яшчэ за разгаворы
І дзе знайшоў дзяўчыну чэх?
Глядзіць—дзяўчына варт увагі—
Павабна, сьвежа—макаў цьвет,
А сам паручык—сэрцаед.
Ён вус крутнуў, паправіў шпагу
І крыж—пасьведчаньне адвагі,—
Ды мкне туды, на сьвежы сьлед.

Паручык

Прашу прабачыць!
Не палагаецца, калега,
Такая, так сказаць, кунега,
А самавольства і тым пача.
Вы—афіцэр, павінны ведаць самі
І ня выходзіць з свае часьці.
І ён абводзіць іх вачамі
І запыняецца на Насьці.

Крочак

Прашу, паручык, прабачэньня!
Ды выпадак такі,
Што стала ня з рукі
Унікнуць праступленьня.

Паручык

Я разумею вас.

Крочак

Дазвольце пазнаёміць...
Учора жыў яшчэ ў іх доме,
Ды ўсё зьмяніў апошні час.
Мы выбіты з позыцый,
Я ў палоне, ну, а панна—
Яна жадала пастаянна

Застацца пры бальніцы
У якасьці сястрыцы.
  Зірнуў паручык дурасьліва,
Бы разгадаўшы тут загадку.

Паручык

Ну, і іншыя мотывы,
Сказаць, сардэчнага парадку...
Эх, эх! Ваюем мы,
Мы праліваем кроў,
Дзяўчаты-ж з ворагам
Іграюць у любоў!

Крочак

Забойчы ваш монолог,
Ды выказан насьпех:
Паручык! вы—стратэг,
Але вы ня псыхолог!
Мотывы—не пярэчу,
Ды вораг ня пры чым,
І вузел іх прычын
Ня ў зьвязку з гэтай стрэчай...

Паручык

Пардон! уведзены я ў зман,
А ўсё-ж аснова тут—роман!
І хто-ж ён ваш абраны,
Шчасьлівейшы з сьмяротных,
Што сэрца ваша раніў
І ў стан прывёў журботны?

Насьця

Даруйце мне,
Ды я не вінавата,
Што чуласьці ў людзей
У час наш малавата.
  Замінка ў гутарцы, маўчаньне...
Паручык толькі вус крутнуў,
Але і вокам не змаргнуў
І не зьбянтэжыўся нізваньня.
А чэх і Насьця ў замяшаньні
Пра сцэнку ўспомнілі адну.

Паручык

Так, жорсткі час,
Што грэх таіць?
Згаджаюся я з вамі.
Ды жорсткасьць не пра вас:
Яна не устаіць
Прад вашымі вачамі!
Хваліцца не хачу—
Хвальба мне не ўласьціва,
Але не прамаўчу:
Ваш лёс цікавіць мяне жыва.
Вы хочаце ў шпіталь?
Сястрою быць? вось вам запіска...
Луцк. Готэль „Контыненталь“,
Галоўны ўрач Бадзіска.
Мой друг. Дзялілі з ім ня раз
І гора і пяшчоты.
Ён зробіць ўсё для вас
І з радасьцю ў два шчоты.

Насьця

Шчыра дзякую і бяру назад
Я свае словы.
Якая мілая паслуга!

Паручык

Сардэчна рад!
І помніце-ж вы друга,
Паручыка Чухлова...
Ну-с, добры час!

Крочак

Дазвольце, панна Насьця,
Пажадаць удачы, шчасьця,
Душы спакою, сэрцу згоды:
Ў апошні раз
І... назаўсёды!

* * *

Ідзе Настуся на адгоне.
На вочы сьцелецца імжа,
Між імі шырыцца мяжа,
А побач з Насьцяй цягнуць коні
Фургон закрыты, а ў фургоне
Гэрой мой, прапаршчык Дзяжа.
Калышуць гнуткія рэсоры,
Мільгаюць постаці бяроз,
А ён пад тухканьне калёс
Дрымотна з марамі гуторыць
Пра тое, што з ім было ўчора,
Пра Насьцю і пра яе лёс.

25-IV—30-X 1930 г.

## АД ВОУКАВЫСКУ ДА ЗЬБЕГУ *)

*(Успаміны)*

**С. Бройдэ**

Пачалося звычайнае зьверства, якое на ўсім працягу нашага прабываньня ў палоне стала настолькі штодзенным зьявішчам, што зацішша на дзень, два здавалася недапушчальнаю рэччу, „пагулянкаю“ з боку варты.

Як заўсёды, шукалі яўрэяў. Ня гледзячы на тое, што насельніцтва лягеру і ў прыватнасьці нашага бараку было даволі стацыянарным і што апошнія шуканьні адбыліся ўсяго тры дні назад, варта зноў у кожным з нас намагалася спазнаць яўрэя. Варце даволі было палічыць Валагодзкага селяніна яўрэем, каб абвясьціць яго комуністым і потым расстраляць.

Калі русыя валасы былі варце перашкодаю, для сьцьвярджэньня, што палонны злачынец (яўрэй), дык гарбаты нос, валасы ў завітушкі, чорныя вочы, усё гэта былі пэўныя адзнакі прысутнасьці яўрэя ў лягеры.

П'яныя салдаты па чарзе цягнулі да ліхтара ўсіх, хто выклікаў у іх хоць невялікае падозраньне ў прыналежнасьці да яўрэйскае нацыі.

У гэтую ноч яны зусім звар'яцелі, гарэлка ці што зрабіла на іх уплыў больш звычайнага, але ў выніку свае агіднае працы яны пацягнулі з палаты шасьцёх чалавек.

У ліку апошніх быў забраны і Грознаў. Мы адразу былі зьбянтэжыліся, але потым, пераглянуўшыся, вырашылі рушыць усьлед за таварышом з тым, каб або адбіць яго ад катаў угаворам, або загінуць разам з ім.

Дапамагла выпадковасьць: адзін з варты быў салдатам, які зьмяняў Грознаву хлеб на мае чаравікі.

У самы апошні момант, ужо каля выхаду з бараку ён сказаў іншым з варты—„кіньце яго“ (Грознава) і гэтага было даволі на тое, каб Грознава зноў залічылі ў хрышчоныя і пакінулі ў бараку.

Ноч прайшла ў трывозе. Мы чакалі, калі вернецца п'яная варта і новага нападу.

Барак замёр.

---

*) Гл. „Полымя“ № 8, 9—10 за 1930 г.

Кожны намагаўся не падаваць адзнакаў жыцьця, баючыся, што якінебудзь шолах, рыпеньне дошкі зможа прывабіць увагу варты і чыюнебудзь сьмерць, бо тыя, каго гэткім чынам выцягалі з бараку—болей ніколі не вярталіся.

Ад ранку той самы кавалак хлеба і гарачая гатаваная вада, а потым вылежваньне на нарах, або асьцярожнае блуканьне па бараку.

Паміж нас быў новы чалавек—Шаліма.

Мы яго абступілі і прымусілі, каб ён вёў далей спыненае ўчора апавяданьне. Мы не вярталіся да падзей мінулай ночы; кожны раз, калі ў бараку адбываліся гэткія „справы“, мы на раніцу не гаварылі пра іх,—бо інакш мы рызыкавалі давесьці сябе да стану блізкага да вар‘яцтва. Мы сьвядома адцягвалі сябе ад гэтага, завострываючы сваю ўвагу на пляне зьбегу. На гэты раз была магчымасьць пачуць слова пра вал,—мы падганялі Шаліма апавядаць далей, гэта лажылася між намі і ноччу і пазбаўляла нас ад яе жудасьці.

— Дык вось, з таго часу,—апавядаў далей Шаліма,—я быў накіраваны ў варту Вамышульскага вучастку. Жылося нам ня дрэнна. Немцы нас не турбавалі, палякаў поблізу ня было. Запраўды мы сьвяткавалі штосьці падобнае да перамір‘я. Але вось 20 красавіка на нас зусім неспадзявана напаў, невядома адкуль узяўшыся, атрад палякаў. Я ў гэты час на стайні даваў коням сена. Коняй у нас было двое, бо вельмі часта даводзілася выяжджаць на разьведкі. Неспадзявана для самога сябе пачуў крык.

Вышаў са станцыі, вырашыўшы, што нашы дурэюць. Але тут-жа на мяне накінуліся два палякі, паваліла на зямлю, зьвязалі ногі, і за ногі павалаклі ў бок ад нашай стаянкі. У такім нязручным становішчы цягнулі яны мяне, прыкладна, з паўвярсты, пакуль не зацягнулі ў нейкую хатку, дзе разьвязалі ногі, прыставілі да скроні дула рэвальвэра і загадалі расталумачыць падрабязна як дзе расстаўлены чырвонаармейскія часьці. Я надумаў іх перахітраваць. Неабходна адзначыць, што я забраны быў у аднэй бялізьне, а зьверху была вось гэтая бравэрка. Яе я накінуў на сябе, выходзячы з хаты.

І я пачаў хлусіць: сам я, моў, сын гаспадара хаты,—хворы, нічога, гэта, аб чырвонаармейскіх часьцях ня ведаю. Удаў я з сябе дурнога. Блытана тлумачыў нібы ў самой вёсцы стаяць тры нашых роты, а з імі безьліч кулямётаў. Палякі насторожыліся, пачалі мяне ўпарта распытваць аб колькасьці гармат, кулямётаў, даведваліся, ці ёсьць у чырвоных коньніца,—а я з натхненьнем хлусіў ім што папала. Казаў, што кулямётаў шмат, а пэўна колькі іх ня ведаю, кожны дзень іх па некалькі на брычках правозілі паўз нашы вокны,—ды і коньніцы шмат, без канца зьъдзяць, сена ад нас патрабуюць.

— А шмат коньніцы?—не спынялі свайго допыту палякі.

— Ды чалавек з тысячу,—ляпнуў я.

Разьлічваў, што пераўвялічыўшы колькасьць чырвонаармейскіх часьцей, я напужаю палякаў і гэтым самым прымушу іх уцячы.

Так і сталася, як меркаваў.

Скончылі са мной допыт палякі, параіліся паміж сабою, забралі ў гаспадара тае хаты, у якую прыцягнулі мяне, каня з брычкаю і паехалі ў супроцьлеглы бок. Але... на маю бяду забралі і мяне з сабою. Гэта было горш. Як я не прасіўся ў іх пусьціць мяне, даводзіў, што мне заўтра трэба ісьці на працу ў поле, плакаў наўзрыд,—нічога не памагло.

Пасадзілі мяне ў брычку і павезьлі з сабою.

Сяджу ў брычцы, а на душы змрочна, цяжка. Усё думаю, як дурнем—далей мне трымацца ці ўдасца і надалей удаваць з сябе.

Прыехалі мы ў мястэчка Кашадары, дзе зьмяшчаўся штаб палка.

Узялі мяне там у работу. Зрабілі допыт як сьлед. Наплёў я ім цэлую бочку. Афіцэры кажуць: „Шпіён, сукін сын, арыштаваць яго!“ Але, як відаць, добра далася ім мая дурасьць, бо арышт далей за пагрозы не пайшоў.

На другі дзень было атрымана ў штабе польскага палка паведамленьне аб тым, што забралі Вільню.

Моцна вылаяўся, але нездавальненьня свайго ня выказаў.

— Значыцца,—вырашыў я,—нашых хлапцоў, якія стаялі ў Жосьлях, Паяцышках ды Вамішулях, забралі ў палон і, напэўна, прывезьлі ў Кашадары, дзе знаходзіўся і я.

Гэтак і сталася. Калі мяне разам з гуртам іншых палонных накіравалі ў турму, а адтуль перагналі да камэнданта мястэчка Кашадары, я апынуўся пасярод сваіх. Пашанцавала, што палякі ўсё-ж не здагадаліся, хто я і таму мяне даволі такі мала білі, іншых-жа палонных лупілі да немагчымага.

— Ну, а ў вас як?—і вас, мусіць, шмат папабівалі?—скончыў Шаліма.

Мы не хацелі псаваць настрою таварыша і ў адказ прамаўчалі.

Зразумеўшы ўсё і бяз нашых тлумачэньняў, Шаліма, каб не навесьці на нас цяжкіх думак, весела запытаўся:

— А як у вас тут з харчамі? Есьці хочацца?

— Дрэнна, вядома,—адказаў я.—Вада з буракамі, ды буракі з вадою. Крупнік гэткі, што крупінка за крупінкаю гоніцца з дубінкаю і здагнаць ня можа!

— А колькі хлеба даюць?—запытаўся Шаліма.

— На унцыі ўзважваем. Таварыш Грознаў новую вагу вынайшоў,—паддзеў, натрапіўшы на свой звычайны тон, Пятроўскі.

— Ну, дармо!—супакоіў нас Шаліма,—я вас пакармлю. У мяне ў сарочцы кішэня і там як узялі мяне, у ёй ляжала каля дзьвёх тысяч керанкамі, так яны і засталіся. На ежу хопіць!

— Ды няўжо?—зьдзівіліся мы.

— Ня верыце, дык вось—глядзеце.

І, засунуўшы руку за пазуху, Шаліма выняў адтуль жмут керанак, на сорак рублёў і дваццаткамі.

— Дай, Шаліма, дваццатку, пайду куплю булку хлеба.

— Трымай,—сказаў Шаліма. Асьцярожна разгарнуў керанкі, адарваў ад жмута саракарублёвую, і, падаючы яе Пятроўскаму, сказаў:

— Добра-б было, каб ты і сала да хлеба купіў.

Мы ўсе засьмяяліся, а Грознаў сказаў з запалам:

— Я цяпер і чорта ў ступе куплю, ня толькі сала.

Ён шпарка зьнік. Гутарка наша ішла далей. Мы расказалі, вядома, Шаліму пра плян нашага зьбегу. Ён вельмі сур'ёзна выслухаў нас і сказаў:

— Зьбег трэба падрыхтаваць як належыць. Дарма рызыкаваць ня варта. У гэтай гульні справа ідзе пра жыцьцё. Калі палякі зловяць, дык тут ад кулі ў лоб не адкруцішся. На мой погляд Пецьку зараз уцякаць нельга, ён гэткае вялікай дарогі ня вытрымае. Цяпер-жа вясна, паводка, дарогі ў лужах, балота—самая багна. Лепш было-б пачакаць, а тым часам і Пецька падужае.

Я чую ня толькі спакойныя словы Шалімы, але і адчуваю колькі ў гэтай разважнасьці захавана мужчынскай разьмеранай сілы. Я ня меў сумніва ў тым, што ў адказе Шаліма не падпадзе пад нашы настроі, а хутка орыентуецца ў абстаноўцы і дасьць найбольш цьвярозую ацэнку становішча.

Ужо ў першапачатковым апавяданьні пра падзеі на фронце выявіўся ўвесь Шаліма—сухі сьцісла дыягноз хваробы без падрабязнасьці ўсяе абстаноўкі.

Гэткім ён быў і ў палку. Сур'ёзны не па гадох ён заўсёды выклікаў пашану да сябе і ніхто не дазваляў сабе ніякіх жартаў над ім.

Здабыў ён гэткае становішча вельмі орыгінальным шляхам. Мы сталі ў вёсцы і нудзіліся без работы. Камандаваньне нас затрымлівала, бо мы падаліся далёка ўперад ад другіх палкоў дывізіі і небходна было прыпыніць далейшае наступленьне пакуль, падыдуць часьці, што засталіся ззаду. Палякі, паводле паведамленьняў разьведкі усё яшчэ хутка адступалі. Тым ня менш Шаліма расстаўляў дазоры і вартавых гэтак сама, як і раней, калі мы ішлі ўперад, літаральна, на плечах супраціўніка.

Гэта выклікала нездавальненьне сярод чырвонаармейцаў. Асабліва бузіў адзін хлапчына, што нядаўна прыбыў у часьць, якому не падабаўся гэткі строгі рэжым і які цішком падбухторваў чырвонаармейцаў супроць Шалімы.

Апошні, заўважыўшы, што навенькі дрэнна ўплывае на іншых, зрабіў наступнае: паслаў хлапца ў дазор цёмнаю ноччу, у самае далёкае месца на ўскрай лесу. Той спакойна заснуў, а Шаліма, падкраўшыся, украў у яго вінтоўку. Пры зьмене варты выявілася прапажа вінтоўкі. Хлапца публічна судзілі, байцы ня мелі нахілу да жартаў і выратаваў яго толькі Шаліма, які ўзяўся хадайнічаць перад начдывам аб памілаваньні.

Пасьля такога выпадку ў палку зразумелі, што з Шалімам небясьпечна жартаваць і загады яго больш не крытыкаваліся.

Разам з гэтым, байцы лічылі яго „свойскім хлапцом“, і зварочваліся да яго па справах, якія нічога агульнага ня мелі са службаю.

Сам селянін, ён быў у курсе ўсіх пытаньняў, якія не пакідалі турбаваць селяніна нават, калі ён быў з вінтоўкаю ў руках, таму было зусім натуральна, калі на прывале ён быў у сярэдзіне гуртка, дзе абмяркоўвалі „сялянскую долю“. Гэта стварыла моцнае яднаньне паміж ім і камандаю і дужа ўзмацняла дысцыпліну ў яго часьці.

Шаліма ўмеў і ў абстаноўцы ваенных дзеяньняў навучыць байца шанаваць клясавы твар Чырвонае арміі. Памятаю гэткі выпадак. Атрад Шалімы пасьля жорсткае бойкі ўвайшоў у вёску. Палякі сьпешна адступілі. Вёска аказалася вымерлай.

Як толькі заціхлі стрэлы, у поле выехаў на худой канячыне селянін і з ім дзяўчынка гадкоў дзесяці.

У яго ня было страху. Яго абцяжарвала праца. Ён павінен быў араць. Калі побач ваявалі і яго поле перакапалі рыдлёўкі—ён усё-ж павінен быў араць. Ён дапамагаў каню і цяжка было сказаць, хто больш траціць сілы—чалавек ці конь.

Высока ў небе паказаўся польскі самалёт. Загрымела—адна за аднэю разарваліся дзьве бомбы.

Наша гармата пачала страляць па самалёту карцечай. Конь пачаў пудзіцца. Селянін узяў яго за вобруць і прымусіў працаваць.

Было нешта надзвычайнае ў гэтым селяніне, які ігнараваў небясьпеку сьмерці і не пакідаў працы.

Да селяніна і дзяўчынкі далучыўся трэці—гэта быў Шаліма.

Калі трое ішлі з поля, Шаліме ня трэба было правяраць каманду—варты былі расстаўлены, зброя вычышчана.

Гэта было ўдзячнасьцю за навуку, якую Шаліма даў атраду і якая была больш зразумелаю за даклад аб міжнародным становішчы наеждых прамоўцаў.

З яго прыходам мы пачалі верыць у посьпех зьбегу, у тое, што нам удасца перайсьці ад слоў да справы. Сам я пачаў верыць у тое, што хутка папраўлюся,—прынамсі, зьявілася палкае жаданьне быць заўсёды з таварышамі, як у шчасьці, так і ў бядзе.

У керанцы Шалімы аказалася шмат калёрый. Пасьля доўгага недаяданьня, хлеб з салам і вадою здаўся нам самаю смачнаю стравою на сьвеце.

— Вох,—сказаў Грознаў,—трэба ўлегчыся, нажэрліся. Ну, Шаліма, дзякуй.

— Нічога, нічога,—па-бацькаўску патрос яго за плячо Шаліма.—Цяпер з месяц будзем гэтак харчавацца.

— Ну, тады мы напэўна жываты загадуем,—сказаў Грознаў.

Мы ўсе дружна засьмяяліся. Першы раз за доўгі пэрыяд часу сагучэў сьмех.

Грошы Шалімы пачалі хутка зьнікаць.

Мы штодня куплялі хлеб, іншы раз і сала. Усе мы пачалі хутка папраўляцца. Памятаю, упяршыню адчуў я сябе здаровым і продэманстраваў перад таварышамі—прабег на спробу даволі жвава некалькі сажняў.

— Ну, вось, вельмі добра,—сказаў Шаліма,—яшчэ тыдзень і мы зможам драла задаць.

Пачаліся гарачыя нарады, прысьвечаныя зьбегу.

Надыйшоў май, прыпякала сонца.

У тыя рэдкія гадзіны, калі нам удавалася вырвацца з бараку, мы падоўгу глядзелі за агарожу, дзе сіняе неба не разьдзіралася калючым дротам.

У бараку была пахмура, як у сабачай будцы, і ў нас усіх быў выгляд аблезлых сабак. Неба было чыстае і калі доўга глядзець у яго сінеючую даль, забываецца і барак, і бруд, і варта.

Пратаптаная сьцежка падсыхае пад праменьнямі сонца і па бакох яе зелянее траўка.

Вартавы стаіць ля брамкі і таксама застыглым поглядам глядзіць у прастор.

Аднекуль зьяўляецца аблезлы кот і зграбна, без разгону, з месца ускаквае на плот.

Вартавы выцінае яго прыкладам (убачыўшы ў ім, напэўна, бальшавіка), кот уцякае, ён адно скача па плоце ў бок і сузіральна ўглядаецца ў празрыстую сінь. Ён жмурыцца ад сонца. Зграбна выгінае сьпіну і закручвае хвост. Яго продак пасьля гэтага руху апускаў вушы і кідаўся на чалавека. Кіпцюры ў жывот, зяпу да горла. Сіла, кіпцюры і зяпа даўно страчаны. Тыгра перарадзіўся ў дробную пароду, якая здольна толькі шукаць жоўтадзюбых вераб'ёў у гнёздах.

У нас нядаўна была сіла—няўжо мы таксама ўсяго толькі аблезлыя каты, у якіх не засталося сілы для змаганьня.

Мы з тугою глядзім на поле, што зелянее воддаль, датуль, пакуль вартавы не замахваецца на нас з пагрозаю прыкладам.

— Трэба ўцякаць. Трэба ўцякаць,—думае кожны з нас.

Ногі наліваюцца волавам—цяжка стаяць. Усё-ж мы ня рухаемся з месца, а моўчкі глядзімо далёка-далёка, у бездань неба.

Вочы баляць і ў куточках павек сьлёзы. Боязна абцерці—не заўважылі-б таварышы і не сказалі-б, што гэта ад мае слабасьці.

Яе я больш ад усяго баюся, бо набліжаюцца рашучыя дні зьбегу.

Вясна адчуваецца на ўсім лягерным жыцьці. Апошнія дні мы ня бачым начальства. Мы пакінуты ў распараджэньні вартавых. Гэта трохі робіць вальготным рэжым.

Аднаго разу—ноччу мы выразна чуем за дашчатаю сьцяною бараку жаночыя галасы.

У вартавых госьці.

Сарокін даходзіць да шаленства. Ён адшуквае найбольш тонкія месцы ў сьцяне і туліцца вухам да яе. У бараку кпяць з яго. Упяршыню за доўгія дні чуваць жарты. Хтосьці спрабуе зацягнуць песьню—яго супыняюць суседзі.

Мне не падабаецца поза Сарокіна, я хачу адцягнуць яго да нар. Пятроўскі не дае мне ўстаць з нар і сілком укладае мяне.—Не чапай чалавека,—кажа ён—няхай яму адляжа.

Мне робіцца ніякава за сваю нецярплівасьць і я пакідаю Сарокіна ў супакоі.

Час уцякаць, нельга упускаць моманту.

Мы тут-жа зьбіраемся каля Пятроўскага і вызначаем тэрмін. Робіцца спакайней.

Як быццам палова справы зроблена.

Набліжаецца раніца. Ніхто з нас ня можа заснуць.

Задоўга да звычайнага часу ў барак зьяўляецца унцер-афіцэр. Чуецца каманда: „сабірацца з рэчамі“.

Я бачу, як мяняецца з твару Пятроўскі, бачу здэтанаваны твар Громава і адчуваю сябе асабліва ніякава. Гэта-ж, каб ня было мяне, мае таварышы ўцяклі-б даўно з лягеру і, магчыма, дайшлі-б да нашых, я стаў ім гэткаю цяжкаю перашкодаю.

Я ня чую ніводнага слова дакору і ад гэтага мне асабліва балюча. Калі-б трэба было, я ахвяраваў-бы сваё жыцьцё, каб зьвярнуць ім гэту магчымасьць, але позна, і я з балючым пачуцьцём свае вінаватасьці гляджу на сяброў.

Палонныя сабіраюцца. Што-ж, трэба рабіць тое самае, трэба падпарадкавацца новаму загаду і рыхтавацца да ад‘езду.

Я кладу за пазуху нажнічкі, ножык і выходжу з бараку.

Палонныя строяцца ў шарэнгі. Рады павярае варта. Нам напамінаюць аб тым, што шомпалы і прыклады захоўваюць сваю моц. Мы ўжо не рэагуем на такія мэтоды. Мы толькі стараемся, каб удар ня лучаў па твары. Нас вядуць полем. Праз поле пратупана сьцежка—па ёй ідзе варта. Мы валачомся проста полем. Ногі месяць густую ліпкую зямлю, якая пахне гноем. Іх цяжка падымаць. Часамі здаецца, што ўгразьнеш, намагаешся выцягнуць ногі і ня можаш. Тады падбягае з праклёнамі канвойны і пачынае біць шомпалам.

Людзі губляюць нагу, рады перабблытваюцца. Новае катаваньне. Мы пачынаем кідацца ў бакі, як зацкаваныя!

Ні блакітнага неба, ні ўцякаючай у далячыню наспы, ні далёкага цёмнагу лесу—усё загароджана злоснымі тварамі варты і блекне пад ударамі шомпалаў.

Паўз нас праляцеў цягнік. Мы затрымліваемся. З вакон на нас пазіраюць зьдзіўленыя твары пасажыраў, якія ўвозяць з сабою дзіўнае відовішча—сотню выхадцаў з таго сьвету.

Прабягае апошні вагон з кандуктарам на тормазе, дарога вольная, мы ўзлазім на насып і падыходзім да вакзалу.

Нас набіваюць у таварныя вагоны. У вагонах кучы нявыбранага гною. Відаць у вагоны была гружана скаціна.

Што-ж, у іх былі сумленныя рабочыя валы. Вунь і жолаб яшчэ застаўся. Мы прагавіта дапіваем рэшткі вады ў ім. Варта знадворку запірае дзьверы. Мы ад'яжджаем. Куды?

Мы засынаем тут-жа на падлозе, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго. Уночы варта робіць праверку. Нехта ў вагоне пачуў выпадкова прамоўленае слова „Варшава“—і яно ў адну хвіліну абляцела ўвесь вагон. Адразу-ж перарабляем плян. Зараз-жа, прыехаўшы ў Варшаву, трэба зьвязацца з організацыяй з тым, каб паспрабаваць з дапамогаю польскіх таварышоў комуністых уцячы. Але і гэтыя пляны, як шмат іншых, якія бесьперапынна ўзьнікаюць у нашых галовах, застаюцца толькі плянамі, бо ў горадзе наш эшалён затрымліваюць на гадзіну-дзьве. З вагонаў нікога ня пушчаюць. Мы стаім далёка ад цэнтру вакзалу і чуем, як варта адганяе ўсіх ад вагонаў.

Паехалі. Ізноў у невядомасьць. Стараемся не гаварыць адзін з адным. Гадаць куды вязуць, выказваць меркаваньні—усё гэта бязмэтна.

Ці трэба думаць, калі мы забаўка ў руках некалькіх чыноўнікаў, якія в цэнтру, парадкам нейкіх сваіх недарэчных плянаў, перакідаюць нас з гораду ў горад, з лягеру ў лягер.

Праз некалькі гадзін цягнік спыняецца. Дзьверы адчыняюцца, у вагон уваходзіць канвойны і кідае некалькі булак хлеба.

Праз адчыненыя дзьверы відаць шмат рэек чыгункі і далёка маячыць вакзал. Нехта даведваецца ў змазчыка, які праходзіць паўз нас, што мы на станцыі Лодзь.

У кожнага на языку: „Рабочы цэнтр“. Аднак, ніхто не адважваецца выказаць гэтага ўголас. Практыка з „Варшаваю“, якая скончылася такім расчараваньнем, занадта сьвежая, каб адважыцца на новыя прожэкты.

Пятроўскі кідае: „Я тут працаваў, тут былі вельмі ўдалыя хлопцы!“— і зноў замаўкае.

Вось так, занадта скупа, часамі ён кажа пра сябе.

Мы едзем. Вярста, другая, цягнік спыняецца. Потым зноў рух з тым, каб хутка спыніцца. Дзьверы зачынены. Выпускаюць нас звычайна тады, калі наўкола цёмна.

У вагоне ўвесь час спрэчкі: ці манэўруе наш цягнік, ці ўсё-ж мы пасоўваемся наперад.

Мы прызвычайваемся да гэтага становішча нясупынных штуршкоў і паданьня на нечаканых прыпынках.

Гэта доўжыцца некалькі дзён. Пасьля цягнік стаіць амаль цэлую пару і мы нікуды ня рухаемся.

— Відаць, прыехалі,—кажуць у вагоне.—Праклаццеце!—калі прыходзіць варта мы зноў прыпадкова даведваемся, што мы ўсё яшчэ ў Лодзі.

Выявілася, што мы рабілі падарожжа вакол Лодзі.

„Погань праклятая, забаўкі строіць!“

Разам з тым Лодзь нас вабіла сваім фабрычным насельніцтвам, сярод якога мы бяз сумніва змаглі-б знайсьці падтрыманьне.

— Толькі не паслалі-б далей,—кажа Пятроўскі.

Чутна знаёмая каманда:

— Выходзь з вагонаў!

Вышлі, пасталі ў рады, чакаем, што будзе далей.

— Зараз пойдзем абедаць,—абяцае вартаўнік,—а потым паедзем далей.

— А вы ня ведаеце, куды мы паедзем, пане? — пытаемся ў вартаўніка.

— Ды далёка, у цэнтральныя лягеры,—адказвае паляк ламанаю расійскаю моваю.

Гэтая вестка нас вельмі расчароўвае, бо ізноў думка праз сувязь з рабочымі Лодзі робіцца мыльнаю бурбалкаю.

Па існасьці было недарэчным марыць, што палякі пакінуць нас блізка ля такога рэволюцыйнага цэнтру.

Нас вядуць амаль з кілёмэтр па ліпкай гразі ў нейкую вялікую казарму, прыстасаваную пад сталоўку.

— Бачыце, бачыце. Тут ёсьць лаўкі і сталы.

Мы усаджваемся групамі і чакаем абеду.

На наша агульнае зьдзіўленьне, мы ўпяршыню за час свайго палону атрымалі добры абед: поліўку з крупамі і нават з салам. Гэты абед у параўнаньні з тым, што мы елі раней, быў сапраўднаю „мараю“.

Па тэй-жа дарозе мы вяртаемся назад у тыя-ж вагоны і, праехаўшы яшчэ пару, з дзесяткам прыпынак, прыяжджаем у Каліш.

З вакзалу нас адразу накіроўваюць у лягер.

На аграмаднай тэрыторыі шэраг баракаў, пабудаваных у адну лінію. Падобна да вялікага фабрычнага будынка, да якога прылiпалі, як яшчаркі, шматлікія зямлянкі.

Баракі абгароджаны дзесяткам радоў калючага дроту. Вакол баракаў на высокіх слупох вышкі для вартавых. Электрычныя ліхтары яркім сьвятлом рэжуць начную цемру.

Мы дзелімся ўражаньнямі. Калішскі лягер пабудаваны даволі грунтоўна, выбрацца з яго, відаць, будзе нялёгка.

— Тут, напэўна, пражывеш цэлы год і не пабачыш ніводнага рабочага,—гіранізуе Грознаў.—З кім тут сувязь наладзіш, хіба са слупом.

— Нічога, Грознаў, ня сумуй, неяк будзе!—уцяшае яго Шаліма.

Наша „пяцёрка“ зноў у адным бараку.

Мы хутка знаёмімся з тутэйшым жыцьцём. Звычаі тыя самыя: б'юць ня шомпаламі і прыкладамі, а бізунамі з сухое валовае жылы, ці з ізоляванага тэлефоннага дроту.

Калі каго-небудзь вялі на расправу, то ў гэтым выпадку мы гаварылі:—„тэлефоны праводзіць павялі“.

Гэта лібэральнае катаваньне, аднак, каштавала палонным даражэй, чым ранейшае біцьцё—удар па голым целе сухою жылаю, ці ізоляваным дротам, быў вельмі балючым. Пасьля такога ўдару ўзьнікалі рваныя раны, лячыць іх ня было чым, раны пачыналі гнаіцца, і шмат таварышоў, атрымаўшы заражэньне крыві, уміралі.

Нам пашанцавала першыя часы шчасьліва ўнікаць знаёмства з гэтымі бізунамі. Але неяк Шаліма і Сарокін пайшлі ў патрэбную каморку і па дарозе закурылі. Тое, што мы мелі керанкі, дазваляла нам купляць папяросы. Бяз курава, гэтае адзінае нашае ўцехі, было-б зусім дрэнна, а курыць было забаронена.

Вартаўнікі заўважылі „балаўство“, схапілі нашых двух таварышоў і кінулі іх на ноч у арыштны барак, дзе і далі ім па пятнаццаць удараў.

Скрываўленыя, яны прыцягнуліся ізноў у барак і, плачучы ад злосьці і сьвядомасьці свайго бясьсільля, кінуліся на нары.

Шаліма адно трохі адлежыўся, пачаў дзяліцца з намі навінамі, якія пачуў у часе перабываньня ў арыштным бараку.

— Пасьля таго, як нам усыпалі, мы прытуліліся да сьцяны бараку. Пачулі ў цёмным кутку нейчыя галасы. Папаўзьлі туды. Сядзяць трое, шэпчуцца. Расказваюць, схапілі іх у Беластоку па даказу. Абвінавачваюць у тым, што яны агітуюць на заводах сярод рабочых, заклікаючы іх да паўстаньня.

У маладога ўпарты непакорлівы твар.

Такія твары звычайна адразу выклікаюць жорсткасьць на дазнаньні, загэтым мяне не зьдзівіла ні рука, якая вісела без валоданьня, ні разадраны пінджак, праз дзіркі якога сьвяцілася цела ўсё ў сінякох.

З паўслова я зразумеў, што маю справу з комсамольцам. Вытрыманасьць у хлапца—беззаганная, а справа-ж пахне расстрэлам.

Два іншых—комсамольцавы сваякі, напуджаныя абывателі.

Комсамольца, канешна, расстраляюць, і ён гэта ведае, але пакуль што яго катуюць, спадзяюцца вымусіць ад яго прозьвішчы і адрасы сяброў падпольнай організацыі ў Беластоку. А хлапец крамяны—аб сьмерці гаворыць спакойна, толькі сваякоў сваіх шкадуе—усё імкнецца іх выгарадзіць. Чым больш іх абараняе, тым менш палякі яму вераць і ўсё больш катуюць. Комсамолец расказвае, што нашы часьці пакуль адступаюць, але армія баявую сілу захавала. Казаў, што доўга весьці вайну палякі ня здолеюць—у тылу вельмі неспакойна, што скора мы дома будзем. Глядзелі мы на яго, як кажуць, на ўсе вочы—пра свой боль забыліся нават. Брыдка нам зрабілася, што так шмат думак толькі пра сваё існаваньне, а тут поруч юнак, амаль дзіцёнак, увесь ахоплены аднэю думкаю—за таварышоў. Ах, які хлапец!—Шаліма патрос кулаком, твар яго пачырванеў і ён адвярнуўся да сьцяны.

На другі дзень, зайшоўшы ў наш барак раніцою, старшы уньцер-афіцэр убачыў паходныя кацялкі на нарах, а ім належыла вісець на цьвіку, на сьцяне.

Гэтага было даволі, каб уньцер-афіцэр паклікаў вартаўнікоў.

Нам тут-жа, у самым бараку ўсыпалі ўсім па дзесяць удараў.

Мне пасьля даволі доўгага перапынку,—каля месяцу, давялося зноў зазнаць на сваім, на шчасьце, ужо падужэлым целе асалоду ўдараў. І ўсё-ж, які дзікі боль учынялі гэтыя бізуны! Спачатку, сьцяўшы моцна зубы, я маўчаў, але пасьля пятага ўдару ня вытрымаў і зароў, як і мае таварышы, як дзікі зьвер.

Трэба сказаць, што ў час экзэкуцыі заўсёды ў бараку панаваў нечалавечы вой, бо самыя моцныя з нас, самыя трывалыя, курчыліся ад сударгі, пад ударамі „тэлефонных“ бізуноў. Трэба было сапраўды быць воўкам у людзкой абалонцы, каб дадумацца да такой прылады кары, як бізун з тэлефоннага дроту.

— Каты, агіднікі, пракляцьце на вас! — кінуў усьлед, калі ўжо ўсё было скончана,—Пятроўскі.

— Цо, цо, холера?—агрызнуліся ў адказ.

Мы замерлі ад жаху.

Няўжо мы будзем зноў пакараны?

На шчасьце яны не зразумелі ці не дачулі выкрыку Пятроўскага, таму абмежаваліся толькі тым, што выцялі некалькі разоў яго па твары.

Цела пякельна балела, але за тое страшна было глядзець на Шаліму і Сарокіна. Бо пасьля ўчарашняга пакараньня за курэньне каля патрэбнага месца, а сягоньня за кацялкі іх зноў пакаралі „за кампанію“ з намі бізуном, якім парасьсякалі ранейшыя раны.

Бедакі не маглі ні сядзець, ні ляжаць.

Прыгнечаныя, панурыя, сядзелі мы адзін каля аднаго, паўтараючы адно слова, якое панавала ў нашым розуме.

— Уцякаць, уцякаць!

Уцячы з гэтага пекла, куды вочы глядзяць!

І ў гэту-ж ноч, азьвярэлыя, абураныя, палка ненавідзячыя нашых ворагаў, мы склалі канчатковы плян нашага зьбегу. Больш трываць было немагчыма—гэта было ня ў нашай сіле.

Зусім зразумела было, што зьдзекі над намі ніколі ня скончацца. Палякі ўвайшлі ў смак. Наша вымушаная пакорлівасьць не дапамагала, а даводзіла нашых катаў да яшчэ большага азьвярэньня.

Захаваць чалавечае аблічча магчыма было толькі ўцёкшы, інакш мы рызыкавалі дайсьці да становішча рабоў на галерах.

Уночы мы навастрылі аб кацялок нажнічкі—адзіную нашу прыладу—і вырашылі ў наступную ноч уцякаць.

Гэта было—28 мая.

Мы падлічылі, што прабылі ў белапольскім палоне трыццаць восем дзён. Паспрабавалі ў памяці прыкінуць колькасьць удараў, якіх за гэтыя

38 дзікіх дзён прыпала на нашы плечы і твары, колькасьць зубоў, якіх мы страцілі ў час экзэкуцыі—і не дайшлі ліку.

Да аднаго толькі катэгорычнага выніку мы дайшлі: няхай лепш застрэлюць у першы-ж момант зьбегу, калі падпільнуюць, але зносіць далей сыстэматычнае катаваньне, даць сябе дабіць мы ня згодны.

Усе пяць таварышоў гэта пытаньне вырашылі аднадушна.

І ў гэтым нашым непарушным і цьвёрдым „уцякаць“ была рашучасьць апошняга кроку.

Уцякаць... Ніякіх нават невялічкіх адтэрміновак, ніякіх хістаньняў і адступленьняў.

Уцякаць у першую-ж ноч у поле, праз балота, праз багну, праз лес,—на прастор. У гэтым ёсьць шанс на паратунак, застацца-ж можна толькі на нямінучую пагібель.

Мы ня мелі сумніва, што наш лёс згадзіліся-б разьдзяліць шмат хто з палонных нашага бараку, але баяліся ўцягваць іншых, баяліся провокацыі. Сярод палонных мы заўважылі некалькі чалавек, якіх не каралі. Звычайна, гэтыя людзі зьнікалі праз тры—чатыры дні пасьля таго, як прыходзілі, і ім на зьмену зьяўляліся іншыя.

Пятроўскі першы заўважыў падазронага суб'екта, што сланяўся ад аднае да другое групы палонных і зьвярнуў нашу ўвагу на неабходнасьць надзвычайнай асьцярожнасьці ў гутарках.

Загэтым мы прымушаны былі трымаць у сакрэце свой „плян“, у той час як пры іншых умовах альбо нас было-б больш, альбо астатнія палонныя дапамаглі-б нам вырвацца з лягеру.

## Першы зьбег

У дзень зьбегу мы ўсе адчулі надзвычайнае, вострае напружаньне. Чамусьці больш ад усіх хваляваўся Сарокін. Мы наогул заўважвалі за ім дзівачнасьці. Прасынаючыся інады ўначы, чую, як ён шэпча нешта сам сабе.

— Што ты мармычаш,—гукаю на яго.—Раскажы, лягчэй стане.

— Ды, ведаеш, думаю, як там дома ў мяне. Жонка маладая, прыгожая. Хто яе ведае, як быццам любіла, — задумліва дадаваў ён,—але час суровы, цяпер у вёсцы хлопцаў шмат, а яна маладая. А потым і старыя засталіся. Я-ж дабраахвотнікам пашоў,—ажывіўся ён,—у нас-жа ў вёсцы народ цёмны, а я ў горадзе шэсьць год на фабрыцы працаваў. Спачатку, калі ваявалі, мала пра дом думаў, а цяпер у праклятым палоне часьцей пра жонку і старых сваіх успамінаю.

Становішча кожнага з нас мала чым адрозьнівалася ад Сарокінага, — але пра гэта некалі было думаць, гналі ўсе думкі прэч. Хацелася толькі быць разам в таварышамі, паспрабаваць шчасьця, адчуваньня барацьбы.

Звычайна а дзевятай гадзіне ўвечары нас усіх заганялі ў баракі. У гэты час салдаты з варты забаўляліся тым, што зьбівалі нас. У дадатак,

увечары, калі народ за дзень зморваўся, праступкаў аказвалася болей, конфлікты бывалі часьцей, чым у працягу дню, ды і польскія афіцэры зьяўляліся вечарамі ў баракі для праверкі.

Ці маглі яны сабе адмовіць у прыемнасьці пазьдзеквацца над безабароннымі людзьмі. Чырвоная армія адыходзіла, палякі рабіліся больш нахабнымі. Ні адно катаваньне не абыходзілася без напаміну аб тым, што мы былі блізка каля Варшавы, а зараз яны хутка прагоняць нас у Азію.

А 9-ай гадзіне ўвечары на варце заставаліся толькі вартавыя. Электрычныя ліхтары, якія ярка асьвятлялі тэрыторыю лягеру, запальваліся толькі а 9-й гадзіне. Такім чынам, паміж дзевятай і дзесятай гадзінамі устанаўліваўся прамежак у адну гадзіну, у працягу якой мы і павінны былі бегчы.

За гэтыя кароткія шэсьцьдзесят хвілін трэба прайсьці ў прыбіральню каля сьцяны, адарваць у ёй дзьве-тры дошкі і выйсьці непасрэдна на лінію драцяной загароды. Далей трэба будзе перарэзаць першыя чатыры рады дроту з тым, каб уцячы ў пустыя баракі, якія знаходзіліся ад нашага жыльля, прыкладам, на адлегласьці пяцідзесяці сажняў. Калі-б нас у момант прабегу нашага да пустых баракаў заўважылі вартавыя, літасьці, зьмілаваньня чакаць было нельга. Калі-ж абыйдзецца добра, трэба было ад пустых баракаў дропнуць ува-ўсю проста па полю. Другая частка пляну намячалася так: мы павінны былі, вышаўшы з лягера, трымацца напрамку на паўночны захад, падзяліўшыся паперадзе на дзьве групы: першая група намячалася ў складзе Пятроўскага і мяне, а другая—з Шалімы, Грознага і Сарокіна. Так лягчэй будзе хавацца.

Загадзя Шаліма падзяліў астачу грошай паміж усімі пароўну.

Зразумела, штоісьці мы вырашылі да сябе, кірункам у Савецкую Расію. Мы ня ведалі ні дарог, ні правільнага напрамку, які вядзе да нашых межаў, але ўсё-ж думалі, што інстынкт нас давядзе куды трэба. Калі першая ноч у нашым падарожжы пройдзе добра, мы ўсе пяцера злучымся ў адну групу і будзем прабірацца ўсе разам. Рухацца мы парашылі толькі начамі з тым, каб з досьвіткамі, калі на дарогах пачынаецца рух, хавацца ў якім-небудзь утульным месцы пры дарозе. Хлеба мы захапілі з сабой каля чатырох фунтаў, нам гэтай колькасьці хапіла-б на двое сутак.

Гэта было, канешне, лёгкадумна. Сьмешна было-б разьлічваць на тое, што мы за двое сутак дойдзем да нашай мяжы.

Вось і ўся нескладаная програма, якую мы вызначылі для свайго ўцёку пасьля таго, як удалося-б выбрацца з лягеру, а між тым у працягу колькіх бяссонных начэй кожны з нас абмяркоўваў у дэталях гэты знакаміты наш „плян“.

Колькі зьмен мы ўносілі ў яго раней, чым ён прыняў канчаткова свае абрысы. Канешне, за посьпех ручацца нельга было: мы маглі тра-

піць у рукі палякаў, але-ж нам магло і пашчасьлівіць, і вось на гэта шчасьце мы моцна спадзяваліся і пакладаліся.

Рызыкнуць з-за волі варта было...

І вось, роўна ў дзесяць хвілін пасьля дзевятай гадзіны мы зашлі ў прыбіральню і разьмясьціліся каля драўлянай сьценкі. Я пераглянуўся з Пятроўскім і Шалімам і мы адначасова локцямі націснулі адну з дошак у драўляным плоце, што агароджваў лягер. Дошка з глухім стукам упала на зямлю. Спачатку нас напалохаў гэты стук, мы уздрыгнулі, нэрвы былі нацягнуты, здалося, што пасьля гэтага стуку на нас нямінуча пачнуць страляць.

Ува ўсякім выпадку добра разумелі, што марудзіць нельга, кожная сэкунда была на асобным вучоце.

За першай дошкай упала другая.

Мы выбраліся за перагародку, прагна ўдыхнулі паветра. Пятроўскі, выхапіўшы з-за пазухі нажніцы, пачаў сьпяшаючыся рэзаць імі дрот. Нам не хацелася нават аглядвацца назад—боязна было. Момантамі здавалася, што за нашай сьпіной ужо стаяць польскія салдаты, з насьмешкаю назіраючы за нашай бескарыснай працай. Мёртвая цішыня—чуваць толькі цяжкое дыханьне Пятроўскага.

Ён літаральна ня рэзаў, а перарываў дрот пальцамі. Ножніцы хадзілі ў руках яго, як ціскі, і пасьля кожнага націску, дрот падаў, разарваны на кавалкі, а мы прасоўваліся паціхеньку ўперад.

Дашлі, нарэшце, да апошняга раду дроту. Эх,—трымайся, сэрца, ня стукай так гучна. Я пачынаю ўвесь трэсьціся. Заціскаю ў руцэ калючку ад дроту—быць можа боль аслабіць хваляваньне.

У вячэрняй цішы асабліва ясна даносіцца да нас крык з лягеру — там, відавочна, як заўсёды, пасьля вячэры распраўляюцца з палоннымі.

Яшчэ раз націскае Пятроўскі рукамі ножніцы—і чацьверты рад дроту перарэзаны.

Мы выходзім у поле. Якое шчасьце. Мы адчуваем шырокі прастор і вольны шлях у бясконцую даль.

— Таварышы, усе кладзецеся на жывот, пасоўвайцеся паўзком, а то іначай могуць заўважыць,—шэпча Пятроўскі.

А быць заўважаным—значыць разьвітацца з жыцьцём... Гэта было надта добра вядома.

Мы на жыватох пасоўваліся наперад. Вось ужо дрот застаўся ззаду. Мы напружваем патугі.

Усё бліжэй і бліжэй падпаўзаем да пустых баракаў, але і яны таксама, на зьдзіў, абкружаны радамі дроту. І зноў выступіў уперад Пятроўскі, і зноў пачалася яго барацьба з праклятым мэталем, загарадзіўшым нам так нечакана шлях да ўцяканьня.

— Ёсьць. Перарэзаны зноў чатыры рады,—шэпча Пятроўскі.

Мы трапляем у пустыя баракі, праходзім некалькі крокаў, на наш вялікі жаль мы натыкаемся на новыя чатыры рады дроту, але за тое за імі—поле, лес, воля.

Воля! Хутчэй магчымасьць рухацца па зямлі, няхай чужой, без канвою. Але за гэтым нашым паднявольным блуканьнем маячыць воля.

Пятроўскі прыступіў да барацьбы з апошнім радам дроту.

Ён чагосьці замяўся і стаў глуха лаяцца.

Мы зацiхлі,—што там яшчэ здарылася.

— Ножніцы ня вытрымаюць,—гаворыць Пятроўскі, — дужа цягучы дрот. Відаць, нехта ня думаў, што будуць ёю лягеры з бальшавікамі апутваць.

Ціха і жудасна, як у магіле. Перагаворваючыся, мы зьніжаем голас да таго, што самі адзін аднаго ня чуем.

Кожны шорах трывожыць, прымушае чакаць нападзеньня ў сьпіну.

Інстынктыўна сьціскаюцца кулакі, мы сашчэпліваем зубы і адчуваем, што калі каго-небудзь з нас зараз паспрабуюць вярнуць сілай у лягер, будзем біцца, пакуль нас ня прыстрэлюць.

Пасьля ўсяго перажытага, пасьля надзей, якія мы зьвязвалі з нашым уцяканьнем—здацца?

Не, ні за што!

Лепей сьмерць, чым правал нашага замеру.

Але да волі яшчэ далёка—у коле нашага зроку будка вартавога, якая ад нас на адлегласьці ня больш за пяцьдзесят крокаў.

Пятроўскі зноў прымаецца за працу. Разьлятаецца адзін рад, мы падпаўзаем да другога. Нешта доўга за тое ён возіцца з трэцім радам,—потым трагічным шопатам кідае нам:

— Ножны зламаліся. Як быць?

— Вазьмі ножык,—кажа Сарокін,—перапільвай астатнія два рады.

Пятроўскі піліць нажом дрот. Надпіліў, схапіў, налёг з усіх сіл і перарваў рукамі яшчэ адзін рад. Застаўся апошні, больш перашкод няма.

— Пецька,—кажа ён,—прысунься бліжэй і трымай канцы.

Я шпарка прыгнуўся і ухапіў, як толькі мог, за абодвы бакі дроту. Пятроўскі пачаў рэзаць яе нажом.

— Гні, гні ў бок, вось так.

Я раблю вялікія патугі для таго, каб дапамагчы яму. Апошні дрот перарэзаны.

— Хлопцы, рухайся цішэй ізноў паўзком.

Паўзём, як дажджавыя чэрвякі, віючыся і прыціскаючыся да зямлі.

— Хлопцы, уставай, трэба бегчы шпарчэй, а то, напэўна, хутка агледзяцца, што мы ўцяклі.

— Таварышы, будзем трымацца вызначанага пляну,—пачаў сваё шпаркае слова Шаліма.—Зараз кірунак трымаем на паўночны захад. Сыгналам будуць два прарэзьлівыя сьвісткі. Помніце, пры няўдачы—адзін аднаго ня ведаем. Уцёк наладжвалі асобна, адзін ад аднаго хаваліся.

удзень будзем ляжаць разам, першую ноч пойдзем паасобку, а наступную ноч будзем ісьці разам. Помніце. Будзьце здаровы.

— А ты, Пеця, трымайся бліжэй да мяне,—сказаў Пятроўскі.— Папярэджвай, калі ня здолееш ісьці. Ну, наперад, таварышы.

Мы ўсхапіліся з зямлі, але рушыліся не адразу. Моцна пацiснулі адзін аднаму рукі. Некалькі сэкунд урачыстага маўчаньня, у працягу якіх мы адчулі, як моцна зьнітавала нас у адно цэлае жыцьцё у палоне.

Мы кінуліся бегчы ў кірунку на паўночны захад.

Кожны з нас уздыхнуў вальней: мы выбраліся з калішскага пекла. Але цяжкасьці толькі пачыналіся. Гэта было сказана нядрэнна—трымаць кірунак на паўночны захад, але як азначыць гэты паўночны захад бяз компасу, у цемры, ня маючы магчымасьці чакаць сонца.

— Дуй на ўдачу!

Мы бяжым паскораным тэмпам. Баліць усё цела, кружыцца галава, сэрца дрэнна працуе.

— Пятроўскі, пасядзець-бы,—прашуся я.

— Змарыўся,—спачуваючы зьвяртаецца ён да мяне.

— Але, нешта цяжка.

— Ну, што-ж, давай тады пасядзім. Пакуль ідзе ўдачліва. Напэўна, зараз „скурвэ сыны" бегаюць па лягеру, шукаюць нас, лаюцца,—усыпаюць усім нашым таварышом тэлефоннага дроту з прыкрасьці. Трэба-ж ім адыгрiцца.

— Яшчэ не агледзіліся,—сказаў я,—інакш мы чулі-б стрэлы.

— Ды мы яшчэ ня так далёка адыйшлі, каб яны, пры паляваньні, не маглі нас дагнаць.

І зараз-жа там, дзе былі лягеры, раздаліся некалькі глухіх стрэлаў.

— Напэўна пабеглі за намі,—нэрвова кінуў Пятроўскі,—хадзем хутчэй, зараз пачнецца пагоня.—Пеця, любы, падцягніся, зьбяры ўсе сілы. Там, далей, адпачнём.

— Ідзем, ідзем,—кажу я,—цяпер ужо нічога, адпачнулі, магу ізноў бегчы, як жвавы конік.

Жарт мой быў вялікай натугай, бо я адчуваў, што наўрад ці змагу далей так жвава рухацца. Але я ня меў права паказваць таварышу слабасьць, таму што ён ні ў якім выпадку не пашоў-бы без мяне.

І мы ізноў пабеглі ўправа, у кірунку на паўночны захад.

Мы імчымся, як апантаныя, баючыся азірнуцца, не аглядаючыся па бакох—намі валодае адно: адыйсьці падалей ад баракаў у Калішы.

У цемры мы часта спатыкаемся, падаем, інады балюча выцінаемся, але не адчуваючы ў гарачцы болю, імчымся далей.

На кароткіх прывалах, калі мы спыняемся для перадышкі, мы з луж прамываем раны на нагах.

Пятроўскі ўсё пасьмейваецца.

— Нічога, да вясельля зажыве, ад тэлефоннага дроту крыві болей было, не хандры.

Адзін успамін пра нашых катаў—канваіраў быў дастатковым, каб мы скарачалі хвіліны адпачынку.

Сарокін неяк у лягеры размарыўся,—запрапанаваў угаварыць канваіра ўцячы з намі ў Савецкую Расію.

Мы паднялі яго на сьмех.

Была надзвычайная лютасьць у іх адносінах да нас. Яны ня былі турэмнікамі—у апошніх ёсьць профэсыянальная абыякавасьць, яны ня былі катамі—кат калі і катуе ахвяру, дык усё-ж прыкончувае яе. Яны былі незразумелымі для нас зьявішчамі, мы ня ведалі адкуль бярэцца такая нясьціхаючая нянавісьць.

Так помсьцяць сяляне канакрадам.

Я задумваюся на хаду над гэтым пытаньнем і таму, што я добра ведаў лютасьць канваіраў, я так ясна прадбачваў небясьпеку правалу нашай спробы да ўцёку.

Бяжым мы ўсю ноч. Днее і мы з жудасьцю даведваемся, што беглі мы не на паўночны захад, а проста на ўсход, г.-ё. прасоўваючыся ўглыб Польшчы, у тым кірунку, адкуль мы ўцяклі.

Я пачынаю дзіка лаяцца.

— Гэта-ж мы ідзем у зусім адваротны бок,—кажу я Пятроўскаму.

— Няўжо,—з неўразуменьнем пытаецца ён.

— Канешне, сонца-ж заўсёды ўсходзіць на ўсходзе, а заходзіць на захадзе, паглядзі на сонца—мы-ж ідзем на ўсход. Як-жа так.

— Відавочна, мы заблудзіліся.

Мы сталі панурыя і прыгнечаныя.

— Что-ж гэта такое. Выходзіць, што усю ноч круціліся на адным месцы,—прамармытаў у роспачы мой таварыш.

Ва ўсякім выпадку, настрой стаў дрэнным; мы вырашылі, што ў бліжэйшы-ж дзень выраўняем становішча, а пакуль трэба было падумаць аб тым, дзе-б прымайстравацца на дзень (бо зара пачала паступова разганяць цемру)—для таго, каб перачакаць да вечару. Але тут мы з Пятроўскім хапіліся, што няма вестак ад Шалімы, Сарокіна і Грознава.

— Дзе яны. Што з імі,—задавалі мы адзін аднаму пытаньні.

— Трэба даць сыгнальныя сьвісткі, як было ўмоўлена спачатку.

Пятроўскі два разы праразьліва сьвіснуў. Адказу ня было.

Тады ён паўтарыў свой сыгнал—і ізноў ніхто не абазваўся.

— Ну, тады яны найшлі ў правільным кірунку, на паўночны ўсход, а мы заблудзіліся,—сказаў Пятроўскі.

— Якія-ж мы з табой ідыёты,—прамармытаў ён панура.—А як нам быць зараз?

Ён пытальна павярнуўся да мяне.

— Ну што-ж,—паспрабаваў я яго заспакоіць,—трэба нам зараз-жа знайсьці сьцірту саломы, легчы ў яе і праляжаць увесь дзень, а заўтра

ўночы кранемся ў новым напрамку, на той паўночны ўсход, які нам з табой патрэбен. Раніца вечару мудрэй.

— Якая раніца, — супярэчыць Пятроўскі,—мы-ж раніцою хаваемся і сьпім. Для нас з табой ноч замяніла дзень. Значыць ноч раніцы мудрэй.

Я не супярэчу супроць гэтай істотнай папраўкі. Адыйшоўшы з вярсту ў бок, мы знаходзім жаданую салому і ідзем хуткім крокам да яе.

— Трэба абвязкова ўзьлезьці наверх,—сказаў я Пятроўскаму.

— Ды як-жа ты туды ўзьлезеш,—нерашуча адказаў Пятроўскі.—Высока ўжо вельмі. Цыркачамі-ж мы з табой ня былі.

Каля сьцірты, на наша шчасьце, знайшлі даўгую жэрдку і сталі сьпешна ўзьбірацца наверх. Мне, у маёй практыцы пастушка, часта даводзілася ўзьбірацца на сьцірты для таго, каб адшукаць за ўзгоркам авечку. Ня гледзячы на слабасьць, я без асаблівай цяжкасьці ўзабраўся на сьцірту. Але з Пятроўскім было горш. Ён колькі разоў падскокваў, і як мех, падаў ізноў на зямлю, ледзь дабраўшыся да паловы сьцірты. Нарэшце, пасьля доўгіх патуг і не без маёй дапамогі, ён узабраўся наверх.

Мы ўздыхнулі вольна, калі выпрасталіся на мяккай саломе.

Азірнуўшыся, мы заўважылі нейкую чорную масу. Я пнуўся здагадвацца, што гэта.

— Гэта, напэўна, наш лягер відзён,—сказаў Пятроўскі.

— Ня можа быць,—спалохаўся я. Мы-ж цэлую ноч ішлі. Няўжо мы не адшагалі і дваццаці вёрст?

— Не, гэта ня лягер,—разгадваў мой спадарожнік.

— Ды мы-ж ішлі ня туды, куды трэба, вось і апынуліся блізка каля лягеру,—падумаўшы сказаў ён ізноў і на гэтым адкрыцьці заспакоіўся. Ён рашуча гнаў ад сябе ўсякія няпрыемныя думкі.

Па меры таго, як разьвіднівала, мы ўглядаліся ўсё ўпарцей і ўважлівей і, нарэшце, дайшлі, што сапраўды ў коле нашага зроку быў наш лягер.

— Разважаць няма чаго. Давай, вырыем яму ў саломе ,улезем у яе, адасьпімся. Будзь, што будзе. Далей ісьці нельга,—рашыў Пятроўскі.

Шпарка запрацавалі рукамі, вырылі ў сьцірце яму, забраліся ў яе, зьелі па кавалку прырыхтаванага хлеба, накрыліся саломай і леглі.

Зморанасьць узяла сваё, і мы заснулі моцным сном.

Я прачнуўся першым, адкрыў вочы. Абмацаў кругом сябе.

— Міця, ты сьпіш?

— Не, ужо ня сплю. Надыходзіць вечар і мы хутка рушымся ў дарогу.

Выходзіць, што мы праспалі каля дзевяці гадзін. Пятроўскі падняўся і стаў углядацца ў небасхіл.

— Пецька,—сказаў ён,—паглядзі на заход сонца і вызнач, куды нам трэба зараз ісьці. Ты-ж у нас стаў зусім астраномам.

Я ўстаў, разьвярнуў салому, і перада мной паўстала дзіўная карціна: такія казачныя заходзячае сонца і сінь неба, афарбаванае ў пурпур.

Разам з тым не магу не падумаць пра тое, што мая галава, насаджаная на сьцірту, нагадвае пудзіла на гародзе.

— Які несправядлівы лёс,—вырвалася ў мяне.

— Як табе ня сорамна, Пецька,—сказаў Пятроўскі.—Які лёс. Пра што ты гаворыш? Лёс-жа робім мы самі, ён у нашых руках,—і ён працягнуў уперад свае дужыя кулакі.

— Мы самі робім свой лёс. Вось разаб'ем буржуяў, пабудуем пралетарскую дзяржаву, вось табе і лёс.

— Але, але, ты маеш рацыю, Міця.

— Ну, добра, даволі разглагольстваваць, а то, брат, яшчэ хутка засумуеш і ні чорта з цябе не атрымаецца. Гэта ўсё пакінь да звароту ў родныя краі. Эх, ты, Аніка-воін, раскісаць стаў.

— Добра, не рабі папрокаў, пойдзем.

— Мне, сапраўды, стала сорамна.

— Не, пачакай яшчэ з паўгадзіны. Пакуль сьветла, рызыкаваць ня варта. Давай-ка, паямо хлеба і кранемся.

Мы зьелі па кавалку хлеба, паляжалі яшчэ крыху.

Пятроўскі ўстаў, нарэшце, расправіў свае шырокія плечы, падняў мяне высока і сказаў, што скіне на зямлю. Мне стала весела на сэрцы. Я адчуваў, што з ім не загіну. Ён папоўз на край сьцірты, а адтуль пакаціўся на зямлю.

— Жвавей, жвавей,—крычыць ён мне,—каб нас хаця не заўважылі.

Плян для другой ночы мы вызначылі так.

Рушым проста на поўнач, адойдзем вёрст пяць і потым павернем на паўночны захад, бо калі мы адразу возьмем напрамак на паўночны захад, то будзем праходзіць зусім блізка ад лягеру,—гэта ўжо небясьпека, нас могуць убачыць.

Ітак, у дарогу.

Крочым мы досыць шпарка. Напрыклад, праз гадзіну перад намі вырастае нейкая вёска.

Трэба яе абмінуць. Узялі крыху ў бок, пашлі каля плеценя.

Раптам заўважылі, што да нас накіроўваюцца дзьве фігуры.

— Канешне, салдаты,—сказаў Пятроўскі.

Мы шпарка пралезьлі каля плеценя і нарыхтаваліся да абароны. У Пятроўскага-ж застаўся ножык. Пры яго волатаўскай сіле ім можна было арудаваць так, што нам і два-тры чалавекі на дарозе ня былі страшныя. Дзьве фігуры тым часам набліжаліся да нас.

Мы прыглядзеліся і пераканаліся, што гэта мужчына і жанчына, стала лягчэй на душы.

— Нічога—заспакоіў мяне Пятроўскі,—гэта каханкі. Давай паляжым на зямлі, пакуль яны ня пройдуць, а потым рушым далей.

Парачка між тым, набліжалася ўсё бліжэй і бліжэй. Яны ішлі шчыльна прытуліўшыся адно да аднаго і жвава гутарылі па-польску. За некалькі сажняў ад нас яны спыніліся і селі каля плеценя. Мужчына абнімае жанчыну і, шчыльна прытуліўшыся адно да аднаго, яны пачынаюць варкаваць.

На фоне плеценя чарнеюць іхныя сілуэты.

Парачка пачынае надта шумна выражаць свае пачуцьці. Яна зьлёгку супярэчыць. Мужчына робіцца настойлівей.

Нам гэта пачынае прыкраць.

— Ну, добра,—рашуча гаворыць Пятроўскі,—чакаць некалі. У іх, напэўна ёсьць грошы, ім яны не патрэбны, а нам для дарогі знадобяцца.

Не пасьпеў я нічога сказаць супроць гэтай нечаканай ідэі Міцькі, як ён скокнуў праз плецень і апынуўся каля парачкі.

— Маўчаць,—крыкнуў ён ім, і ўбачыўшы іх дзікі перапалох, трохі далікатней запытаў: грошы ёсьць?

Можна сабе ўявіць жах нічога не падазраваўшай парачкі.

Міцька, ды яны-ж па-расійску нічога не разумеюць,—сказаў я.

Выступіў уперад, пачаў на дрэннай польскай мове задаваць ім пытаньні.

— Дзе тут бальшавіцкі лягер,—запытаўся я.

Паляк адказаў, што лягер знаходзіцца блізка ля Калішу, адсюль вёрст дваццаць.

— Значыць, мы досыць шпарка ішлі, калі ўсё-такі адкрочылі ад лягеру так далёка.

— А вы пенензы маеце,—запытаўся я.

— Тры маркі я маю,—сказаў паляк.

— А я ніц ня маю,—сказала дзяўчына.

— Хто вы такія,—запытаў я ў іх.

— Ды вось з гэтага маёнтку. Я хурман, а яна—судамойка

— Ах, вось як. ну дык вазьмеце сабе тры маркі ізноў. Мы з пралетараў не бярэм.

— Вось дайце запаліць,—папрасіў я ў яго.

— Ёсьць, ёсьць, пане,—заскакаў ён і падаў мне каробку папярос.

Пятроўскі ўзяў адну з іх, закурыў, і грозячы паляку пальцам, сказаў:

— Мы табе нічога дрэннага ня зробім, можаце сабе сядзець, як хочаце, аж хоць да ранку, але памятайце: вы нас ня бачылі, бо інакш...—і ён выняў з-за пазухі нож і патрос ім над галавой паляка.

— Не, не, паночку.

— Мы нічога ня скажэм.

— Вось, вось,—сказаў Пятроўскі.

Паляк зноў падаў мне руку, а потым з некаторай боязьню—Пятроўскаму. Ён у сполаху вырваў яе з жалезных лап Пятроўскага, прамармытаў нешта на разьвітаньне мне.

Мы прыскорылі крок. Хутка, абмінуўшы вёску, мы апынуліся зноў у полі.

Аднак, праз некалькі гадзін, я стаў чагосьці трывожыцца. Мне здавалася, што сустрэча з любоўнай парачкай ня пройдзе нам задарма. А раптам ня стрымае паляк свайго слова, з дурной галавы, з перапалоху, раскажа ўсё ў маёнтку, пашлюць конную пагоню, а нам куды ад яе дзецца?

Я не адважыўся папракаць Пятроўскага за яго бяссэнсавы, як мне здавалася, хоць і гарэзны ўчынак. Ён-жа, павінна быць, адчуў мой настрой, таму што засьмяяўся і сказаў:

— Ня думай, што за час нашага падарожжа па Польшчы мы абыйдземся бяз прыгод,—іх будуць яшчэ дзесяткі, ды яшчэ якіх. Таму залічым гэту сустрэчу, як першую прыгоду.

— Але-ж блізка лягер, і нам трэба быць асабліва асьцярожным,— сказаў я яму.

— Усё гэта праўда. Але ніколі не раскайвайся, калі што-небудзь робіш. Гэткі прынцып кожнага рызыкоўнага прадпрыемства,—весела адказаў Пятроўскі.

Ён быў да такой ступені ажыўлены, поўны бурнай радасьці ад таго, што вольны, крочыць па зямлі, яму ўсё рабілася ні па чым.

— Трэба ў будучым гэтага не дапускаць, — дадаў ён мне для заспакаеньня,—а ўрэшце гэта ўжо пазадзе, за нашымі сьпінамі.

Ішлі мы да зары, да тэй пары, пакуль не паказалася полымя ўзыходзячага сонца на небе.

Знайшлі сьцірту, узабраліся наверх так-жа, як і ў першую ноч, вырылі яму і ляглі спаць. Праўда, у гэту ноч я доўга ня мог заснуць: запас нашага хлеба быў зьедзены, а нам дужа хацелася есьці. Прачнуліся раней, як учора. Даваў сябе адчуваць голад: у роце была нейкая салодкасьць і гарката.

— Ну, Пецька, як адчуваеш сябе,—запытаў мяне Пятроўскі.

— Нічога, толькі жраць хочацца.

— Ну, брат, цярпі не раскісай, сьцямнее—паспрабуем знайсьці чаго-небудзь.

Мы ляжым распараныя і марым аб хлебе. Пятроўскі жве салому, але праглынуць не адважваецца. Пажве і выплюне. Мы зьбіраемся выпаўзаць на сьвет божы. Па полі—цені. На небе малочная бель, закрываецца заслонаю, цямнее.

Паднімаемся і распраўляем здраньцьвелае цела. Пятроўскі раптам адразу прыхінае мяне да саломы і сам таксама шпарка кладзецца.

— Сюды ідуць...—шэпча мне Пятроўскі.

Праходзіць хвілін дваццаць.

Мы не адважваемся выглянуць, але усё-ж лічым, што бяда нас міне і мы застанемся незаўважанымі.

Нечакана чуюцца галасы.

Зусім блізка.

Мы не разумеем пра што гавораць уніэе.

Я асьцярожна паўзу з ямы наверх і бачу паступова адыходзячыя фігуры.

— Напэўна вёска блізка,—кажу я Пятроўскаму,—інача незразумела, як тутака апынуліся людзі. Ці мо' мы блізка ад шляху, тады трэба надалей старацца адыходзіць у бок, а то нас зловяць, як куранят.

Мы змаўкаем.

На небе зьяўляецца зорачка.

Голад наводзіць дрымоту. Калі глядзець далёка ў неба на зорачку яна пачынае падміргваць. Да, вока цягнецца ад яе залатая ніць.

Ад вока да зоркі ўвесь бяскрайны сьвет.

Пятроўскі раптам прарэзьліва ўскрыквае, забываючыся на якую-б там ня было сьцеражлівасьць.

— Пецька, глянь, зьнізу дым валіць.

Мы пераважваемся праз край стога і хутчэй адчуваем пах дыму, чым бачым дым. Ніз стогу ў сьвятле—там гарыць.

— Кумільгам з другога боку, — крычу я Пятроўскаму і ў момант скочваюся ўніз. Адначасна на мяне налятае Пятроўскі, перакочваецца праз мяне і пачынае бегчы.

Усьлед за ім бягу я.

Мы бяжым бяз ніякай орыентыроўкі, куды вочы глядзяць, абы хутчэй уцячы ад гэтай паходні ў полі.

Я змарыўся, я не магу больш патрапляць за Пятроўскім і падаю на зямлю. Ён прабягае некалькі крокаў па інэрцыі, затрымлівае бег, вяртаецца і прысаджваецца каля маіх ног.

Мы пнёмся здагадацца чаму падпалілі стог? Ці таму, што за намі прасачылі і надумалі нас спаліць жыўцом, ці падпал быў выкліканы прычынамі, якія ня маюць ніякай сувязі з намі.

Мы схільны былі прыняць апошнюю вэрсію.

Калі мелася на ўвазе выкурыць нас, дык нашто было сьпешна ўцякаць пасьля падпалу.

Мы коратка абмяркоўваем здарэньне і рашаем, што тут меў месца падпал з помсты, напэўна непаладкі паміж двума дварамі, якія зашлі так далёка, што людзі пачалі падпальваць адзін аднога.

Усё астатняе трэба зьвязаць з нашай няўдачай,—выпадку трэба было штурхнуць нас на начлег менавіта на гэту сьцірту.

Аддыхаўшыся, мы рухаемся ізноў.

Управа ад нас на дарозе нечакана нешта зачарнела.

— Напэўна, фальварак,—сказаў Пятроўскі.

Не згаварваючыся, мы, заместа таго, каб абмінуць жыльлё, як гэта рабілася ў першыя дні,—ідзем у кірунку да будовы, якая віднелася.

Нас гоніць голад.

Хвілін праз дваццаць будова прымае выразныя абрысы. Гэта млын— вятрак, распострыўшы крыльлі ў цемры.

Калі млын-вятрак, дык павінна быць і мука, — кажа Пятроўскі і падходзіць зусім блізка.

Дзьверы аказваюцца запёртымі. Замка знадворку няма.

— Хто-небудзь, напэўна есьць у млыне,—кажу я.

Пятроўскі з усяе сілы націскае плячом на дзьверы. Яна не паддаецца. Тады ён стукае ў дзьверы кулакамі. Адказу няма.

— Ну-ка, Пецька,—прапаноўвае ён мне,—давай націсьнем удваіх, лепей будзе. Зьбяры сілёнкі. Там-жа за сьцяной ляжыць мука, значыць пад'ядзім.

Мы разам націскаем на дзьверы і яна адчыняецца.

Уваходзім усярэдзіну. На падлозе некалькі дзесяткаў мяхоў мукі. Нядоўга думаючы, разьвязваем адзін з іх: у мяху аўсяная мука; разьвязваем другі—тое самае.

— Усё роўна,—кажу я, заўважыўшы расчараваньне Пятроўскага,— якую ні дай, усякую будзем жраць.

І тут-жа, насыпаўшы мукі ў шапку, наліваю з кадушкі ваду і прыгатаваную такім чынам баўтуху пачынаю глытаць.

Тое-ж робіць і Пятроўскі.

— Пачакай,—кажа мне Пятроўскі.

— Ён высыпае з некалькіх мяхоў муку, а спарожненыя мяхі бярэ з сабой.

— На ўсякі выпадак, згодзяцца,—усьміхаецца ён, — можна потым з мяхоў анучы зрабіць, альбо на сябе ў час дажджу заместа плашча накінуць.

Вышлі з млыну з трымя мяхамі, а ў чацьверты насыпалі фунтаў дзесяць аўсянай мукі.

Кроках у ста ад млыну ўбачылі студню з журавом. Зусім ня прымаючы ніякіх захадаў сьцеражлівасьці, мы на цяньکі накіраваліся да студні. Зьявілася абыякавасьць да няпрыемных выпадковасьцяй, з якімі мы маглі стыкнуцца кожную сэкунду: мы-ж, як-ні-як, ідзем польскаю вёскаю пасьля таго, як толькі што абрабавалі млын і можам быць западозраны ў падпале ў полі.

Калі-б убачылі, утварылі самасуд і разарвалі-б на часткі.

Вядро прывязана каля студні да жэрдкі. Спачатку п'ём, потым выліваем ваду з вядра, пакінуўшы ў ім толькі невялікую колькасьць. У ваду насыпаем мукі і ў выніку атрымліваем нейкае месіва накшталт цеста. Кожны бярэ па вялікім кавалку гэтага дабра і мы рухаемся далей, абарваўшы спачатку вядро з жэрдкі і кінуўшы яго ў студню.

Голад адчуваецца вельмі дужа. Мы на хаду адрываем кавалкі цеста і глытаем яго, але яно ня так лёгка лезе ў горла: хочаш яго праглынуць, а цеста ліпне к нёбу, даводзіцца яго адскабліваць пальцам. І ўсё-ж

у пэрспэктыве воля, і мы рухаемся далей, і для гэтага варта глытаць ня толькі такую страву, але нават гліну.

К раніцы мы ізноў зарываемся ў сьцірту і кладземся спаць, але і ў сьне нас трывожаць думкі пра Сарокіна, Грознава, і Шаліму.

Дзе яны, што магло з імі здарыцца, ці не арыштаваны яны, ці не расстралялі іх.

Мы шкадуем аб тым, што падзяліліся на дзьве групы.

Дрэнны сон у гэту „ноч". Баліць жывот, які ўпарта адмаўляецца ператраўляць баўтуху з аўсянай мукі.

Смага надзвычайная, а спускацца са сьцірты і шукаць ваду рызыкоўна—сьціpта блізка каля дарогі і мы можам уліпнуць, тым больш, што нас бясспрэчна шукаюць гаспадары абрабаванага ветрака.

Сонца зайшло і мы зноў крануліся ў дарогу. У гэту ноч—чацьвертую нашага падарожжа—мы рашылі прайсьці ня толькі звычайную норму, але і здабыць сабе харчоў,—іначай мы ня ў сіле будзем рухацца далей.

Гэта азначае правал нашых замераў, зноў палон і пакуты катаваньняў.

Мы глядзім па бакох, а мо' ўбачым хутар.

Мы накіроўваемся ўздоўж берагу. Сьпераду нешта шуміць.

— Падобна на тое, што мы падходзім к вадаспаду,—гаворыць Пятроўскі.

— Да вадзяного млына,—папраўляю я яго.

Пасоўваемся наперад. Шум усё набліжаецца і, урэшце, перад намі млын.

— Я казаў, што млын. Трэба зайсьціі ў яго і атрымаць хлеб, але трэба быць асьцярожным. Там маглі заначаваць завозьнікі з дальніх вёсак.

— Ну, нічога, нападзем зьнячэўку,—сказаў Пятроўскі,—створым перапалох, і атрымаем усё, што трэба.

Плян нападу на млын быў тут-жа насьпех складзены. Ён быў з таго, што Пятроўскі ўварвецца ў хату, а я, застаючыся на вуліцы, павінен буду ўзьняць шум. Гэтым самым створым уражаньне, што нас ня два чалавекі, а цэлы атрад.

Мы хацелі, у выпадку ўдачы, узяць ня толькі хлеба, але і абутку і адзежы, бо мы абшарпаліся і наш вонкавы выгляд выдаваў нас з галавой.

Мы ішлі на авантуру з такой-жа лёгкасьцю, як і тады, калі ўскрывалі мяхі ў ветраку. Мы думалі не аб этыцы ўчынку, а аб яго небясьпецы.

Ночы бадзяжніцтва ізолявалі нас ад усяго сьвету — мы мелі права ўночы рабіць усё, што вяло да нашага адратунку і волі.

Асьцярожна наперад. Дзіўна, што ўсярэдзіне будынку нешта вельмі моцна стукае. Гэта было не падобна да млына.

Але ў філёзофію ўдавацца ня было калі.

Я ўбачыў, як Пятроўскі, не марудзячы, націснуў плячом дзьверы. Яна з трэскам адскочыла. Ён уварваўся ў сярэдзіну, а я пачаў крычаць знадворку, стараючыся падбіраць розныя інтонацыі і ўспамінаючы за адно з асортымэнту лаянак самыя сакавітыя і выразныя.

Знайшоў пустую бочку і выбіваю на ёй цэлую сымфонію.

Мне думалася, што гэткі вялікі шум перапалохае ўсіх, хто знаходзіцца ў будынку. Усё-ж мяне непакоіла, што Пятроўскі не даваў аб сабе ведаць,—ці не здарылася што з ім?

Я рашыў увайсьці ўсярэдзіну хаты і накіраваўся да дзьвярэй, але насустрач мне ўжо ішоў Пятроўскі.

— Пецька, ня шумі, тут нікога няма. Толькі адзін гаспадар з сям'ёй.

— А што гэта за будынак?

— Маслабойны завод,—растлумачыў Пятроўскі.—Ідзі хутчэй. Дадуць малака і хлеба, а можа і абутак.

Калі мы з Пятроўскім увайшлі ўсярэдзіну, хлеб і малако было ўжо на стале, а на лаўцы ляжала старая адзежа. Мужчына сярэдніх год на дрэннай мове нешта расказваў, але мы дрэнна яго слухалі.

Прыставілі стол да дзьвярэй, загарадзіўшы ўваход, і ўзяліся за малако і хлеб.

Праз некалькі хвілін мы бяз цяжкасьці авалодалі вялікую буханку хлеба і выпілі ўсё малако. Паеўшы, не сьпяшаючыся, сталі пераапранацца. Я ўсьцягнуў на сябе нейкі старамодны лапсардак, а Пятроўскі ўбраўся ў паношанае паліто з мошаставым каўняром, — і мы прынялі выгляд провінцыяльных актораў, якія абнасіліся і ідуць шукаць работы.

Мужчына прынёс аднекуль яшчэ паўхлеба і даў нам на дарогу; мусіць яго дужа напалохаў наш бандыцкі выгляд і ён не чакаў так добра ад нас адбаярыцца.

Выйшаўшы з хаты мы пачалі ўголас камандаваць мітычнай бандай і зьлёгку пашумелі, каб адбіць у гаспадара ахвоту прасачыць наш кірунак.

Потым бягом кінуліся ў бок ад маслабойні, трымаючы шлях на паўночны захад.

Паўтараю, што пра паўночны захад у нас было самае туманнае ўяўленьне—у дарозе мы часта зьбіваліся, незаўважліва для сябе,—з паўночнага захаду на ўсход і наадварот.

Ва ўсякім выпадку мы лічым, што курс наш усё-ж на паўночны захад.

У гэту „ноч“ (дзень) нам давялося прытуліцца ў нейкай канаве, але на бяду пашоў дробны дождж[ы]к і мы прамерзьлі да касьцей. Вакол была пустэча, ня было куды схавацца.

Мы гатовы былі кінуцца на цэлую армію для таго, каб заваяваць якое-небудзь жыльлё, дзе можна было-б выпрастацца на падлозе, пад страхою, і спаць без канца, да забыцьця. На шчасьце, канава была ў баку ад дарогі.

Пятроўскі асьмялеў да таго, што вылез з канавы і зрабіў спробу пашукаць якіх-небудзь трэсак, ануч і інш. „відаў апалу“, каб можна было распаліць касьцёр і трохі сагрэцца.

— Ты адурнеў?—сказаў я яму, калі пачуў яго вазяніну. — Нас-жа заўважаць, раптам на роўным месцы зьявіцца агонь.

Ён паслухаў мяне і зноў лёг у канаву, нацягнуўшы на сябе сваё паліто з мошаставым каўняром, якое выглядала гэтак комічна на яго вагромністай нясуразнай фігуры.

З надыходам „дню“ (вечару) мы рушыліся далей. Мы былі дужа галодныя, нам удалося прайсьці ўсяго толькі каля 15 кілёмэтраў; мы, напэўна, зашлі ў бок ад жыльля. У гэтым трэба было вініць інстынкт самаахові, кінуўшы нас у „самоту“. Вельмі хутка мы змарыліся і селі. Я страціў сваю гаворкасьць.

Пятроўскі сьпіць. Мы ляжым далёка ад праежджай дарогі на закінутым сярод лугоў бугры. Я тру сухое леташняе лісьце і спрабую яго курыць. Едкі дым есьць вочы. Пачынае нудзіць.

— Гэтак можна і памерці,—думаю я.

А жыцьцё-ж толькі пачынаецца, вось толькі дабрацца да сваіх і зноў праца і змаганьне. Няўжо ня выбярэмся з палону?

— Наша жыцьцё толькі пачынаецца,—упэўнена кажу я на зьдзіўленьне Пятроўскага.

— Ну, добра, пойдзем, галодны лятуценьнік,—жартуе Пятроўскі.

Невядома колькі кілёмэтраў мы прайшлі за пяць дзён, як далёка мы ад мяжы і якой адзнакай маглі-б мы орыентавацца.

Калі ў бліжэйшы дзень ня ўдасца даведацца, дзе мы знаходзімся — мы засыплемся.

На шостую ноч нашага падарожжа мы апынуліся ў нейкім вялікім лесе. Я спадзяваўся на тое, што мы наткнемся хоць-бы на якую-небудзь вартавую будку лясьніка або аб‘езчыка.

Стала ясна, што на хлеб (нават здабыты ў выніку нападу, хоць нападаць няма на каго) разьлічваць у бліжэйшыя часы няма чаго.

Ішлі моўчкі, прыгнечаныя, панурыя, пад нагамі шуршэла адзінокае лісьце; старанна ўсё-ж выбіралі тропкі. У нас-жа ня было ніякай упэўненасьці ў тым, што мы ня блытаемся па лесе, нават не пераходзячы яго ў патрэбным кірунку.

Мы ўжо паўтары дні ня мелі макавай расінкі ў роце, аслаблі. Ва ўсім целе адчувалі нейкую незразумелую боль, намі валодала адна прагная туга па ядзе.

Раптам, нечакана для сябе, убачылі на ўзьлесьсі вартоўню. Не даходзячы да яе 150—200 крокаў наткнуліся на абарванага аброслага чалавека, які спаў на зямлі. Ён спалохана ўсхапіўся і кінуўся ў бок ад нас. Пятроўскі ў момант дагнаў яго, схапіў за каршэнь і, заціснуўшы яму рукой рот, запытаўся на дрэннай польскай мове:

— Ты хто такі?

Адказ быў на добрай расійскай вымове:

— Я ня з тутэйшых месц.

Зьдзіўлены Пятроўскі выпусьціў яго і стаў углядацца ў нашага палоньніка.

— Ды ты, брат, толкам кажы, адкуль ты.

Я дзёрнуў Пятроўскага за руку і сярдзіта сказаў:

— Чаго ты крычыш, пачуюць-жа. Вернемся ізноў да лесу і распытаем яго пад дрэвамі адкуль узяўся.

Мы так і зрабілі.

Праз некалькі сэкунд пасьля сустрэчы з нашым палоньнікам выявілася, што мы наткнуліся на аднаго з нашых, захопленых палякамі ў палон і таксама, як і мы, уцёкшых з лягеру. Ён таксама, як і мы, аслаб з голаду і кінуўся, не даходзячы да вартоўні, не разглядзеўшы яе ў цемры.

— Ну, што-ж,—разьвёў рукамі Пятроўскі,—кроч з намі разам, будзем дзяліць голад папалам.

Далучыўшыся да нас, таварыш слаба рэагаваў на жарты Пятроўскага, ён, відаць, быў ужо ў тым стане безнадзейнасьці, калі чалавеку абыякавы лёс.

— Ды з гэткім далёка ня зойдзеш,—сказаў Пятроўскі.

Аднак, думаць над тым якога спадарожніка паслаў нам лёс, мы не маглі, незалежна ад усяго, яго ў хаўрус прыняць трэба.

— Пашлі,—кінуў Пятроўскі,—у гэтай хаце мы на што-небудзь разжывемся, паядзім.

Падышлі, пастукалі ў дзьверы, мяркуючы, што на гэты раз, як гэта ўжо бывала, ніхто не адзавецца, тады ўвойдзем усярэдзіну, паямо чаго-небудзь і адасьпімся.

— Каго пан бог дае,—пачулі мы голас за дзьвярыма.

— Нех, пан, отвожэ.

— Зараз,—пачўўся спакойны голас у адказ. Мужчына высокага росту з даўгімі вусамі папярэдліва расчыніў перад намі дзьверы і далікатна запрасіў.

— Проша.

Нам нават не здалася падазронай гэта незразумелая ласкавасьць уночы, у лесе.

Мы, утраіх, наогул сталі дрэнна разьбірацца.

Здавалася, што чалавек, які адчыніў нам дзьверы, павінен быў спалохацца, струсіць перад трыма людзьмі, што нечакана апынуліся перад яго домам. Ён, аднак, заставаўся прыемна зьдзіўленым.

Мы ўвайшлі.

Не пасьпелі зачыніцца дзьверы, як насустрач нам усхаіплася трое узброеных рэвольвэрамі мужчын і шалёна выпалілі:

— Рэнкі до гуры (рукі ўгору).

Я павярнуў галаву назад: думаў, што мы пасьпеем кінуцца да дзьвярэй. Але і каля дзьвярэй на нас глядзелі наўсторч двох узброеных з двума накіраванымі ў наш бок дуламі вінтовак.

Нам запрапанавалі выйсьці на сярэдзіну, мы падпарадкаваліся.

Пачаўся допыт.

Хто мы, куды ідзем.

Мы ня былі падрыхтаваны да пытаньняў такога парадку, мы нават ня ўмовіліся, як ставіцца нам, калі пападземся.

Я панёс такую лухту, што палякам лёгка было скеміць у чым справа.

— Не маніце, халеры. Вы бальшавікі, напэўна ўцяклі з лягераў,— сказаў мужчына з даўгімі вусамі.

— Не клапацецеся ўціраць нам акуляры, мы тутака стрэляныя, — гаворыў ён далей на расійскай мове,—проста па шчырасьці расказвайце— што і як, вам-жа лепей будзе.

Гэта было сказана настолькі пераканаўча, што мы адразу адчул недарэчнасьць далейшай упартасьці. Яны запрапанавалі скінуць з сябе адзежу, старанна ператрэсьлі ўсіх.

Гэта процэдура адбывалася пад накіраванымі на нас дуламі рэвальвэраў. Забралі наш славуты ножык і, толькі пасьля гэтага, зьвязаўшы нашы рукі, дазволілі сесьці на падлогу.

Мы з удзячнасьцю прынялі гэту ільготу, таму што ногі нас ужо ня трымалі. Яшчэ сэкунда і мы кінуліся-б „без дазволу“, як мяхі.

Мы папрасілі хлеба. Нам не адмовілі. Адзін з палякаў прынёс нават вады. Гэты ўжо было актам выключнай гуманнасьці.

— Ну, а цяпер сьпеце,—сказаў доўгавусы,—мы вас ахоўваць будзем.

Мы пераглянуліся адзін з адным; мільгнула надзея падмануць дбайнасьць нашых вартавых, прыкінуўшыся, што сьпім, а там Пятроўскі адным махам высадзіць дзьверы і мы пабяжым на ўра.

Парашылі заснуць.

Спадарожнік шэптам запытаўся ў мяне:

— Хто яны такія. Чаму тут столькі ўзброеных людзей?

— Напэўна, лясная варта,—даволі няўдала адказаў я.

Мы хутка ўстанавілі, што арыштавалі нас салдаты комэнданцкай каманды з мястэчка Стралкова, якое знаходзіцца на мяжы провінцыі Пазнань.

Узброеныя людзі выконвалі нейкія службовыя даручэньні і вяртаючыся ў Стралкова, заначавалі ў вартоўні.

Пустая выпадковасьць, якая нас пагубіла.

Раніцою яны ўзялі нас, што называецца, у работу і сталі дапытвацца з якога лягеру мы ўцяклі. Але мы за ноч пасьля моцнага сну сталі больш мужнымі і рашылі, па магчымасьці, адцягнуць наша прызнаньне, тым больш, што пакуль у гэтым ня было жаднай патрэбы.

Мы катэгорычна адмаўлялі нашу прыналежнасьць да ваеннапалонных чырвонаармейцаў.

Доўгавусы паляк злосна пасьмейваўся, напэўна для яго ўжо наша чырвонаармейскае паходжаньне было вядомым. Палякі рашылі ўзяць нас з сабой у мястэчка Стралкова. Былі прырыхтаваны тры хурманкі і пад аховай пяці ўзброеных салдат комэнданцкай каманды крануліся ў мястэчка Стралкова.

Пачаўся новы этап у нашым жыцьці.

Зараз-жа сталі гадаць, чым пачастуюць нас, як прыедзем — ударамі шомпалаў і прыкладаў альбо бізунамі з тэлефоннага дроту.

— А можа быць у Пазнані, — сказаў Пятроўскі, — тэлефонны дрот інакшы, як у Польшчы, ня будзе так балюча, калі будуць біць.

Я маўчаў.

Дарогаю мелі перадышку, салдаты трымалі сябе нічога, нас ня білі. Гэта было ўжо дзіўным, бо ішло ў разрэз з традыцыяй, якая моцна ўстанавілася ў палякаў у адносінах да палонных.

Мала таго, нам на кожнай астаноўцы давалі есьці.

Нашаму зьдзіўленьню ня было мяжы.

— Ну, напэўна, у Стралкове лепей жывецца, як у Калішы, — сказаў нам новы спадарожнік Мікалай.

Наша фантазія пасьля зрыву авантуры працавала, аднак, у тым-жа кірунку. Мы марылі аб наступным уцёку ў Нямеччыну, куды з Пазнані ўжо недалёка, вёрст пяцьсот. З Нямеччыны ў Расію трапіць зусім лёгка. Такая ўжо ўласьцівасьць чалавека, шукае ён выхаду з самага цяжкага становішча.

Мара пра ўцёк ізноў дала нам сілы для далейшай пакуты,

Мы ехалі да Стралкова тры дні, пасьпелі досыць стаміцца, стралкоўскі лягер стаў здавацца нам нейкім нерэальным.

Ехаць-бы так на хурманках да самай нашай мяжы. Але цудаў у польскім палоне не магло быць.

Мы, нарэшце, прыехалі ўсё такі ў мястэчка Стралкова, вельмі невялікае, але чысьценькае. У самым мястэчку знаходзіўся лесапільны завод, віднеліся яго трубы.

Першае ўражаньне ад Стралкова было выгодным. Пераважна сярод насельніцтва былі пазнанцы. Адарваныя прымусова ад Нямеччыны, у выніку перамогі над апошняй, яны не маглі адчуваць варожасьці да нас, супроць каго змагалася польская ўлада.

— Няўжо тут будуць добра карміць,—разважае ўголас Пятроўскі.

— Ой, не памылімся, калі скажам, што ўва усіх лягерах аднолькава,—адказаўся.

— Гэтак то яно гэтак,—дадаў Пятроўскі, ну ды няма чаго наперад гадаць, паглядзім, цяпер ужо недалёка, заўтра, напэўна адправяць у лягер.

Вось гэта заўтра, зьвязанае з лягерам, нам з усіх сіл хацелася адсунуць надалей.

Мы інстынктыўна адчувалі, што наш оптымізм продукт фантазіі людзей бясконца змардованых, якія хочуць хоць-бы кароткага заспакаеньня.

Пад'ехалі да будынку, у якім зьмяшчаўся комэндант. Нас адразу накіравалі ў памяшканьне з кратамі ў вокнах.

Сем дзён...

І зноў комэндантура. Усё пачынаецца спачатку і ў гэткім-жа парадку. Комэндантура Вільны, Калішу, дадаецца комэндантура Стралкова.

Ці апошняя?

# СТРЭЛ [1])

*Вершаваная комэдыя*

**А. Бязыменскі**

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ

### МАЛЮНАК ДЗЕСЯТЫ

Дэкорацыя 8-га малюнку. Побач з вагонам высокі постамэнт, упрыгожаны зелянінаю. Маўклівыя постаці трамвайшчыкаў ціха блукаюць па сцэне. Гладкіх і інструктар губкому чытаюць разам запіску.

Гладкіх (чытае).

„... да цела майго нікога ня пускаць, акрамя брыгады, Озоля, Граеўскага і дарагога майго старога. Прашу зрабіць маю грамадзянскую паніхіду каля нашага вагону. Адчуваю, што... мяне... прыдушылі. Ня вінавацьце мяне, таварышы. Бюрократы хацелі, каб я быў заўсёды мёртвым. Але я ня гэткі мёртвы, як яны хочуць.
Карчагін“.

Інструктар губкому.

Губком жадае ведаць справу—
Што за прычына тут была.
Каб высьвятліць усё яскрава,
Мы ставім заўтра ваш даклад.

Гладкіх (абціраючы сьлёзы).

Даклад, мы зразумела, споўнім—
Адно не зразумець мне што—
Хто тут віноўны?
Хто віноўны?
Хто тут віноўны?
Хто-ж?
Ну, хто?
Яго ня бачыў я ні разу.

---

[1]) Працяг. Гл. „Полымя“ № 5—6, 8, 9—10 за 1930 г.

Па сьпісах, праўда, залічыў!
Магчыма, хто яго абразіў,
А ён, гавораць, хворым быў.

Інструктар Губкому.
Нам трэба ведаць,
Што ў аснове.

Голас Кудрына.
Хіба расчуліць іх хоць што...

Гладкіх (схапіўшыся за галаву, да публікі).
Скажэце мне,
Хто тут віноўны?
Хто тут віноўны?
Хто-ж?
Ну, хто?

(На час выходзіць з інструктарам).

Група комсамольцаў.
— Я перабіў-бы ўсю басоту.
Яна віноўная!
— Яна яшчэ нішто.
— Ды што! Упадачнік,—і ўсё тут.
— Мы ўсе віноўныя.

Голас Гладкіх.
Ну хто-ж? Ну, хто?

Трамвайшчыкі.
— На ўсё-ж бывае час адсэку,
А нас заўважыць аніяк.
— Як трэба ўцяміць чалавека—
Для нас навука як-ні-як.
— А дурань хлопец!
— Здрэйфіў!
— Колька!
— Але-ж!
Эх, не пайшоў вагон!
— А для вытворчага, брат, фронта
Сябе угробіць—ня рэзон.
— Забыў змаганьне.
— І ідэю.
— Спагады цяжка дзе знайсьці...
— Змагацца, любы мой, цяжэй,
Куды лягчэй дык адысьці.
— Ты ня судзі!
— Змаганец—цьвёрды.

— Я шмат каго пацяг-бы ў суд.
— У-па-дач-нік!
Маўчы ты, морда!
— Ня здрэйфіў!
Здрэфіў!
— Шша!
Ідуць!

Уваходзяць Лена, Сарокін, Озоль, Граеўскі, Дзямідаў. У часе прамовы Дзямідава падыходзяць Прышляцоў, Гладкіх, Інструктар, Брэст, Чакмазаў, Пішчалаў, Горын, Панаў, Созін, Шалкуноў.

Дзямідаў.
Таварышы!
У тым сакрэту,
Што ўсім нам цяжка—тут няма.
Але мы хочам разам з гэтым,
Каб гэта не прайшло дарма.
Нас ня пужаюць нашы раны.
Нарэшце пераможам змрок.
Дзівіцца ад чаго няма нам.
Мы выканаем свой зарок.
Быў хлопец. Блізкі. Незабудны.
Ён вінаваты!—згодзен я.
Але бывае, што падсудны
Ўстае прад намі, як судзьдзя.
Мы сьвету адкрываем шыры.
Працуем шчыра тут і там.
Самазабойцы—дэзэртыры!
Ганьба таму, хто здрадзіў нам!
Ганьба таму, хто уцякае,
Але
Згадайце на другіх,
Яго віна не паслабляе
Віны жывых.
Прышляцоў.
Каго тут судзяць?
Дзямідаў.
Гэта заўжды
Вядома—
Злодзей суд свой сьніць.

(Рух).

Гладкіх.
Маўчаць!

Інструктар.

Хай скажа!

Дзямідаў.

Шчырай праўдай
Манюкам нельга дагадзіць.
Яна, як шабля, рэжа бедных,
А калі рэжа—
Будзе боль.
Ўсёй праўды тут ніхто ня ведае!
Пра праўду
Гавары, Озоль.

Озоль.

Таварышы! Яшчэ нядаўна, учора,
Мы гналі натаўпы буржуяў ім на страх.
Мы мерцьвякамі ўгнойвалі прасторы,
Каб толькі ўзрос вытворчасьці размах.
Ён вырас. Ён расьце. Шырэе. Узрастае.
Матораў гоманы прарочаць новы век.
Але скажэце мне,
Хто
гэта ўсё стварае?
Ўсё ладзіць,
Ўсё вядзе,
Ўсё рушыць...
Чалавек.
Ня кожны чалавек нам блізкі! Згода! Ласьне
Мы сьліньцяі? Не! Не! Ідзе сусьветны бой!
Але браты!
Сябры!
Ды ёсьць-жа брат па клясе!
Па думках!
Працы!
Сябра.
Родны!
Свой!
Ня ўсім бывае добры ён работай,
Але вось хоць-бы вы—вы, родныя, свае!
Вы часам хлусіце, гультайнічаць ахвота
Часамі. Рэдка хто з вас і ня п'е...

Голас.

Няпраўда!

Кудрын.

Праўда ўсё.
Хлусіць няма прычыны!

Сарокін.

А праўда—наш цэмэнт.

Дзямідаў.

Ўсё правільна, як сьвет!

Озоль.

Свой можа быць благім.
Ды хіба-ж немагчыма
Ну хоць-бы і з такім
Перарабіць нам сьвету?
Не беларучкі мы! І ў нас хапае цьвілі.
Будуем сьвет—сябе збудуем зноў.
Таварышы! Нас мэта ўсіх злучыла.
Няўжо-ж ня знойдзем да сябе любоў?
Бо кожны чалавек—ёсьць частка нашай волі.
Любі яго,
Вядзі,
Падай яму руку!
Ня ўсіх-жа ворагаў маглі мы з вамі здолець!
Другія ворагі нам сталі на шляху.
Няма вачэй. Ня знойдзеце ў іх рук вы.
За нэрвы камень і за слова—крык.
Загад заместа сэрца. Літары—іх думкі.
Але язык,
Ласкавы іх язык!
Віноўны Коля, так. Змагаўся, бязумоўна,
І вораг перамог, хоць навакол сябры.
Падкопы брудных спраў. Засадаў слоўных.
Бяздушнасьць. Папяровыя муры.
Ганьба для комуністых—зьбегчы з варты ў бойцы!
Але-ж казаць нам трэба
і аб чужой віне.
Што адбылося тут? Вы ўсе скажэце мне.
Самазабойства? Не.
Здарылася...

Кудрын.

Забойства!

Гладкіх.

Што-о-о!

Прышляцоў (да Озоля).

Ах, трухляк!

Брэст.

Падлец!

Кудрын (Устае перад Озолем).

Прэч, гады!

Граеўскі.

Кепска стала?

Прышляцоў.

Падлец!

Крыкі.

— Маўчы!

— Далоў!

— Самварты падляца!

Інструктар.

Мяне прыслаў губком. Бяз лішняга скандалу

Мы справу давядзем да хуткага канца.

Гладкіх.

Скандаляць-жа яны!

Інструктар.

Магчыма.

Крыкі.

— Ціха!

— Ціха!

Дзямідаў.

Таварышы! Мы ўсе—

Вялізная сям'я.

Калек і ў нас, браткі, хапае ўсё на ліка.

Мы выкінем іх прэч—упэўнены ў тым я.

Хлусіць вучылі нас. Нам працу падрывалі.

Сядзелі ля папер сьляпцы-панамары.

А ворагі тымчасам не драмалі

І некага за нітачку трымалі...

Комсамалята, кола!

Лена,

Гавары.

Комсамольцы, узяўшыся за рукі, робяць кола ў глыбіні сцэны, абкружаючы ўвесь сход.

Лена.

Таварышы, я вінавата...

Мне сорамна.

Загінуў ён.

Калі тут забівалі брата,

Мяне... прывабіў Пінкертон.

Я сіл патраціла ня мала,

Каб выкрыць ворагаў намер.

Ды я-ж ня ведала!

Ня знала,

Што аднаго чакала сьмерць.

Сябе я палічыла віннай...

Я напісала ў Губкака...
Ну, добра, добра.
Гэта кінем.
На гнеў хай зьменіцца туга.
Таварышы! Мы маем права
Даведацца прычыны. От.
У нас нядаўна ля канавы
Адбыўся нелегальны сход.
Той сход задумаў тым заняцца,
Каб сапсавалі нам вагон.
Было іх чалавек дванаццаць,
За старшыню быў...
(паказваючы на Шалкунова)—ён!

Шалкуноў (адхіснуўшыся).
Няпраўда.

Лена (ідзе да яго выцягваючы рукі).
Дай кішэні, нутка!

(Шалкуноў хутка вымае з кішэні зьмятую паперку і зьядае яе)

Пасьпеў, гадзюка! Толькі што-ж?
Адкрыем вашы пляны хутка.
Даёш!
Гарадавы ты! Факт—і годзе.

Брэст.
Няпраўда!

Лена.
Высьветлім пазьней.

(Ідзе да Чакмазава)

А ты чаму на гэтым сходзе
Сакратаром у іх сядзеў?

Чакмазаў (спакойна).
Халера, хлусіш!

Лена.
Ты спакойны?
А даручэньне браў з вас хто?
Скажы мне,
Што гэта такое?
А гэта што?
А гэта што?

(Хутка распранаецца і апыняецца ў мужчынскім гарнітуры. Завязвае твар хусьцінкаю, як пры флюсе, нацягвае кэпі).

Брэст.
Мартынаў!

Граеўскі.

А! Знаёмы трошкі?

Лена (ідзе да Горына).

Што, здрэфіў?

Адмаўляеш можа,

Што тут ішоў ты не з-за грошы?

(Рэзка паварочвае і тварам да твару стаіць перад Пішчалавым)

А ты чаму вось, мой харошы,

Запытваўся пра забастоўку?

Пішчалаў.

Інфармаваўся...

Лена.

Не, хлусьня-с!

Пішчалаў.

Ня з імі я! Яны ўсіх нас,

Кажу, трымаюць...

Лена.

За вяроўку.

Пішчалаў (гістэрычна пішчыць).

Падлюгі вы! Дзе Троцкі, гады?

Мы будзем біць вас! Біць вас! Біць!

Рабочым трэба браць уладу,

Каб кіраўніцтва ўсё зьмяніць.

Лена.

Ён дурань—

Гэты ўчора сябра наш

І сукін сын цяпер,—каб бараніцца

Ад ворага,—замкнуў ён вакяніцы,

Але ўсе дзьверы адчыніў наўсьцяж.

(Паварочваецца да Брэста).

Таварыш Брэст, дазваляю вам рабіць з брыгадаю ўсё што хочаце. Трэба яе дыскрэдытаваць. Як ні хочыце, а ня злуйцеся. Рабочыя яшчэ дзікуны. Някультурныя. Сувязь з інтэлектуальнаю інтэлігенцыяю, лепшым прадстаўніком якое вы зьяўляецеся, заўсёды надае мне бадзёрасьці. Такім чынам, брыгада пад вашым за...

Бяз подпісу. Незразумелы пляны".

Лена.

Я знаю плян. Глядзеце ўсе!

(Ідзе да вагона).

Граеўскі (паказваючы на шчокі Прышляцова).
Скажы,
Адкуль такія плямы?
Зайздрошчу я тваёй красе.

Лена (адкрывае крышку сілавое скрынкі).
Стары, сюды! Ня дужа цяжка.
Рукою ўласнаю бяры!
Глядзеце! Забясьпечнай бляшкі
Я адкруціла сухары...
Што там?

Дзямідаў (падымаючы руку).
Паперка.
Гэта значыць,
Што зрушыцца вагон ня мог.

(Вялікі шум).

Крыкі.
— Падлюгі!
— Гады!
Што-ж гаспадар маўчыць? чакаем!
Ты не наведваў іх ніяк,
Але што робіш ты—мы знаем.

Брэст.
І пра замежы так-жа?

Лена.
Так!

Чакмазаў.
Дур-ніца!

Брэст (да Лены).
Хлусіш кепска нават.
Таварышы, я жартаваў.
Шукаюць шахцінскае справы,
А тут я сілы шмат паклаў.

Лена (махаючы паперкаю).
А гэта што?

Брэст.
Паперку тую
Дык выкрала ў мяне яна!

Дзямідаў.
Сьцьвярджае ён!

Лена.
Дык ня крыўдуй-жа—

Ня выратоўвае мана.

(Да інструктара).

Чытайце!

**Інструктар** (чытае).

— Сыны сабачыя!
— Падлюгі!
— Прэч!
—Ў вастрог!
— Ў вастрог!

**Дзямідаў** (разглядаючы паперку)

Таварышы, яшчэ падзея!

(Да інструктара).

Аддай мне ліст!
Ён з двух лісткоў...
Якраз сыходзяцца...
Глядзеце!
Чытаю подпіс

(Апускаючы рукі).

Пры...
шля...
цоў...

(Маўклівасьць).

Чакаў я шмат чаго. І ўсё прад гэтым меркне.
Да мас пагарда. З ворагам хаўрус,
Ён ворагам абернуты ў паперку.
А я яе ў кавалкі падзяру.

**Прышляцоў** (глуха).

Я... жартаваў.

**Дзямідаў.**

Маўчы пралаза!
Так і Дзянікін жартаваў
І чэхі...
Ды відаць адразу
Ты вораг наш і нашых справ.

(Да Гладкіх)

Ну, што? У трампарку ўсё спакойна?
Няма ніякай барацьбы?
Што-ж ты рабіў у гэтай бойцы,
Таварыш „Оный—Сей—Дабы“?

Павінен быць удзячны вораг
Таму, хто вочы, галава,
Хацеў іголкай папяровай
Відучаму зацыраваць.

Гладкіх.
Сумленны я...

Дзямідаў.
Як той мядзьведзь славуты.
Забіў—і плача. Апраўдай!
Сумленных нам намераў мала,
Сумленныя ўчынкі дай.

Гладкіх.
Ня вораг я. Паклёп тут! Стой!
Ты на мяне цяпер накінуў
Віну чужую!

Дзямідаў.
Ты матор
Бюрократычнае машыны.

Гладкіх (гістэрычна).
Не! я ў злачынстве ня віноўны!
Усё гэта вынік іхніх змоў.
Мы ўсіх злачынцаў хутка зловім—
Віноўныя тут Брэст і Прышляцоў!
Ня меў я з ворагам контакта!
Ну што зрабіў я за жыцьцё?
Дай мне дакуманты! Дай факты!
Дай доказы на гэта ўсё!

Гонг. Зелянкоў, Рэйбрук, Астапенка, Уласюк, Сарокін і Граеўскі ўносяць труну. Паволі ідуць, ставяць труну на тастамэнт. Музыка.

Кудрын.
Мы пераможцамі ўсяго.
Але хто... верне нам...
яго?

(Паказвае на Брэста, Прышляцова, Гладкіх, Горына, Чакмазава).

Вось людзі.
Што яны такое?
Гляджу я: па зямлі далей
У крыві, у струпох, у больках, гноі
Страшыдла цягнецца сьляпое
І душыць на шляху людзей.
Старое ўкол нас і ўнутры нас,—
Усё хітры вораг скарыстаў.

Ну, што з таго, што сам я рыну
З адным штыхом на іхны стан?
Тут грамадою трэба ўстаць,
Каб кожны радавы баец
З другім ішоў заўсёды поруч,
Аддаўшы сілы ўсе свае
Агульным радасьцям і горам.
Не! Я не беспартыйны болей!

Дзямідаў.
Так! Ты сапраўдны камунар!

Граеўскі.
Ня будзе ворагам патолі!
Два ўдары—на адзін удар.

Рабочы (выходзячы наперад)
Мяне... таксама залічэце!

Дзямідаў (выцягваючы руку)
Ідзі!

Галасы.
— І я!
— І я за ім!

Озоль.
Таварыш наш на ўлоньні сьмерці
Пачуе моцны працы гімн.

Штурхаючы ўсіх, На сцэну прарываецца Дуньдзя. Бяжыць да Гладкіх.

Дуньдзя.
Таварыш сакратар, я да вас бягу з дому.
Паперу прынесьлі—я бег трушком наўмысьле...

Гладкіх (чытае)
„Згодна пастановы камісіі райкома,
Пытаньне пра самазабойства Карчагіна
Перадаецца ў адпаведную камісію“.

(Брэст рагоча)

*Гонг*

МАЛЮНАК АДЗІНАЦЦАТЫ

(Прышляцоў адзін, п'яны).

Прышляцоў.
І вось—
Я выяўлены.
...Сьмешна!
Ду-рны! Даруйце за намёк.

Ня помню гэткага здарэньня,
Дзе вывярнуцца я-б ня мог.
О, людзі
Мне
На вашу веліч
Схіляцца гордай галавой!
У нас ня першы з вамі бой,
А вы ня шмат... паразумнелі.
Мазгоў драбнюсенькую клецъ
Павысушылі вам сухмені.
Ваш сьцяг:
Рабіць, як можна меней.
І як мага найболей мець.
Вы трусы, людзі! Тарахцелкі!
Я сёньня зьнізіўся да вас
З агіды сёньня першы раз
Я дакрануўся да гарэлкі.
О, чалавекі!
Вам агідны
Вялікі моцных душ розмах,
Бо ад засух ваш сьвет зачах,
А лівень вам—
Вось ваша сьліна.
Вас ведаў я. Даўно мне час
Сказаць рашучае вам слова,
Ды веды натаўпу людзкога
Мне ўчора здрадзілі якраз.
Інтэлігента ўраз касіў я,
Беспамылкова забіваў...
А тут я дзікі жар спаткаў.
Незразумелую мне сілу.
Рыхтуйся!
Будзе барацьба!
Яшчэ шырокая дарога.
Нас вучыць радасьцям журба
І паражэньне перамогам.
Упэўнены ўжо той стары—
Цяпер у перамозе сталай
Эх, любы! Дурняў ёсьць ня мала.
Я з розумам,
Як ты не гавары.
Так існуюць яшчэ падпанкі.
Ёсьць ордэн і хлусьні і сна.

Ганеце думку,
        Што яна?
Пашто напор?
        Нявошта палкасьць
Сьвет мусіць ціхім быць у іх.
Замнем скандал бяз лішніх клічаў...
Прывет паперы ратаўнічай
Інстанцый важных і сьляпых!
Я загадзя ўсё бачу добра.
Спачатку будзе нуд і зуд
Пасьля ўжо—караю, вядома,
Дадуць мне падвышэньне тут.
Так здаўна ўжо вядзецца ўсюды.
Сягоньня зьняты я табой,—
Вярнуўшыся назаўтра ў бой
У адказ цябе здымаць я буду.
Дык лепей нам з цішком з табой
Усё абмеркаваць бяз шуму.
Ня ўсім даводзішся ты кумам.
Ня кожны звычай знае твой.
Не! Не загінуць мне спрадвеку.
Здымаюць? Хха! Зьніжаюць? Хай,
На памяць ведаю бадай
Ўсё,
Што мне трэба ў чалавеку.
Сумленны, подлы, добры, злы,
Разумны, дурань, трус ці сьмелы,
Ён—чалавек—
        Перад мной
Устае з прасьвечанай душой,
З адкрытым чэрапам і целам.
Мне трэба ўлады.
        Я хачу і кропка—
Вышэйшага штукарства для другіх
Гуляць пачуцьцем кожным паасобку
І комбінацыямі з іх.
        ...О, людзі, людзі!
                Род ганебны!
Я вас да пугі прывучу,
Прымушу думаць як хачу,
Рабіць прымушу, што мне трэба.
О, масы! Масы! Быдла! Сьвіньні!
Баранаў дзікая арда!
Прыемна часам прыгадаць

Сваё грамадзкае дзяцінства.
Жыцьцё спыніла мой прычал
Тады дваццатым годам дзікім.
„За масаю!“—Я, помню, клікаў
І вельмі шчыра я крычаў:
„За партыяй! За комсамолам!
Саюз! Саюз! Мільёны воль!
Ура мільёнам!“

(Выпівае).

Ды кароль вядома быў да рэшты голым.
Дзе партыя?
Ёсьць шал і розум.
Дзе кляса,
Што ні гавары,
Ёсьць толькі натаўп і правадыры,
Якія натаўп той
Вядуць загадам грозным.
Бо натаўп—ён не разважае.
Ідзе—
Куды яго вядуць.
І хто з іх можа рызыкнуць?
Хто рэзкаю думкаю ўладае?
Вядома, так і быць павінна:
Маўчы!
Ідзе за важаком.
Я роджаны правадыром!—
І хай ня рыпаюцца сьвіньні:
Былога думы ня міне...
Я з Марксам буду ўсё-ткі згодны.
Соцыялізм для нас ня шкодны.
Ды—
Прыдзе ён бяз мне.
Дык карыстай-жа поўна з часу,
Бі ворагаў сярод слаты,
Ня будзь-жа скарыстаным масай,
А масу выкарыстай ты.
Будзёншчыны абрыдла прорва.
Хачу правадыром пражыць!
Няхай перараджэнцам быць,
Але усё-ж сусьветнай формы.
О, Гладкіх! Хто цябе дурней!
Мяне сваім ты мысьліш братам?
Ты вельмі многа сіл патрацiў.

Каб дацягнуцца да мяне.
Цягніся! Гэта нам ня нова.
Ды я ўзрастаю ў барацьбе.
Перарастаю Прышляцова,
Перарастаю сам сябе.
Я знаю ўсё. Я ўсё здалею.
Я ўладу з бою буду браць.
Я проста ішоў.
Час нападаць!
Ажыцьцявіць маю ідэю.
Убраўшы супаратаў тлумных,
Я падбяру з усіх чыноў
Кампдект сумленных балваноў
І найнягоднікаў разумных.
Ты вывучы іх звычкі, думкі, быт,
Бяры на ўвагу хворасьці людзкія,
Ільсьці іх радасьцям і жалям,
Знай—ён слабы,
А моцны ён,
Бяры, дзе трэ'
Патрэбны тон...
Трымай сябе,
Не як Малчалін.
Свой гонар беражы тады.
Бо ён галоўнае на сьвеце,
А пры малым аўтарытэце
Зьесьць вораг твой цябе заўжды,
Аўтарытэт свой павялічыць
Як можна?
Спрэчкі закаціць,
А ці пайсьці на прэку тым,
Хто сам слабы і без аблічча,
Вось тых,
Каго ўжо справы душаць,
Адменна вылаяць ня грэх,
Тых, папалохаўшы нагрэць—
Хай бачаць самастойнасьць думкі.
Свой плян абараняй старанна,
Бяры ў дакладах тон судзьдзі,
Цытату заўжды прывядзі,
Павесь вядома дыяграму.
Фасон каб заўжды быў на яць,
Пісаў, каб пастановы лоўка,
Такую дай формуліроўку,

Каб тлумачэньні дадаваць
Упэўнена—бяз гвалту, цьвёрда—
Надуюць спрытнасьцю сваёй
Людзей на гэта досыць добрых
Для справы сапраўды благой.
Няхай паводдаль я стаю
Ды ўсе манюкі, падхалімы,
Політыкі, галоўзажымы—
Заціснуты ў руку маю.
Хай перамог ты, пролетары,
Зноў можа Прышляцоў паўстаць.
Ён будзе сьветам кіраваць
Праз лейцы вашых канцыляры́й.
 О, людзі!
Чым я страшны вам?
Над чым працую я напорна?
Са спрытам сьцерагчы ўсе формы,
А сутнасьці ня трэ' людзям.
Для перамогі што абавязкова?
Да кожнага мець свойскі падыход!
Вось гэты хлопец
 Любіць нот,
А той—
 Біблейныя размовы,
Той фізкультурнік, хоць асьліны,
Той вечна трэпле плян работы
Той дужа цэніць анэкдот,
Але з акцэнтам каб і сьлінай.
Адзін крычыць пра індустрыю,
Другі пра жонак
 прарыпіць,
Да кожнага радка ці сказу.
Зьмяні зварот—і ўсё пакінь,
Паправачак дадай такіх,
Каб аж зьмяніўся сэнс адразу.
Як лаяцца табе прысьпела,
Крычы, што ты ня чыстаплюй,
А інады пакрытыкуй,
Каб трапіць у бюро за сьмеласьць.
Калі твая кандыдатура
Прайшла на сёмым месцы раптам,—
На справы прыгадаўшы трапна,
Адмоўся ціха, сьціпла, хмура.
Ты простай чуткай, гострым словам

Атручвай ворагу жыцьцё,
Скажы, што праўда перш за ўсё,
Што ты ня маеш асабова
Нічога супраць, але вось,—
Крычы,—нам нешта гаварылі,
Што быццам... Недзе... Неяк... Ён...
У выніку:
І прынцып ёсьць,
І хлопца ўсё-ж ткі правалілі.
Дэмократыя? Калі ласка!
Тут трэба загадзя ўзгадніць—
Тады высоўваць, бараніць
Пытаньні з вырашаным іх разьвязкай.
Нажы, абрэзы—дурасьць скрозь!
Іх зьменіць кумава гарэлка,
Званок, паводзіны, паперка,
Матывіроўка,
Націск—вось!
І гэта толькі схэма тая,
Таго, што я рабіць магу.
Так! Гора ворагу майму.
Каму ён гэтак пагражае?
Крычы, Дзямідаў пролетары!
Хай Прышляцову пад мехам бед!
Ён павядзе ўвесь гэты сьвет
За лейцы вашых канцылярый.
Я сам сабе і чорт і хват!
Што прада мной пігмэі форды?
Людзям я заяўляю горда:
Я бюрократ! Я бюрократ!
Я гэні! Я асілак! Цуда!
Сягоньня, можа, я памру,
А заўтра ўстану й на зару
Сядзець з табою побач, буду.
З табою побач, чалавек,
Які сядзіць у гэтай залі...
Ага? Мяне вы не пазвалі?
Я ёсьць славуты ІМЯРЭК!
Прэч справавода,—брава, хлопай!
Бі, бі бухгальтара,—урра!
А я пад раніцу на вас
Гляджу загадчыкавым вокам.
Пазбавіш зноў мяне пасады,—
Зірні на аркуш—між папер

Я ажыву ізноў цяпер,
Пастаўлю подпісам засаду,
Я коскай, закрычу, як зьвер,
Я штампам на табе павісну,
Я літарай нязначнай сьцісну.
Зачыніш браму—у дзьверы скокну,
Зачыніш дзьверы—улезу ў вокны,
Зачыніш вокны—шчылін шмат.
Заканапаціш іх... От страта!
У сэрцы шчылін ёсьць багата
І тут ня будзе жадных страт.
Яны—мне сьцежка. Сьцежка гэта
Да сэрца людзкага—да мэты.
Я несьмяротны. У паход
Вядуць шырокія дарогі.
О, Імярэк! Ідзі! Прыходзь!
Да нямінучай перамогі!

(Кідаецца направа).

Гонг. Сьвятло. Прад ім стаіць Граеўскі.

Пракляцьце! Тут няма дарогі.
Туды, там зацішна якраз!

(Кідаецца налева ад Граеўскага).

Гонг. Сьвятло. Прад ім стаіць Кудрын.

Дрыжыць рука. Ледзь ходзяць ногі...
Ды блізка перамогі час.

(Кідаецца ў глыбіню сцэны).

Гонг. Сьвятло. Перад ім стаіць Сарокін.

Трывога, Прышляцоў, трывога!

(Кідаецца налева ад Сарокіна).

Гонг. Сьвятло. Прад ім стаяць Лена і Озоль.

Праходзь і здані адгані!

(Кідаецца налева).

Гонг. Сьвятло. Прад ім стаіць група рабочых.

Забралі ворагі дарогу...
О, я ў трызьні! О, я ў трызьні!

(Кідаецца налева).

Гонг. Сьвятло. Перад ім стаіць Ш а п т а л а ў. Прышляцоў кідаецца на калені.

Пусьці, мой родны! Я забыў
Пра ўсё даўно. Нашто засада?
Хіба ў пашане я ня быў?
Рабіў я дрэнныя даклады?
Я вам ня буду супаратам,
Усё зразумела для мяне!

(Шапталаў пачынае хістацца).

Няхай я нават вінаваты
Дай тэрмін выправіцца мне!
О, так сурова не глядзі ты!
Прапусьціш! Так! Пусьці! Пусьці!

(Шапталаў адыходзіць ўбок).

Ура! Дарога мне адкрыта.
Ніхто ня шкодзіць мне ісьці!

(Кідаецца уперад праз месца Шапталава).

Гонг. Сьвятло. Перад ім стаіць Д з я м і д а ў. Прышляцоў, хістаючыся, кідаецца назад валіцца ў зьнямозе на падлогу.

Яны паўсюды. Гора, гора!
Я прытаміўся... Усё дарма.
Прайсьці праз залю сіл няма,
А там-бы прапусьцілі скора.
О, чалавечак! Рагачы!
Змагацца хочаш ты са мною?

(Убягае Гладкіх).

О, не! Ня здамся я бяз бою!
Я здолею перамагчы!

Г л а д к і х
Але чаму-ж,
Не разумею,
Перамагчы ты не здалеў?

П р ы ш л я ц о ў.
На дурня...
Уся была надзея...
А дурань той паразумнеў.

*Г о н г.*

## МАЛЮНАК ДВАНАЦЦАТЫ

**Паміж падзеямі адзінаццатага і дванаццатага малюнку праходзяць тры месяцы. Панадворак трамвайнага парку. Пасярод сцэны трамвайны вагон. На ім надпіс-плякат „Кітайскаму комсамолу“. Дзе-небудзь павінны быць напісаны словы „Едзем у вёску на рэмонтныя работы“. Іншае паводле рэжысэравых меркаваньняў. Яшчэ да заслоны чуваць гукі гітары.**

Астапенка і комсамолец.

Астапенка (пяе, акомпаніруючы).

Песьняй гучнай, песьняй звонкай
Радасьць білася ў той час.
Засьпяваў віхор над Волгай.
Засьпявалі сэрцы ў нас.
Засьпявалі ў сэрцы хвалі,
Засьпяваў ліпнёвы мрок.
Лодкі ў скоках раздзьмувалі
Зграі ветразяных шчок.
Помніш, поле засьпявала,
Засьпявалі чараты.
Песьні гучныя пяяла
Нават цела...
нават ты...
Нас змаганьне адарвала,
Але мне і барацьбе—
я хачу, каб ты сказала
тое, што скажу табе.
Толькі з сэрцам вырываюць
Песьню гэтакую маю,
Гэту песьню засьпяваюць
У песьні заўтрашняга дню.

Комсамолец (зайздросна).

Бач, захацеў жаночай ласкі.
Да дзевак трэба свойскі пляи.
Ты ўсё-ткі хват, пяеш, як Ляскер
І музыканіш, як Тарзан.

Астапенка.

А гэта хто?

Комсамолец.

Поэт, канешне...
Тарзан... Тургенеў... Бэтговэн...

Астапенка (Кпліва).

А Гары Піль?

Комсамолец.

Ах, каб ты трэснуў!

Ды Гары Піль—імя з імён.
Ка-роль кі-но. Ня чуў пра Піля.
Табе культуры не стае.
Чаму тады цябе вучылі.
Скажу Марыльцы—
засьмяе.

Астапенка (грае).
Ўрач Пушкін. Просіць паабедаць
Галькіпэр Лермантаў.
(Кладзе гітару). Ты, шкет!
Набудзь сабе хоць кроплю ведаў!

Комсамолец.
Тады навошта профбілет?

Астапенка.
На ўзносы.

Комсамолец.
Што ты, у морду хочаш?
Падлюга!

(Выходзіць).

Астапенка.
Гэткі ў іх рэзон:
Чым горш вучыцца будзе ён,
Тым лепшы, значыцца, рабочы.

(Уваходзяць Лена і Ўласюк).

Лена.
Хто тут крычаў?

Астапенка.
Жаркоў... агіда...

Уласюк (бегаючы па сцэне).
Ня час, Сьцяпан. Тут барацьба.
Ну, дзе яны. Няўжо ня прыдуць?
Ганьба для нас! Ганьба! Ганьба!

Астапенка.
Ды дзе ганьба?

Уласюк.
Ды вельмі проста:
Старыя перагналі нас.

Астапенка.
Ну, так...

Уласюк.
Ну-у, так.

Астапенка.
А я так востра
Усіх іх лаяў у свой час.

(Уваходзіць Граеўскі).

Граеўскі.
Вітаньне, хлопцы. Гэтак лоўка
На вёсцы месяц праляціць,
А там і за варштаты зноўку...

(Аглядае ўсіх).

Ды што за сум на вас ляжыць.

Лена.
Старыя...

Граеўскі.
Вы засумавалі.
І ўпалі ў роспач вы таму.

Уласюк.
Ды ўсё-ж мы дужа падкачалі.

Граеўскі.
Хлусьня ўсё гэтае.

Уласюк.
Чаму?

Граеўскі.
Таму, што глупства, хлопец, кажаш.
Вы працавалі ўсе, як львы.
Ды справа ў ведах. Справа ў стажы.
Імкненьне-ж нарадзілі вы.

Лена.
А усё-ткі гэта нам дакорам...

Граеўскі.
Як? Крыўдна вам?

Астапенка.
Ды кінь ты, брат...

Граеўскі.
Саромцеся!

Уласюк (пачухваючы галаву).
І праўда-ж сорам.

Граеўскі.
Жыцьцё прад вамі. Часу шмат.
Старыя покуль ня прысталі—
Як прыналягуцьі.. Што чакаць?

Вы-б лепей плян абмеркавалі,
Як зноў наперадзе вам стаць.

(Уваходзяць Сарокін і Зьвягінцаў).

Сарокін (паказваючы на Зьвягінцава).
З загадчыкам я меў размову
Ён ухваліў мой плян.
Яны старых брыгаду пасьпяховай
Завуць, а мы... (Граеўскаму, які рагоча).
Ты што.

Граеўскі.
П'яны—
Нядзеля-ж сёньня...
Тодзік! Лена!
Вам крыўдна, га?

Лена (весела)
Маўчы ты!

Граеўскі.
Так.

(Убягае Панаў).

Панаў (Граеўскаму).
Гэй, сакратар!

(Спыняецца з разьбегу. Робіць сур'ёзны выгляд. Сарокіну).

Ды што-ж вы, зьмена?
Не адстаем ад вас мы? Факт?

Сарокін.
Вы малайцы!.. Мы вам пакажам.

Панаў (лагодна).
Што-ж. Перадужайце старых.

(Адводзіць Граеўскага ў бок. Палка).

Так нельга, любы!.. Я абражан...
Ты ўчора крыў мяне пры ўсіх.
Навошта так? Тут проста, скажам—
Ну выклікай у габінэт,
Ну, дай, як трэба, у габінэце,
Але-ж трымаючы ў сакрэце,
А вось пры ўсіх—дык нельга, не...

(Уваходзяць Озоль, Дзямідаў, Зелянкоў, Рэйдбрук, некалькі рабочых).

Граеўскі.
Усім шкодзіў працаю благою,
Пры ўсіх адказ павінен даць.

Панаў.
Ды...
Граеўскі.
Усе ў нас хочуць па-другое
Хлапцоў на вёску праваджаць
Пакліч сюды.
Панаў.
Бягу (выходзіць).
Граеўскі (у задуме).
О, Гладкіх!
Твая рука. Твае грахі.
Ну, што-ж там?
Новыя парадкі
Усё-ж прышчэпяцца...
Усе (хорам).
Ап-чхі!
Граеўскі.
Бач, напужалі!
Дзямідаў.
Вось-жа, дружа...
Комсамольцы (хорам).
У-ра сак-ра-та-ру, у-ра!
Граеўскі.
Гляджу на маладую дужасьць...
Лена.
А ўсё-ж Карчайна... няма!..

(Маўчанка).

Озоль.
Былыя згадкі рэзкім болем
Працялі сэрца, як нажом.
Дзямідаў.
Хлапцы. Вам ёсьць яшчэ што здолець
Вы перад новым рубяжом.
Ня нюньце. Уперад крок з надзеяй.
Але зірні назад—і там,
Там адбываліся падзеі
На радасьць і на смутак нам.
Геройскія рабіла ўчынкі
Брыгада часам той парой
Дык вось. Мы адказаць павінны
Ну, хто-ж?
Ну, хто-ж з вас тут... герой?

Астапенка (паказваючы на Лену).

Яна.

Яна імкненьне мела.

І абудзіла ада сна.

Брыгады сэрца—у ёй гарэла!

Яна герой. Яна! Яна!

Лена.

Я? Ах, дзівак. Ды што ты, братка?

(Паказваючы на Сарокіна).

Вось хто стварыў наш дужы фронт!

Вось хто маўклівы стрыжань працы.

Вось хто герой! Сарокін! Ён.

Сарокін.

Я? Ня дурэй.

(Паказваючы на Ўласюка).

Герой наш Тодзік.

На працу першы хто мастак?

Хто нас davёў да перамогі?

Вось ён герой, вось гэта—так!

Уласюк (сьмешна сябе аглядаючы).

Я? не падобны,

(Паказваючы на Озоля).

Вось герой наш.

Яму наш боль—як родны боль.

Усіх вядзе і з кожным роўны

Па-праўдзе, наш герой—Озоль.

Озоль.

Я? Не! Граеўскі быў героем!

Усе (паказваючы адзін на аднаго).

Ён! Ён! Ён! Ён! Ён! Ён! Ён!

(На экране рагоча Ільлічоў твар).

Граеўскі.

Герой—стары!

Дзямідаў.

Не, не,—ня тое!

Не!

Пераконаньне маё,

Што я ня варты гэтай назвы.

Зірнеце зноў. Ну хто-ж тут з вас?

Усе зьбянтэжана глядзяць адзін на аднаго і пачынаюць ціха сьмяяцца. Пакрысе сьмех пераходзіць у голасны рогат.

Герой наш—час.
Усе мы разам
Ȉ разам з гэтым—
кожны з нас.

(За сцэнаю шум).

Што там за шум?

Уваходзяць трамвайшчыкі, рабочыя, вагонаважатыя, кондуктары, контролёры. Уперадзе Панаў нясе модэль трамваю.

Панаў (адкашляўшыся).
Мы вельмі рады
Краіне працаваць сваёй.
Мы пераможцы над брыгадай.
Ȉ пераможаныя ёй.
Сарокін.
Усе пераможцы! Прэч дакоры,
Ты праўду кажаш—любата!
Даўно-б нам працаваць ня сорам
Сягоньня лепей, чым учора
Ȉ заўтра лепш, чым сёньня—так!
Дарыць нікому тут ня варта,
Пакуль ня зьдзейсьнены парад.
„Ад паказальных брыгад
Да паказальнага парка“.
Граеўскі (падштурхваючы Сарокіна).
Бяры, бяры.
Сарокін (бяручы модэль).
Ну, дзякуй.

(Усе пляскаюць).

Панаў.
Браткі!
Пачатак ёсьць, мы шмат прайшлі,
Але ня лёгка яшчэ дабрацца.
Я мысьлю, будзе зноў...
канфлікт.
Нас падцягнулі. Крыць няма чым
Ȉ трэба працаваць на яць.
Але лягчэй куды нам праца,
А вось чаму? Ніяк ня ўзяць
Зрабіліся мо‘ людзі бліжай,
Быў ... той даўся ў густ.
Ён сьпераду нам ногі ліжа,

За сьпінай—цапне за нагу.
Тут вымагаюць, але вучаць...
Хай хто рыкае—да пары.
Стары гультай нас дужа мучыць
І дурасьць. Зноў-жа быт стары.
Вось Созін, у партыю падаў ён,
Праз месяц, бачыш, круціць нос.

Галасы (Созіну).
Ты што?

Созін.
Ды лепей я падалей...
Там дысцыпліна... Членскі ўзнос.

Панаў.
Ты йшоў па пернікі, дурота?
Эх, беспартыйны дурында!

(Усе сьмяюцца).

Я беспартыйны сам. Ну, што там?

Сарокін.
Давай руку мне!

Созін.
Ну, і час.

Панаў.
Рабіць, рабіць без прысяганьняў
Ну, едзьце, хлопцы. Час якраз.
Сялянам наша прывітаньне.
Ну, пацалуемся.

(Сарокін і Панаў цалуюцца).

(Усе).

Уррра!

(убягае Кудрын з газэтаю).

Кудрын.
Ды што-ж тут гэта? Што тут гэта?
Ізноў даўнейшая брыда?
Вы прачытайце вось газэту
Бяда, хлапцы, зноў бяда!

Дзямідаў (чытае).
„Энск. Памоцнікам загадчыка трамвайнага парку прызначаны пераведзены сюды тав. Прышляцоў“.

Крыкі.

— А!

— Сорам!

— Прычакалі!

Дзямідаў.

Ціха!

Няма чаго баяцца нам.

Лена.

Таварышы, мы ліст напішам,

Пра ўсё паведаем людзям.

Панаў (Дзямідаву).

Ты напішы.

Дзямідаў.

Пісаць я згодзен,

Але пасьля ліст гэты мой

Зацьвердзім на агульным сходзе,

Каб адбрахацца ён ня мог.

Кудрын.

Вось гэта так.

Граеўскі.

Час, хлопцы, хопіць!

Вы пешкам? От яшчэ скандал!

Бярэм вагон. Сядаем поплеч!

Мы вас праводзім на вагзал.

Брыгаднікі баруць мяхі са струмантамі. Сядаюць у вагон. Усе ўціскаюцца туды, т. Лена, трохі спазьніўшыся, ня маючы мажлівасьці ўвайсьці, узьбіраецца на дах. Дзямідаў адыходзіць у бок і застаецца на авансцэне да канца дзеі.

Граеўскі (каля контралёра).

Што? Усе паселі?

Галасы.

Руш узмахам!

Лена.

Наперад, родны наш вагон!

Граеўскі.

Наперад, міжнародным шляхам

Напорам трактарных колён.

(Дае званок).

Адначасна з рухам вагона запаляюцца два вокны конструкцыі тэмпу. Вагон рухаецца. Горад бяжыць абапал яго.

Усе (хорам пяюць).

Жалезным ладзім

века

Зямлю мы ладзім

І чалавека.

І не дарма мы
Усім бацькам даўнім
Сваім ударам
Прыносім сьмерць.

У адным са сцэнічных вагонаў паказваецца Прышляцоў, ціха рагочучы ўвесь час.
З другога сцэнічнага акна чуваць голас Гладкіх.

Голас Гладкіх.
Значыцца, таварышы,
Я канчаю.
Так ці іначай, кажучы карацей,
Бралі ўдзел у дэманстрацыі Першага Мая.
Наладзілі концэрт у Кастрычнікавы дзень.
Самакрытыка пакуль ня мела месца,
Абежнікі атрыманы ня ў часе, але-ж
Адсюль вынік:
У ячэйцы Пенькатрэсту
У агульным...
Цэлым.

(Вокны гаснуць).

Лена.
Працоўны сьвет на дні і годы
Узьняў змаганьня горды сьцяг.
Было змаганьне ўчора.
Сё-о-оньня...
Ды будзе заўтра-а-а!

Дзямідаў.
Гэта—так!

*Гонг.*

Пераклаў з расійскае мовы

**Юлі Таўбін.**

---

# ЧУЖЫ [1])

(*Роман*)

**Дзьмітры Сьвярчкоў**

## Разьдзел шосты

### I

Вячаслаў Кастусёвіч фон-Плевэ сабраў паперы ў портфэль з залатою манаграмаю. Асабліва беражліва ён паклаў даклад гасудару, напісаны на тоўстай паперы бяз ніводнае лішняе рысачкі, ня кажучы ўжо што ніяк не запэцкаўшы. Роўныя па лінейцы яго палі здаваліся сьнегава-белаю рамкаю для чытэльных радкоў літар, што выцягнуліся ў лініі фронту, як гвардыя на парадзе, на чале з афіцэрамі—з вялікімі літарамі, што ішлі паперадзе кожнага сказу. Левы рог наверсе прымае на сябе высачайшую рэзолюцыю, якую зараз-жа пакрыюць лякам, каб захаваць на вечныя часы непачэпаным уласнаручнае начартаньне рукі гасудара. Унізе дробным бісерам міністр двара Фрэдэрыкс пасьведчыць сапраўднасьць рэзолюцыі імпэратара, а пасьля яна ў копіях ды ў сакрэтных пакетах будзе разаслана адпаведным міністрам пад асабістую расьпіску, на выкананьне. У пачатку будучага году выйдуць з друку нумараваныя экзэмпляры сакрэтнае кнігі, на балонах якое дробным шрыфтам будуць надрукаваны даклады паасобных міністраў цару, а пасьля будзе надрукавана: „На аўтэнтыку Яго Імпэратарская Вялікасьць усялітасьцівейша начартаць саізволілі“:—і буйнымі тлустымі літарамі будзе напісана рэзолюцыя самаўладцы ўсерасійскага, пасьля якое зноў дробненькім мізэрным падлыжным шрыфтам будзе паведамлена: „Пра такое *Высачайшае* распараджэньне *Яго Імпэратарскае Вялікасьці* паведамлены пп. Міністры:“—і будуць пералічаны паасобныя саноўнікі, якім былі дадзены копіі рэзолюцыі.

Колькі разоў у гэтай кнізе будзе паўтарацца прозьвішча фон-Плевэ? Многае мноства!

[1]) Працяг. Гл. „Полымя“ № 4, 5-6, 8, 9-10 за 1930 г.

Плевэ ўсьміхнуўся. Ягонае імя цяпер вядома ўсяму сьвету. Цьвёрдаю рукою ён узяўся за кіраваньне ўнутранымі справамі ўсяе Расіі пасьля сьмерці паўдурнога старыка Сіпягіна. Цяжка. Рэволюцыянэры нахабнічаюць, ня гледзячы на рэпрэсіі. Астрогі перапоўнены. Штаты жандармэрыі і паліцыі павялічаны ў два разы. Палова губэрань абвешчана на становішчы надзвычайнае ўзмоцненае ахраны. Тут даводзіцца таксама змагацца: губарнатары прысылаюць даклады з хадайніцтвам пра далейшае распаўсюджаньне палажэньня аб узмоцненай ахране і, калі-б іх паслухаць, дык давялося-б ўжыць нават у башкірскіх ды кіргіскіх стэпах, дзе зусім мала населеных пунктаў. Ахранныя аддзяленьні ды жандарскія ўправы падтрымліваюць губарнатараў, бо палажэньне пра ўзмоцненую ахрану дае ім падвойны аклад пэнсіі. Праўда, у распараджэньне Плевэ дадзены сакрэтны фонд такога памеру, пра які і ня марылі яго папярэднікі, але галоўны ўжытак яго—гэта організацыя ўнутранага асьвятленьня рэволюцыйных партый. Тут справа ідзе добра. З боку асабовае небясьпекі ён гарантаваны. На яго рыхтавалі ўжо некалькі нападаў, але ўсе яны сваячасова вынайдзены і толькі павялічылі ягоны прэстыж у вачох гасудара. Тут працуе Азэф,—незаменны, без цаны чалавек. Яго даклады вычарпальныя. Калі-б соцыялістыя-рэволюцыянэры ведалі, што іхная баявая організацыя знаходзіцца фактычна ў распараджэньні яго, Плевэ! Гэта другі канец палкі, якім ён кіруе.

Цар піша свае рэзолюцыі пад ягоную дыктоўку. У цяжкім выпадку даводзіцца запалохаць яго падрыхтаваным нападам, і ён становіцца тады паслухмянаю аўцою.

Пройдзены доўгі і цяжкі шлях да ўлады.

Гродзенская губэрня. Ён—хлопчык, сірата, сын нямецкага колёністага. Суседні абшарнік—польскі магнат—узяў яго да сябе, выхаваў разам з сваімі дзецьмі, даў яму адукацыю. Выпадкова падслуханая гаворка з прыежджымі палякамі. Ноччу, пры сьвятле недагарка напісаны ліст у Пецярбург. Праз некалькі дзён—вобыск у абшарніка. У сутарэньні—склад зброі, проклямацыі. „Ешчэ Польшча не згінэла!"... Арышт, конфіскацыя маёнтку. Узнагарода Плевэ—лепшае з памесьцяў. Ён ня любіў паказвацца там: маёнткам кіруе даверанае асоба. Просьба ўзяць на службу ў дэпартамэнт паліцыі. Узялі. Уважлівая, шчырая работа. Топчучы нагамі ніжэйшых і хапаючыся за крысы вышэйшых, паволі лез наверх. Пасада дырэктара дэпартамэнту. На сваіх плячох вынёс барацьбу з народавольцамі. Міністрам граф Талстой. Ужо тады не перашкаджаў організацыі нападу на яго з боку рэволюцыянэраў. Не ўдалося. Доўгая дарога да міністэрскага портфэлю. Шалёная радасьць, як нечакана забілі Сіпягіна. Доўгачаканае прызначэньне. Годнасьць статс-сакратара. Ліхаманкавая пагоня за вярбоўкай на службу паасобных рэволюцыянэраў. Дурні! Ішлі за 50—60 рублёў! Ён даў-бы сотні. Дый сам Азэф атрымоўвае капейкі.

За ўсю доўгую службу ні хвіліны адпачынку. Для сям'і не асталося

часу. Жаніўся на асетравай мордзе, як сам сабе клікаў маладую, але набыў гэтым моцныя сувязі. Сын хутка стане на ногі,—пайшоў па юрыдычнай галіне. Ці будзе ён працягваць справу бацькі? Чым цікавіцца?

Плевэ зірнуў на гадзіньнік. Палова на дзесятую. Час ехаць.

Пазваніў. Уляцеў сьлізготнаю хадою чыноўнік асобных даручэньняў. Як заўсёды, міністраў погляд суняўся на ягоным бездакорным прадзеле, спрабуючы знайсьці хоць адзін няпрыгладжаны волас. Ніводнага.

— Я еду да гасудара.

Чыноўнік пераламаўся ў паклоне.

Накінуўшы шынэль, Плевэ спусьціўся ўніз. Каля пад'езду чакала карэта, запрэжаная ў пару рысакоў. Наперадзе паімчаліся два вэлёсыпэдыстыя.

## 2

Беглі назад дамы набережнае Фонтанкі, праімчаліся чацьвёра чыгунных уздыбленых коняй Анічкава мосту, направа і налева асталася разрэзаная істужка Неўскага проспэкту, мігалі леныя пешакі да гандляры папіросамі, перакінуўшы цераз плечы скрыні. Нудныя паліцэйскія выцягнуліся ў струнку, калі паказалася знаёмая карэта з праважатымі вэлёсыпэдыстымі, і аддавалі чэсьць нябачнаму міністру. Плевэ гультайна адкінуўся на сядзеньне і прыціснуў локцем портфэль з залатою манаграмаю. Карэта мякка гайкалася на рэсорах. Кані шпарка імчалі яе, ня гледзячы на цяжар броніяванага корпусу.

„Разьдзяляй і ўладнічай“—успомнілася залатое правіла рымскіх імпэратараў, у няроўным грукаце капытоў хацелася чытаць гэты сказ. „Разьдзяляй і ўладнічай“. З першага дню свае кар'еры Плевэ кіраваўся гэтым правілам. Тонка і ўмела ён узьнімаў недавольства адзін адным у сваіх службоўцаў, карыстаўся прыдворнымі паклёпамі, перахопваў прыватную перапіску, мімаходзь у гаворцы кідаў выпадковыя сказы, якія прымушалі субяседніка настарожвацца, але Плевэ гаварыў ужо пра другое, і не зразумець было, ці ведае ён таямніцу, што так пільна ахоўваецца. Гэтым шляхам ён прымушаў сваіх ворагаў падслужвацца, старацца зрабіць якую-колечы паслугу, каб купіць маўчаньне. Радавітая арыстократыя глядзіць на яго пагрэбліва. Дурні! Яны ў яго руках. Гасудар вельмі любіць яго апавяданьні пра сямейныя сакрэты некаторых асоб і часта пасьля афіцыйнага дакладу слухае з цікаўствам скандальныя гісторыі пра сваіх прыбліжоных. Забіваюць ня гневам, а сьмехам і выставіць перад яго вялікасьцю ў сьмешным выглядзе любога кандыдата ў міністры—значыцца выкрэсьліць яго са сьпіскаў супрацаўнікаў.

„Разьдзяляй і ўладнічай!“—Гэтае правіла Плевэ шырока ўжывае ў справе кіраваньня Расіяй. Якое шчасьце, што Расію насяляе некалькі дзесяткаў нацыянальнасьцяй! Рэпэтыцыя яўрэйскага пагрому ў Кішынёве прайшла найлепш. На Каўказе крывавыя сутычкі між армянамі і

татарамі лічацца ўжо нормальным зьявішчам. Цяжэй за ўсё з рабочымі. Ён спадзяваўся на Зубатава, але той ганебна праваліўся. Цяпер ёсьць Гапон. Гэты вядзе справу танчэй і разумней. Поруч з ім працуе Ушакоў, сапраўдны пролетар з экспэдыцыі загатаўленьня дзяржаўных папер. Абодвы сеюць недавер'е да інтэлігенцыі і імкнуцца абмежаваць рабочых ад уплыву рэволюцыйных партый.

Карэта вылецела на Ізмайлаўскі проспэкт. Перад ёю ўжо вырастаў будынак Варшаўскага вакзалу. Раптам з тротуару нехта кінуўся ёй напярэсьцігі... На яго паімчаўся вэлёсыпэдысты але прамахнуўся і ўпаў разам з вэлёсыпэдам. Чалавек бег да карэты, а коні цягнуліся да нельга марудна... Плевэ скорчыўся ў маленькі камок, уціснуўся ў рог карэты, хацелася ўціснуцца ў падушкі сядзеньня, зрабіцца нябачным...

Праз адчыненае шкло дзьверцаў зірнуў нечы ва ўрачыстасьці твар са сьціснутымі і няшчадными вачыма. Узмах рукі—і нешта цёмнае і цяжкое ўпала да ног міністра. Брызнуў сьлепкі слуп агню і рвануўся грамавы ўдар, якога Плевэ ўжо не пачуў...

Праз некалькі гадзін ахрыплыя газэтнікі радасна крычалі на вуліцах: „Зладзейскае забойства міністра фон-Плевэ! Экстранны выпуск!".

3

Міністрам унутраных спраў прызначаны князь Сьвятаполк-Мірскі, які абвясьціў пра сваё давер'е народу.

4

Ва унівэрсытэце раскол. Утварылася моцная організацыя студэнтаў-бальшавікоў, якая адмежавалася ад усіх іншых груповак і рэзка заявіла, што ўвесь студэнцкі рух павінен быць падпарадкаваны інтэрэсам рабочае клясы. Унівэрсытэцкія патрыёты ўзбураны адмаўленьнем якое-колечы самастойнае ролі студэнцтва. Меншавікі ўтварылі сваю групу. Соцыялістыя-рэволюцыянэры, ганаручыся забойствам Плевэ, таксама выдаюць свае бюлетэні і наладжваюць грашовыя звароты на карысьць свае баявое організацыі. Каса ўзаемадапамогі і студэнцкія зямляцтвы адыйшлі ў небыт.

Сабурава закідалі пытаньнямі, да якое групоўкі ён далучаецца. Ён сказаў, што правы бальшавікі, але што ня трэба было заяўляць пра ролю студэнцкага руху так рэзка і выклікаць гэтым варожыя настроі ў студэнцкай масе.

Высланым студэнтам, за ўдзел у непарадках, прапанавалі амністыю з умоваю, каб тыя падалі просьбу пра залічэньне ў дзейную армію супроць японцаў. Канешне, бадай што ўсе—выключаючы адзінак—адмовіліся.

5

— Аляксей Міхайлавіч дома?

— Калі ласка.

На першы час Сабураў не спазнаў Ржэўскага,—у вайсковай форме. Ён здаваўся больш высокім і худым, як раней.

— Вы падаліся ў полк?

— Нічога ня зробіш. Гэтае восені мне прызывацца, ну і давялося нацягнуць на сябе форму. Я залічаны вольнаапрадзяляючымся ў кавалергарды. Прабуду тыдняў тры-чатыры, і мяне адлічаць у запас. Але нуда страшэнная: кожнае раніцы даводзіцца цягнуцца на заняткі, купіў верхавога каня, а я не вялікі аматар верхавое язды.

— Значыцца, на фронт не пашлюць?

— Вядома, не. Каб я прызываўся, дык пэўна, што атрымаў-бы белы білет, бо фізычна не здавальняю ўстаноўленых нормаў, але мне параілі пайсьці вольнаапрадзяляючымся. У кавалергардзкім палку гэта складаная гісторыя: кожнага вольнаапрадзяляючагася павінны балётыраваць усе афіцэры палка, але тут мне, вядома, нічога не пагражала. Вылецілі некалькі лішніх тысяч, і ўсё. А ў вас як справы?

— Перайшоў на апошні курс і хачу абавязкова скончыць унівэрсытэт.

— Глядзеце, каб не сарвацца. Рух вельмі расьце. Асабліва непакойны ў сфэрах настроямі рабочых. Дый у дзейнай арміі ня зусім добра. Вы чулі пра масавыя арышты салдат? Прычына awграмаднага ўбытку ў афіцэрскім складзе таксама выклікае сур'ёзную трывогу. Тут справа не ў японцах, а шмат горш.

— У чым-жа?—нецярпліва запытаўся Сабураў.

— У сваіх. Салдаты прыстрэльваюць сваіх афіцэраў у часе боек. У патыліцу.

Ржэўскі гаварыў пудлівым тонам, як пра нешта, што да сьмерці надакучыла.

— Хочаце чаю? Я загадаю падаць сюды ў габінэт.

— Не, дзякую.

— То хоць курэце,—прысунуў ён Сабураву срэбную скрынку з папіросамі.

— А як агульнае становішча?

— Даволі паганае. Японцы нас б'юць як хочуць—пра гэта вы ведаеце нават з жорстка працэнзураваных тэлеграм. Ёсьць намер паслаць супроць іх частку нашага Бальтыцкага флёту, падмацаваную новапабудаванымі браняносцамі, пра якія генэрал-адмірал вялікі князь Аляксей Аляксандравіч клапоціцца, між іншым, куды менш, як пра сваю артыстку Балетта. Пагоня за фінансамі. Японцаў патайна падтрымліваюць супроць нас дружацкія нам дзяржавы... Усё гэта так нудна і подла, што ня хочацца і гаварыць.

— Чаму вы так мэлянхолічы настроены?

— Не зьвяртайце ўвагі. Гэта, вынік чарговага захапленьня астрономіяй. Прыгожая і адзіная дакладная навука, аснаваная на матэматычных формулах. Мне падабаецца іншы раз зірнуць на нашу мізэрную зямлю з бясконцага прастору сьвету, дзе адзінкаю меры служаць мільярды вёрст і мільёны год. Усё чалавецтва ідзе нямінуча і няўхільна да гібелі. Яна настане з натуральным канцом зямлі праз многае мноства пакаленьняў, але ці не ўсяроўна, калі менавіта? І такім нікчэмным здаецца самаахвяраваньне паасобных герояў, такім сьмешным імкненьне зрабіць геніальныя творы мастацтва. Хіба не наіўнымі здаюцца гаворкі пра няўміручую славу, калі, урэшце-рэшт, усё пературыцца ў пыл на паверхні мёртвае земнае кулі і нельга будзе знайсьці нават прыклёпу сьлядоў існаваньня чалавецтва? І ўся наша чыннасьць, што здаецца карыснаю, нічым не адрозьніваецца ад работы па пераносу кучы пяску з аднаго месца на другое і назад, як гэта прымушаюць рабіць зьняволеных у Шлісэльбурскай крэпасьці. Сумна і брыдотна. Паедзем на выспы забавак? У вас вечар вольны?—нечакана запытаўся Ржэўскі.

— Ня зусім,—няўпэўнена адказаў Сабураў.—А, урэшце, паедзем. Але з вашымі думкамі да самагубства недалёка.

— Упэўняю вас, што тут няма ніякае небясьпекі. Нікчэмнейшую долю сусьветнае сэкунды, якая дадзена на маё жыцьцё і якое нельга нават зьмераць ніякімі мікромэтрычнымі струмантамі, я маю намер скарыстаць цалкам і поўнасьцю для сябе. Тут—я гаспадар, і мяне данельга дражніць усялякая ўмешка: вось гэтая вайсковая форма, гаворкі пра тое, што мне трэба служыць, займаць якую-небудзь пасаду. На што? Я хачу рабіць толькі тое, што мне падабаецца—балазе мне ня трэба клапаціцца пра сродкі на існаваньне. Ну, давайце кінем усе гэтыя гаворкі і паедзем страсянуцца. Ха-ха-ха! Чалавецтва думае, што падпарадкуе сабе сілы прыроды, калі ўсё яно прыгаворана гэтаю самаю прыродаю на верную і нямінучую сьмерць. Ці праўда, сьмешна?

— Чым-жа пры вашых поглядах растлумачыць дапамогу, якую вы ўсё ж робіце рэволюцыйнаму руху?—запытаўся Сабураў.

— Вельмі проста. Па-першае, цікава рызыка. Праўда, для мяне яна—нічога. А па-другое, прыемна пакідаць у дурнях тых, з кім вы змагаецеся. Вас—мізэрная кучка. На вас—увесь магутны апарат дзяржаўнае ўлады, мне хочацца дапамагчы гэтай маленькай жменьцы сьмельчакоў супроць аграмаднае сілы, што іх прасьледуе. Вось і ўсё. Аднак і тут я павярхоўны: варта было-б аддаць усю сваю маемасьць і станавішча, як гэта зрабіў, напрыклад, Лізагуб, князь Крапоткін ды іншыя. Але я не хачу пазбаўляць сябе выгод у жыцьці. Ведаеце, іншы раз мяне цягне прыняць удзел у якой-небудзь вялікай справе—напрыклад, Плевэ. Але я на гэта ня здолен, а, галоўнае, ня ўпэўнены ў карыснасьці такое чыннасьці. Усіх нягоднікаў усяроўна ня зьнішчыш.

— Дарэчы,—перабіў яго Сабураў,—я даведаўся, што рэсторан Макаева, дзе мы былі, служыць месцам сустрэчы ахраньнікаў, якія часта падслухваюць праз сьцены, што робіцца ў суседніх габінэтах. Майце на ўвазе.

— Добра. Але гэта мяне мала цікавіць,—раўнадушна адказаў Ржэўскі.

6

Шумлівая гаворка, звон келіхаў і стук талерак змоўк, калі падняўся сівы пісьменьнік Аненскі і пастукаў нажом па графіне.

— Панове!—зьвярнуўся Аненкаў да прысутных.—Мы сабраліся, каб пагаманіць пра становішча нашае краіны і даць ацэнку моманту, які перажываем. Мы складаем з сябе грамадзкую думку Расіі, і наш голас ня можа ня мець значнасьці. Нашы сябры зьлева ўпікаюць нас і кажуць што прамовамі можна разбураць толькі домікі з карт, а ня цьвярдыні паліцэйскага ўкладу, з якім мы ніколі ня мірыліся і ня мірымся.

З далёкага канца стала пачулася „Браво"! і сарвалася некалькі плясак. Аненскі нецярпліва спыніў іх, падняўшы руку.

— Панове!—працягваў ён.—Легенда кажа, што ад гукаў труб разбурыліся сьцены Ярыхона. Мне здаецца, што гэта трэба разумець алегорычна і што сіла грамадзкае думкі, накіраваная на адну мэту, можа, зьявіцца тараном, які робіць прабоіну ў моцных сьценах абсолютызму. Прышоў час адкрыта і цьвёрда заявіць ураду, што мы далей маўчаць ня можам. Новы міністар унутраных спраў агаласіў давер'е да расійскага народу. Мы адгукваемся на яго заклік і кажам яму, што краіна зьнемагае ў клешчах надзвычайных і ўзмоцненых паліцэйскіх захадаў аховы што слова задушана, што расійскія грамадзяне жадаюць свабоды зьбірацца, каб абмяркоўваць пытаньні, зьвязаныя з няшчаснаю вайною і з нашаю смутнаю рэчаіснасьцю, што мы ня можам больш трываць становішча, пры якім любы з нас, кладучыся спаць, ня ведае, ці ён прачнецца раніцаю нормальна, ці будзе груба разбуджаны ноччу званком жандараў ды адвезены ў астрог хоць і ня ўчыніў ніякага праступку,— калі вядома, ня лічыць праступкам любоў да радзімы,—што мы ня хочам далей заставацца безгалосымі і бяспраўнымі рабамі, а патрабуем хоць-бы мінімальных правоў, якія прызнаны ўжо даўно за ўсімі грамадзянамі Заходняе Эўропы. Вось тое асноўнае, што мне хацелася сказаць, адчыняючы наш банкет.

З громам аплёдысмэнтаў Аненскі апусьціўся на крэсла, выцер хусьцінкаю пот на ілбе і дрыжліваю ад хваляваньня рукою наліў сабе шклянку вады.

Афіцыянты, што замерлі нярушліва ў часе яго прамовы, зашавяліліся, аднавіўся звон келіхаў і шматгалосы рокат гаворкі.

Пасьля Аненскага гаварыў Мілюкоў, пасьля профэсар Лутугін, які прапанаваў скласьці рэзолюцыю і падпісаць яе поўнымі імёнамі ўсіх

прысутных. Гэтая прапанова была сустрэта з захапленьнем, хоць шмат хто паглядзеў на выходныя дзьверы.

Наступнае слова Аненскі даў невядомаму сходу чалавеку, які выступіў за прозьвішчам Міхееў.

— Усё, што тут гаварылася,—пачаў выразна моцным голасам Міхееў,—ня можа выклікаць спрэчак. Але я лічу, што ў нашай рэзолюцыі нельга абмяжоўвацца агульнымі сказамі і паўнамёкамі на грамадзянскія свабоды, а трэба паставіць асноўныя пытаньні ва ўвесь іхны рост.

Бура аплёдысмэнтаў з далёкага канца доўгага стала перарвала прамоўцу. Увага сходу напружылася.

— Мяне дзівіць, што ўсе, якія выступалі да мяне з прамовамі, ні словам не заікнуліся пра немагчымае становішча рабочае клясы...

Зноў далёкі канец стала грымнуў залпам плясак. Да Аненскага нахіліўся, нахмурыўшыся, Мілюкоў і нешта абурліва сказаў яму на вуха.

— Я ня бачу тут прадстаўнікоў нашага пролетарыяту, які на сваёй сьпіне выносіць усю цяжкасьць барацьбы за тыя свабоды, пра якія тут так хораша гаворыцца. Дазвольце-ж сказаць, што вы сабраліся сюды і маеце магчымасьць гаварыць прамову толькі таму, што ўрад спадзяецца знайсьці ў лібэралаў падтрыманьне ў сваім змаганьні з рэволюцыйнаю рабочаю клясаю...

— Як вы асьмельваецеся абражаць нас?—ускочыў профэсар Наўгародцаў. Крыкі абурэньня на адрас прамоўцы пачуліся з усіх бакоў. Наўпярэкі ім далёкі канец стала да змогі запляскаў у ладкі.

Аненскі заядла званіў шклянкаю па графіне, стукаў нажом па талерцы, маленна махаў рукою, пакуль напарадкаваў адносную цішыню.

— Мы ня пытаемся ў вас, хто вы,—пачаў ён зрыўным ад хваляваньня голасам,—але мы маем права запытацца, на якой аснове вы дазваляеце кідаць на наш адрас нячуваныя абвінавачваньні. Мы імкнемся ўсімі сіламі і сродкамі падтрымаць рабочых у іх змаганьні за адзіную ўсім нам мэту, і ніколі ніхто з нас ня быў і ня будзе памоцнікам у справе рэпрэсій супроць рабочых.

Цэнтр стала прэрваў яго выяўленьнем шумлівага адобраньня.

— Я прапаную вам,—запрапанаваў Аненскі, звяртаючыся да Міхеева,— або ўзяць вашы словы назад, або пакінуць наш сход.

Усе павярнуліся да Міхеева.

— Я растлумачу тое, што сказаў. Мая ацэнка тычыцца лібэральна буржуазных партый, якія хутка аформяцца, бо палітычная абстаноўка выклікае іх на арэну. Вы ўпаміналі тут пра давер'е, агалошанае міністрам Сьвятаполк-Мірскім. Няўжо вам ня ясна, што об'ектам давер'я міністра ні ў якім разе не зьяўляецца рабочае кляса? Рабочым-жа нельга зьбірацца нават за шклянкаю віна, як гэта робіце вы пры маўклівай патачцы паліцыі. Чаму вас не разганяюць?

— Таму, што забіты Плевэ!—крыкнуў нехта,

— Няпраўда!—зьвярнуўся ў бок выкрыку Міхееў.—Сіпягіна таксама забілі, аднак, пасьля гэтага ўрад зашрубаваў шрубы яшчэ тужэй. Няўжо вы думаеце, што вас баяцца? Не... Баяцца ня вас, а тых, хто не памірыцца з падачкаю абрэзаных ды абскубаных з усіх бакоў грамадзянскіх свабодаў і будзе змагацца да канца да поўнае перамогі ня толькі над самаўладзтвам, але і над капіталізмам. Вы, канешне, хочаце скарыстаць рэволюцыйную энэргію пролетарыяту на барацьбу з самаўладзтвам, але ня больш. І я ўпэўнены, што ваша маўчаньне пра рабочую клясу ня простая забыўчывасьць, а знарочнае звужэньне размаху барацьбы да пажаданых вам буржуазна-лібэральных межаў, якія не дапушчаюць ніякіх зьмен у становішчы пролетарыяту пасьля перамогі над царызмам.

Мы, соцыял-дэмократы, ведаем, што вы будзеце змагацца з рабочаю клясаю ў саюзе, можа нават з тым самым Сьвятаполк-Мірскім...

Яму ня далі дакончыць. Ён пайшоў да выходных дзьвярэй, прычым некалькі ўдзельнікаў банкету засьпяшылі выйсьці разам з ім. У тлуме да іх далучыліся і тыя, хто ня меў ніякага жаданьня падпісваць рэзолюцыю сваім прозьвішчам.

— Панове! Інцыдэнт скончаны,—сказаў профэсар Мілюкоў.

— У наступны раз мы ўжывем захады, каб уваходныя білеты на банкет не раздаваліся асобам, якія ня хочуць улічваць дзяржаўнага значэньня нашае чыннасьці і зьяўляюцца сюды толькі дзеля таго, каб паспрабаваць перашкодзіць нашай рабоце.

## 7

— Калі ласка, сядайце,—гэстам паказаў старык Сіцкі Сабурову на крэсла каля пісьмовага стала.—Я палічыў неабходным пагаманіць з вамі вось пра што. Ваша наведваньне мае сям'і мне робяць гонар, але— я буду гаварыць адкрыта—вы выяўляеце вельмі яўную ўвагу маёй дочцы. Я не сумняваюся, што ў вас у адносінах да яе сур'ёзныя намеры і наважыўся папярэдзіць тую гаворку са мною, якую вы, мабыць, у бліжэйшы час меліся мець.

Ён замаўчаў, узяў са скрынкі цыгару, уважліва абрэзаў яе канец гільётынкаю і закурыў.

— Я вам вельмі ўдзячны...—пачаў быў Сабураў, але Сіцкі перарваў яго...

— Прабачце, калі я перш выкажу вам свае меркаваньні. Мая дачка— адзіная насьледніца мае маемасьці і, на жаль, імя, бо яна апошняя ў родзе. Я маю намер прасіць гасудара пра дазвол далучыць да прозьвішча яе будучага мужа мой тытул і маё прозьвішча, каб не патух наш старадрэўны род. Пры гэтых умовах вы разумееце, што я стаўлю перад маім будучым зяцем надта строгія патрабаваньні. Яны не ляжаць у галіне матэрыяльнай: я маю ўдосталь, каб дачка мая здолела забясьпечыць належны стан жыцьця ня толькі сабе, але і свайму мужу. На няшчасьце,

нашы старыя дваранскія прозьвішчы ў аграмаднай большасьці разбураны і ўступілі сваё месца розным выскачкам ды прайдзісьветам. Мае патрабаваньні тычацца пахаджэньня тае асобы, якая зробіцца носьбітам майго тытулу і прадоўжнікам нашага роду. У гэтым сэнсе я ня маю ніякіх асноў аднесьціся адмоўна да вас. Род Сабуравых—адзін з старадрэўнейшых у Расіі. Але другая, такая-ж высокая і рашальная ўмова--гэта сыстэма думак. Сіцкія верна і чэсна служылі прастолу і гасударам на працягу стагодзьдзяў. Я хачу, каб будучы муж мае дачкі працягваў нашу традыцыю ў гэтых адносінах. Ён павінен зьяўляцца—асабліва ў наш смутны час—цьвёрдаю апораю спрадвечных пачаткаў расійскае дзяржаўнасьці. Я дазволіў сабе сабраць пра вас даволі поўныя даведкі і прышоў да заключэньня, што гэтае ўмовы вы ні ў якай меры не здавальняеце. Вы—прадстаўнік нашага старога дваранства--заражаны вольнадумнымі мысьлямі, вы ня толькі знаходзіце апраўданьне абурлівым ідэям, якія пранікли ў асяродзьдзе нашага простага народу, што зьбіваюцца з панталыку living рознымі агітатарамі ды бунтарамі, але і самі ў значнай ступені спачуваеце ды прапаведваеце магчымасьць абмежаваньня ўлады нашага монарха і дапушчэньне да кіраваньня Расіяй разначынцаў і ўсялякага зброду. Мы бачым на прыкладзе гнілое Францыі, чым гэта кончыцца. Аднак, я пачаў гэтую гаворку не на тое, каб паспрабаваць вас ў чым там ні было пераканаць. Я прашу ў вас дазволу прапанаваць вам толькі адно пытаньне: ці правільныя ў гэтай частцы атрыманыя мною пра вас весткі ці яны памылковыя. Я меў-бы вялікае шчасьце пачуць ад вас сьцьвярджэньне іх поўнае няправільнасьці.

Сіцкі адлажыў цыгару на край попельніцы і наўпор паглядаў на Сабурава.

— Вашы весткі зусім правільныя,—устаў Сабураў,—і мне давядзецца зрабіць з вашых слоў адпаведныя вывады ў датычнасьці да наведваньня вашага дому.

Ён пакланіўся старыку і, не падаючы яму рукі, вышаў з пакою.

*(Працяг будзе)*

З расійскае. З рукапісу пераклаў *Я. Скрыган.*

# ПЯЦЬ ВЕРШАЎ

Сьцяпан Ліхадзіеўскі

## 1. Ой, да разыдзецеся, вараныя коні!

Ой, да разыдзецеся,
вараныя коні!
Затупацеце ў даль капытамі!
Пра сьветлыя зоры,
пра шчасьце людзкое
долю сваю папытайма!

Цокніце, коні,
бліщчастымі падковамі—
Хай сябе і іскры,
камень сыпле!
Паўз дарогу ворыва
шырознае, новае,—
новы дзень,
як белы лебедзь, выплыў.

Клоніцца,
хіліцца
галіністы шацілавец,
наліваюць,
насьпяваюць ячмяні.
Помніш, дружа,
як дружна
за плугам хадзілі мы,
калі з паплавамі,
з мурагом
сакавік гаманіў?!

Стойце, коні!
Наце вам, коні,
сьвежай канюшыны
з мёдавым пахам,
з кветкамі пышнымі!

У жніўны сузвон
на калгасныя шыры
трэба, каб лёгка вышлі!

## 2. Новую! Жніўную!

У поступе мускульных ног,
у жняярачным рокаце
панік быльнёг...
Коні!
Размашысьцей цокайце!

Цьвіль палёў
прытаптчэце нагамі!
Цераспалосіца!
Свой хуткі скон заві!
Ячмені шугаюць
пажарам бронзавым.

Бярозавай дуброве
агністая зара сьніцца...
Песьню новую
шукае колгасьніца...

Успамін галаву агорне...
Ї з-за густога вэлюму
зацягне былое гора
жніўную,
пасівелую...

„Да высок барок, высок
Над усімі барамі,
Да багат наш пан, багат
над усімі барамі"...

Добра ўслухайся—
і з-за плячэй
усхвалы сьціплае
боль векавая цячэ,
за сэрца шчыплецца...

Ну а ніва наўсьцяж зацьвіла
ураджайнасьцю добраю!
Ї яна зацягнула на новы лад...
шукае...
прабуе...

„Да высок барок, высок
над ўсімі барамі,
Да багат колгас, багат
над паасобнікамі ўсімі“...

Ой, да зашумеце, палі,
буйнымі жытнёвымі калосьсямі!
Час агністыя заранкі запаліў—
працаваць пад імі давялося нам!

Рупная
        работа
                распачата,
пракаціўся рокат па над нівамі.
Грымніце-ж,
маладыя дзяўчаткі,
колгасную!
жніўную!

### 3. Монолёг трактара

Як толькі возьмецца на дзень
і туманы асядуць,—
у шопаце людзкіх надзей
праходжу ля прысадаў.

Ня чую стомы над сабой
і ногі ня ломіць у каленях.
Ня згінуць у агні работ
са сталі пакаленьню!

Перада мной дрыжыць быльнёг
і корчыцца
        ў агні
                малачай.
Сабакам ласкавым
Паяс мяжы прылёг,
І вораны ня сьмеюць больш крычаць.

Разорваю ўрадлівы чорназём,
вярну разложастыя скібы.
Праношуся,—
гляджу ізноў
памераць сілу з кім-бы?!

Ударніцтвам шугае сьвет—
ну чым я горшы ад усіх ударнік?
Пабачце,
як па сонечнай расе
адмерваю гектар я за гектарам.

Ужо бунтуюць ячмені,
дзе грукацела сталь.
Я пот людзкі выходжу падмяніць
на нафту і мэталь.

І мы задуманы палёт
да рэчаіснасьці наблізім.
На беларускіх я палёх
вястун соцыялізму!

Я з просьбай, людзі, к вам прышоў,
як, непазбаўлены правоў,
таварыш:
—прычапеце
болей лемяшоў!
—Адвядзеце
новыя гектары!

## 4. Чырвоны абоз

Стаіўся верасень у кусьціках лазы,
на панадворку пакрысе цяплее...
Загрукалі
калёсамі вазы,
і ўсе гужы з натугі заскрыпелі.

Учора йшчэ гудзела малатарня,
акорды бралі на гульлівай арфе.
. . . . . . . . . . . . . . .
Вызвоньваюць кляноў гітары
паходныя абозу маршы.

Арэхавым кійком,
аздобленым у ромбы,
узьнесьлі ў высь чырвоную хусьціну.
Колгаснаю рукою робім
сягоньня мы рабочаму гасьцінец.

Па грэблях,
між тарфяністых балот
Пераклікаюцца згартованыя шыны.
Хістасцца пад ветрам вербалоз,
галініцца калючая шыпшына.

Пад'ехалі да гораду—
музыкі
на медных трубах
грымнулі сустрэчу.
І ня чуваць і гоману лазы тэй,
сымфоніі калёсы не пярэчаць.

Вітальных слоў рассыпаўся сузвон...
У тонах музыкі—
і гутарка жывая...
Сьсівелы дзядзька узышоў на воз:
„—Прывезьлі хлеб рабочаму—
здароў хай спажывае!..“

Замяўся...
Штось яшчэ хацеў прагаварыць...
Падумаў...
Шапкаю махнуў...і скончыў...
Зноў грымнулі аркестры...
Рытм запаланіў прасьцяг бясконцны.

А верасень разносіў жоўты ліст,
бадзялася ля гумен восень.
...І з нейкай радасьцю вазы плылі
з таварамі ў абноўленую вёску.

## 5. Мы возім снапы

З раніцы і да ночы
возім снапы мы ў гумны.
Зорная шыр—далячынь
сее глыбокую ўдумнасьць.

Глянеш навокал сябе—
радасьці птахі крыляцца.
Гэтакі творчы разьбег!
Гэткая ўдарная праца!

Спрыт нарадзіўся які
у парываньнях сумесных!..
Што не зрабілі вякі—
робіць паўгодзьдзе і месяц.

Тут вось ня толькі палі
межы дзірванныя роняць;
Тут вось ня толькі ў калін
лісьце ў новым сузвоне;

Тут вось ня толькі ў траве
роснае сьвежасьці многа.
*Тут паўстае чалавек*
*супроць сябе самога!!!*

Громам патрэбна было
бурна прайсьці—пракаціцца,
каб у царкве білі лён,
кузьню зрабілі ў званіцы!

Грымніце громы ізноў—
болю астачу зьмесьці!
Новаму—
          большы развой!
Новаму—
          большае месца!

З раніцы-ж мы да начы
поўнім колгасныя гумны.
Бронзай гарыць далячынь,
вее настроем удумным.

19-VIII—24-IX 1930 г.

Колгас імя Будзённага,
Случчына—г. Менск.

## БУКІНІСТ

**Юрка Лявонны**

Шквалы жыцьцёвыя
Пенай пакрылі
Пышныя кудры
Калішняй красы.
З кнігамі побач—
Мінуўшчыны крыльлі—
Ў цьмяных асадках
Вісяць абразы...

Сьпіс альфабэтны
Ня вельмі кароткі;
Пыл фаліантаў
І кволасьць брашур,—
Пах ад кніжок
Нявыразна-салодкі,
Сынтэз папэры
І творчых віхур.

Мудрыя кнігі
Гавораць аб лёсе,
А ён ня філёзаф—
Стары букініст;
Ён знае,
Што шмат
Працаваць давялося,
Што кніга ня кніга,
Як выдраны ліст...

„Миф о христе“—
І „поэмы“ Чарота,
Ноты Шопэна—
І „L'e miserable“...
Рана выходзе
Сівы на работу,
Кніжкі выносіць
Ні сьвет, ні зара...

Зранку над плошчаю
Гоманы рынку,
Гулкага гораду
Грукат і гром,—
Можа ён дома
Сядзіць над скарынкай—
Пыльных калекцый
Разрозьнены том.

Дымам стагодзьдзяў
Акутаны далі;
Ліюцца падзеі,
Бы ўвесну вада,
І гонарам рынку
Літары ўсталі
З новае шыльды:
*Белдзяржвыдат...*

— Падзяка, старэча,—
Вы шмат лятуцеьньняў
Здаволілі кнігай...
Пара адпачыць!
У сонечных дзён
І жывых пакаленьняў
Струменяць кнігарні
Запал і пачын.

10-IX-30.
Менск.

# З КАЗАКСТАНСКІХ МОТЫВАЎ

*(Урыўкі)*

**А. Розна**

*Прысьвячаю Турксібу*

* * *

На ўзьбярэжжы сіняга Балхашу
Раніцою шэпчуць трысьнікі,
І вярблюды, вышаўшы на пашу,
Капытамі ўтоптваюць пяскі.
Хвалі плачуць задуменным гулам
Пад усходнім небам, поўным зор...
Край пяскоў сыпучых і аулаў
І—забытых гор...
Край з усходня-сінімі вачыма,
Край ліхіх пяшчаных завірух...

* * *

Прытуліўшыся бязмоўна да дзяўчыны,
Пад гарой сядзеў пастух.
Ад цяжкое працы адарваны,
Ён аб нечым ціха ёй шаптаў.
І праходзілі пяскамі караваны
І шумеў забыты Казакстан.
Старымі паданьнямі багаты,
Задрымаў ён на грудзёх зямлі.
І ад Кара-Кум да Алма Аты
Ветры ўсе дарогі замялі,—
А пастух расказваў пра краіну,
Дзе замест амчараў*)– трактары.
З маладой пастушкаю, з дзяўчынай
Прасядзеў да раньняе зары.

---

*) **Амчар**—адзіная (дагэтуль) сельскагаспадарчая „машына“, якою казакстанскія сяляне абраблялі зямлю.
Накшталт нашай драўлянай сахі.

А вярблюд да дрэва прывязаны
Капытом у ствол бясконца біў.
Так-жа йшлі бязумоўна караваны
І бавоўну везьлі у Сібір.

* * *

Беглі ў полі дні кіноістужкай,
Як і ўчора, як бягуць цяпер...
І сягоньня ўведала пастушка
Што яе айчына—
СССР.
Але ўсё-ж на берагох Балхашу
Раніцой рыдалі трысьнікі,
І вярблюды, вышаўшы на пашу,
Як заўсёды, ўтоптвалі пяскі.
Моўчкі хвалі возера ліліся,
Падалі на бераг далавах.
„Скінь чадру, Алаху не маліся,
Лепш ідзі радзіму будаваць,“—
Так сказала ёй яе айчына—
Маладая казакстанская вясна...
— А пастушка (з сінімі вачыма)
Усё, усё імкнулася пазнаць.
„Паглядзі! Пад гэты сьпеў чароўны,
Ля тваіх малых нізенькіх шыб,
Разьлягліся рэйкі роўна, роўна
Іх імя—
Турксіб...“
Рэйкі, рэйкі!..
Песень нячуваных
Шмат у нас...
Адна з тых песень—
вось:
Паплылі вагонаў караваны,
Праваднік каторых—
паравоз...
Рэйкі, рэйкі...
А пяскоў так многа
І змагчы мы здолеем пясок
Гэта—
радасная перамога
І—
яшчэ адзін вялікі крок...

Хто прысьніў, што ў полі Казакстану
Пад Іртыша аднастойны гул
Каля гор забытых Алатау
Маладыя рэйкі пабягуць?!
Не паверыць:
                у палёх пяшчаных,
Што ў Алаха просяць навальніц,
Ранкамі і сінімі начамі
Паравоз зьвініц,
                зьвініць,
                        зьвініць...

* * *

І цяпер, калі пастух з дзяўчынай
Пад гарой сядзелі, як тагды,
Сіняй стужкаю перад вачыма
Разаслаўся паравозны дым.
Толькі дзюны ня шумелі віхрам,
Не спраўлялі, як заўсёды, баль.
І пастух сказаў дзяўчыне ціха:
— Бачыла!
        Шайтан-арба *)

* * *

І цяпер на беразе Балхашу,
Дзе рыдалі ўчора трысьнікі,
Маладымі рэйкамі на пашу
Кожны дзень выходзяць цягнікі.
Гэта—
        край раскіданых аулаў.
Пад усходнім небам, поўным зор,
Край, дзе нашы песьні прагарнулі
Скалы дзікіх гор...
Гэта—край узрослых сэмафораў,
Што спрадвеку меў пахілы стан,
Край, што выкрасьліў сваё учора,
Зваць яго—
        Савецкі Казакстан...

г. Лепель.
1930 г.

*) Калі ў Казакстане ўпяршыню ўбачылі паравоз, то назвалі яго шайтан-арба, што па нашаму значыць—чортава калясо.

# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ЛІНІЮ Ў НАЦПОЛІТЫЦЫ

**А. Сянькевіч**

## Уступ

На шляху ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі, як гэта ўжо было неаднакрацъ азначана ў пастановах Зьезду ЎсеКП(б) галоўнай перашкодай зьяўляецца вялікадзяржаўны рускі шовінізм, XVI зьезд УсеКП(б) зноў падцьвердзіў тэзіс аб вялікадзяржаўным шовінізьме, як галоўнай перашкодзе, паколькі ён ставіць пад знак пытаньня існаваньне нацыянальных рэспублік і абласьцей, паколькі ён бярэ стаўку на ліквідацыю нацыянальнай політыкі нашай партыі.

Разам з гэтым XVI зьезд нашай партыі адзначыў і вялікую небясьпеку шовінізму мясцовага, паколькі апошні апроч усяго іншага бярэ стаўку на інтэрвэнцыю. У даным артыкуле мы і пастараемся разглядзець твар і чыннасьць вялікадзяржаўнага шовінізму і беларускага нац.-дэмократызму і шовінізму іншых колераў, пастараемся раскрыць іх сапраўдны твар, бо гэта найлепш дапаможа ў змаганьні з шовінізмам і нацыянал-політычнымі плынямі наогул.

### Вялікадзяржаўны рускі шовінізм, шовінізм яўрэйскі і інш.

Тав. Сталін у справаздачы ЦК XVI зьезду ЎсеКП(б) ставіць пытаньне—„У чым складаецца сутнасьць ухілу да вялікарускага шовінізму ў нашых сучасных умовах?“—і адказвае:

„Сутнасьць ухілу да вялікарускага шовінізму складаецца ў імкненьні абыйсьці нацыянальную розьніцу мовы, культуры, быту; у імкненьні падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і вобласьцяй; у імкненьні падарваць прынцып нацыянальнага роўнапраўя і разьвянчаць політыку партыі па нацыяналізацыі апарату, нацыяналізацыі прэсы, школы і іншых дзяржаўных і грамадзкіх організацый“.

Гэтыя словы цалкам прыстасоўваюцца і да БССР.

Абвастрэньне клясавай барацьбы, выкліканае наступам соцыялістычнага сэктару і растучым выкарчоўваньнем капіталістычных элемэнтаў, прывяло да актывізацыі шовіністычных і нацыянал-дэмократычных элемэнтаў у БССР. Гэтыя элементы, ставячы перад сабою задачу дасягнуць капіталістычнай рэстаўрацыі, імкнуцца сарваць як соцыялістычнае будаўніцтва, так і нацыянальную політыку партыі.

Найбольш небясьпечным ва ўмовах БССР, як і ва ўсім Саюзе, быў і застаецца вялікарускі шовінізм.

Носьбітамі вялікарускага шовінізму як найбольш небясьпечнага і ва ўмовах БССР зьяўляюцца рэшткі старога чыноўніцтва і гарадзкой дробнай буржуазіі.

Вялікарускія шовіністы марыць аб аднаўленьні „адзінай", „непадзельнай" Расіі і таму яны адхіляюць неабходнасьць існаваньня Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Вялікарускія шовіністыя адхіляюць існаваньне беларускай мовы, лічачы яе „гаворкай", „наречием" мовы рускай. Беларускую нацыянальную культуру яны расцэньваюць як культуру ніжэйшага парадку, асабліва ў параўнаньні з рускай культурай.

Найбольш характарнымі праявамі вялікарускага шовінізму зьяўляецца актыўнае і пасыўнае супраціўленьне політыцы беларусізацыі.

Характарнай праявай вялікарускага шовінізму зьяўляецца выступленьне профэсара БДУ Шчапоцьцева. Гэты профэсар, які працаваў на Беларусі звыш пяці год, падаў заяву ў Праўленьне БДУ аб аслабаненьні яго ад абавязкаў профэсара біолёгіі і зоолёгіі бясхрыбетных. Сваю заяву проф. Шчапоцьцеў мотывуе наступным чынам: „Предстоящая белоруссизация моей кафедры, незнакомство с белорусским языком і невозможность читать лекции на иностранном (беларускім. *А. С.*) языке, хотя бы я его і понимал".

Адзін з профэсароў Беларускай с.-г. акадэміі, здаючы рукапіс, піша ў выдавецтва запіску: „Весьма прошу мою статью напечатаць на русском *ленинском* (падкрэсьлена мною. *А. С.*) языке".

Выкладчык рабфаку тэй-жа Акадэміі Менцюкоў на прапанову весьці выкладаньне на беларускай мове адказаў: „Беларуская мова—штучная, гэта ёсьць выдумка беларускіх шовіністаў, дый сама Беларусь ёсьць „Белая Русь", ёсьць Расія і ніякай паасобнай мовы яна ня мае",

Ня гледзячы на дырэктывы ўраду і партыі аб пераводзе дзяржаўнага апарату на беларускую мову, ёсьць рад асоб, якія ўпарта не жадаюць выконваць гэтую важнейшую дырэктыву, альбо выконваюць яе формальна.

У часе дыскусіі ў сьценах Беларускай акадэміі навук „Аб шляхох беларускай літаратурнай мовы" тэзы па гэтым пытаньні доцэнта БДУ Воўк-Левановіча зьяўляліся яскравым прыкладам вялікарускага шовінізму. Доц. Воўк-Левановіч у сваіх тэзах спрабаваў зьвесьці беларускую мову да простай гаворкі, якая зьяўляецца адным з разгаліненьняў рускай мовы. Маскуючы сваю вялікадзяржаўную сутнасьць заявамі аб тым, што ён не за рускія, польскія або іншыя словы ў беларускай мове, а за чыстую нібыта беларускую мову, у той-жа самы час доц. Воўк-Левановіч прапануе замяніць цэлы шэраг беларускіх слоў словамі рускімі, прапануе адначасова выкінуць з беларускай мовы словы, якія сустракаюцца ў іншых мовах.

Гэта ён робіць з тэю мэтай, каб давесьці, што беларускай мовы наогул ня існуе, ёсьць толькі жаргон розных моваў, „говар“, „наречие“. Адначасова Воўк-Левановіч, як і ўсе вялікадзяржаўныя шовіністы, зьнімае проблему нацыянальнага прыгнечаньня і прымусовай русыфікацыі на тэрыторыі акраін былой царскай імпэрыі, зводзячы русыфікатарскую царскую політыку да „органічных натуральных процэсаў, набліжэньня беларускае і рускае мовы“.

Вялікадзяржаўны рускі шовінізм зьяўляецца яшчэ і таму небясьпечным, што ён падаграе, што ён лье ваду на млын шовінізму мясцовага беларускага.

Калі паасобныя комуністы з ухілам у бок вялікадзяржаўнага рускага шовінізму ўхіляліся ад непасрэднага ўдзелу ў будаўніцтве беларускай нацыянальнай культуры, гэтым сваім адхіленьнем яны адкрывалі шырокае поле дзейнасьці для беларускіх шовіністаў, беларускіх нацыоналдэмократаў; давалі магчымасьць апошнім адчуваць сябе монополістамі на паасобных вучастках культуры і навукі.

Найлепшым доказам таго, што вялікадзяржаўны рускі шовінізм харчуе і падаграе шовінізм мясцовы беларускі, зьяўляецца прыклад з „фрагмэнтамі“, зьмешчанымі ў насьценнай газэце Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту і рэагаваньне на гэтыя „фрагмэнты“ з боку беларускіх студэнтаў-літаратараў, у тым ліку і комуністаў.

У гэтых фрагмэнтах аўтар паміж іншым зьмясьціў наступныя выпадкі аб беларускіх пісьменьніках, студэнтах, лінгвістычнага аддзяленьня пэдфаку БДУ.

„Мыслю, значит, существую“. Декарт.

Будем мыслить:

Человек—социальное животное,
Все поэты—люди
Все люди—социальные животные.
Все поэты—животные
—социальные или нет увидим...
„Математика—наука точная“
Физмат.

На II курсе литер.-лингв. отделения значительную часть составляют писатели, они же „пісьменьнікі“ (они же поэты). Они же „маладнякоўцы“ и прочие ЦЫ. Пропорция приблизительно следующая:

Что за штука на педфаке,
Об'ясьни мне это,—
Кинешь палкою в собаку,—
Попадешь в поэта...“

Далей аўтар „фрагмэнтаў“ гаворыць аб імкненьні беларускіх літаратараў адасобіцца ад студэнцтва. Трэба адзначыць, што газэта праз два гады выдаецца выключна на белмове. „Фрагмэнты“ былі зьмешчаны на рускай мове.

Пад фрагмэнтамі ёсьць наступная заўвага ад рэдакцыі: „Ня выказваючыся па сутнасьці артыкулу, рэдакцыя павінна адзначыць ненормальнасьць становішча занятага маладымі пісьменьнікамі ў нас на факультэце. Лічачы гэта хваравітым зьявішчам нашай студэнцкай грамадзкасьці, рэдакцыя просіць студэнцтва выказацца па гэтым пытаньні“.

Зразумела, што такая заўвага рэдакцыі азначала прымірэнцтва да вылазкі вялікадзяржаўнага рускага шовініста, калі ня больш.

Як-жа рэагуе на гэтую вылазку вялікадзяржаўнага шовініста група беларускіх пісьменьнікаў—Зарэцкі, Александровіч, Дудар (з іх першых двое комуністаў)? Замест таго, каб пры дапамозе адпаведных організацый павесьці барацьбу з праявай вялікадзяржаўнага шовінізму, яны зьмяшчаюць ліст у газэце „Савецкая Беларусь“, дзе заяўляюць аб сваім выхадзе з Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту, паколькі там няма месца для беларускіх пісьменьнікаў“.

Напісаньне і зьмяшчэньне гэтага лісту было об'ектыўна контррэволюцыйным актам, які быў на руку ворагам Савецкай Беларусі, ліст трох пісьменьнікаў зьявіўся разам з тым і яскравай праявай беларускага нацыянал-дэмократызму.

Вось чаму партыя зусім правільна ставіла і ставіць пытаньне аб вялікадзяржаўным рускім шовінізьме як галоўнай небясьпецы пры правядзеньні ленінскай нацыянальнай політыкі.

Таму мае разважаньні ў брошуры „Беларускі нацыянал-дэмократызм і барацьба з ім“, дзе я кажу, што галоўны агонь павінен быць накіраваны на беларускі нацыянал-дэмократызм, не адпавядалі ўстаноўкам ЦК УсеКП(б).

Адзначаючы, што ўстаноўка XVI зьезду ЎсеКП(б) цалкам і поўнасьцю адпавядае ўмовам і абставінам Беларусі, кастрычніцкі пленум ЦК КП(б)Б (1930) падкрэсьліў, што: „Цьверджаньне, што вялікадзяржаўны шовінізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, не азначае паслабленьня барацьбы супроць беларускага, а таксама польскага, яўрэйскага і іншых шовінізмаў. Высоўваючы палажэньне аб тым, што вялікадзяржаўны шовінізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай, партыя адначасна ўяўляе сабе, што побач з вялікадзяржаўным шовінізмам узмацняецца беларускі нацыянал-дэмократызм. Аднак, прадпасылкай поўнай і пасьпяховай перамогі мясцовага шовінізму (беларускага нацыянал-дэмократызму) зьяўляецца шырока разгорнутая і пасьлядоўна праводзімая барацьба супроць вялікадзяржаўнага шовінізму. Таму неабходна наладзіць сыстэматычную работу ў організацыі дзеля таго, каб орыентаваць яе на барацьбу супроць вялікадзяржаўнага шовінізму як галоўнай небясьпекі на даным этапе“.

### Актывізацыя яўрэйскага і польскага шовінізму

Поруч з актывізацыяй вялікадзяржаўнага рускага шовінізму і беларускага нац.-дэмократызму назіраецца актывізацыя і яўрэйскіх шовіністаў. Досыць распаўсюджаным зьявішчам сярод некаторай часткі яўрэйскіх і польскіх працоўных зьяўляецца нацыянальная абмежаванасьць, калі нават на некаторых прадпрыемствах яўрэі групуюцца з яўрэямі, палякі з палякамі і г. д. Нацыянальная абмежаванасьць асабліва праяўлася ў процэсе інтэрнацыяналізацыі прадпрыемстваў, дзе пераважную большасьць складалі яўрэйскія рабочыя. Былі выпадкі, калі некаторая частка яўрэйскіх рабочых глядзела на рабочых іншай нацыянальнасьці, што ўліваліся ў прамысловасьць, як чужых прышэльцаў (швэйная прамысловасьць, Дубровенская мануфактура).

У галіне гаспадарчага будаўніцтва яўрэйскія нацыяналісты і яўрэйскія нацыянал-опортуністы праводзілі работу пад лёзунгам „уцягнуць усіх яўрэяў у соцыялізм“. Адгэтуль скажэньні клясавай лініі ў рабоце саматужна-прамысловай коопэрацыі, у рабоце Озет. Яўбюро ЦК КП(б)Б і былыя кіраўнікі саматужна-прамысловай коопэрацыі далі ўстаноўку на ўцягненьне ў сампрамысловую коопэрацыю былых гандляроў, -„у мэтах скарыстаньня іх ініцыятывы і сродкаў“.

У галіне гістарычнай навукі яўрэйскімі нацыяналістымі культывавалася думка аб адзінай яўрэйскай нацыі, якая заўсёды падпадала ганеньню і зьдзекам.

Яўрэйскія нацыяналісты культывавалі тую думку, што з боку яўрэяў ня было фактаў эксплёатацыі, прыгнечаньня.

Адначасова прапаведуецца, што яўрэйскі нацыяналізм зьяўляецца адказам на антысэмітызм, а ня вынікам, як і самы антысэмітызм, клясавай барацьбы.

У галіне навукі аб мове яўрэйскія нацыяналісты праводзяць тую-ж работу, што і беларускія нацыонал-дэмократы—барацьба з савецызмамі і інтэрнацыяналізмамі пры складаньні яўрэйскай тэрмінолёгіі, прычым аддаецца перавага тэрмінам з старажытна-яўрэйскай мовы.

Сваю работу яўрэйскія нацыяналісты праводзяць у цесным саюзе з яўрэйскімі клерыкаламі. Сынагога стала цэнтрам шовіністычнай дзейнасьці сярод яўрэйскіх працоўных.

Сярод яўрэйскіх нацыянал-опортуністаў мае месца ідэалізацыя Бунду і другіх дробнабуржуазных нацыяналістычных партый.

Польскі нацыяналізм выяўляецца ў нацыянальнай абмежаванасьці, у орыентацыі польскіх шовіністаў на фашыцкую Варшаву, а не на чырвоную Маскву. Правадніком польскага шовінізму зьяўляецца касьцёл на чале з каталіцкім ксяндзом. Каталіцкі касьцёл таксама зьяўляецца цэнтрам шовіністычнай дзейнасьці сярод польскага працоўнага насельніцтва.

## Ідэолёгія беларускага нацыянал-дэмократызму

Беларускія нацыянал-дэмократы ставяць сваю мэтаю ўстанаўленьне нібыта незалежнай Беларускай народнай рэспублікі замест Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Зразумела, што гэта рэспубліка будзе мець капіталістычны лад, дзе будзе кіраваць капіталіст разам з памешчыкам. Як выявілася з паказаньняў членаў беларускай контррэволюцыйнай нацыянал-дэмократычнай групы, выкрытай органамі ДПУ, нацыянал-дэмократы ставілі мэтай аднавіць прыватную ўласнасьць на зямлю, зьвярнуць фабрыкі і заводы капіталістам і ўстанавіць вольны рынак і гандаль.

У сваёй палітычнай частцы „незалежніцкая“ програма зводзілася да аб'яднаньня Беларусі з буржуазнай Украінай і Літвою пад протэкторатам фашыцкай Польшчы. Аб гэтакіх меркаваньнях беларускіх нацыянал-дэмократаў сьведчаць паказаньні іх саюзьнікаў, нацыянал-фашыстаў Заходняй Беларусі.

Квінт-эсэнцыяй ў ідэолёгіі беларускага нацыянал-дэмократызму зьяўляецца яго пропаведзь адвечнага існаваньня адзінай бясклясавай беларускай нацыі.

Стоячы на старых нашаніўскіх позыцыях, нацыянал-дэмократы выступаюць супроць клясавай барацьбы, яны ня робяць розьніцы паміж абшарнікамі і капіталістамі, з аднаго боку, і беднякамі сялянамі, батракамі і рабочымі, з другога боку. Не беларускі рабочы, батрак, бядняк або серадняк селянін, а беларускі народ. Таму нацыянал-дэмократамі пропагандуецца сярод працоўных культ адзінай нацыі, культ роднай старонкі „бацькаўшчыны“. Адгэтуль ня клясавая барацьба, а нацыянальная барацьба, адгэтуль ідэя адзінага нацыянальнага фронту.

Тэорыя „беларускай самабытнасьці“ зьяўляецца другою красамоўна рысаю беларускага нацыянал-дэмократызму. Найбольш выпукла ідэю „беларускай самабытнасьці“ ў галіне культурнага будаўніцтва нацыянал-дэмократы выявілі праз свой рупар у шэрагах КП(б)Б, беларускіх нацыянал опортуністаў, у процэсе кіно і тэатральнай дыскусіі. Беларускія нацыянал-опортуністы ў гэтай дыскусіі рабілі асаблівы ўпор на неабходнасьць стварэньня самабытнага беларускага тэатру. Такая, напрыклад, п'еса як „Гута“ іх не здавальняе, бо ў гэтай п'есе, якая малюе жыцьцё і побыт беларускіх рабочых, няма па іх думцы спэцыфічнага, беларускага.

Ня менш яскрава тэорыя самабытнасьці была выяўлена ў дыскусіі „аб шляхох беларускай літаратурнай мовы“, якая мела месца ў сьценах Беларускай акадэміі навук. У гэтай дыскусіі скрыжавалі шаблі і вялікадзяржаўныя рускія шовіністы і беларускія нацыянал-дэмократы, але па сутнасьці і выступленьні першых і выступленьні другіх зьявіліся аб'яднанай атакай супроць лініі партыі ў нацыянальным пытаньні, у прыватнасьці супроць беларусізацыі.

З боку беларускіх нацыянал-дэмократаў у дыскусіі аб мове яшчэ больш яскрава, чымся ў тэатральнай дыскусіі, выявілася тэорыя самабытнасьці беларускай культуры. Беларускі нацыянал-дэмократызм, падобна ўкраінскаму, праводзіў лінію на чыстату беларускай мовы (пурызм). У аснову мовы прапануецца браць мову найбольш адсталай часткі беларускага сялянства. Лёкальная абмежаванасьць, несьвядомасьць зводзіцца ў ідэал, фэтышызуецца, а гэтыя амаль няпісьменныя сяляне абвяшчаюцца носьбітамі „дасканалай“ чыстай беларускай мовы.

На справе гэтая лінія за чыстату мовы зводзілася да барацьбы з „саветызмамі“, да барацьбы з „інтэрнацыяналізмамі“ ў беларускай мове. У беларускім слоўніку, выданым Інстытутам беларускай культуры, вы ня знойдзеце такіх слоў як „эксплёатацыя“ або „колектывізацыя“. Першая заменена польскім словам „вызыск“, другое—словам „суполка“. Тут мы маем поруч з змаганьнем за самабытнасьць беларускай мовы змаганьне з рэволюцыйнаю пролетарскаю сучаснасьцю.

З тэорыяй самабытнасьці мяжуе таксама ідэалізацыя мінулага, старажытнага на Беларусі. Пачынальнікамі беларускай культуры, росквіт якое мы сёньня назіраем у межах БССР, яны лічаць сярэднявяковых манахаў Скарыну, Кляменція Смаляціча або Яфрасінію Полацкую. Яны ідэалізуюць так званы беларускі рэнэсанс, „залаты век“, век панаваньня прыгону і нязьмернай эксплёатацыі працоўных. Яны ідэалізуюць шляхецкіх рэволюцыянэраў, накшталт Кастуся Каліноўскага, выстаўляючы яго як правадыра беларускага сялянства, які нібы змагаўся за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне Беларусі. У абсягу гісторыі літаратуры яны выстаўляюць Дуніна-Марцінкевіча — хлопамана і прыгоньніка—народнікам і заснавальнікам беларускай мастацкай літаратуры.

„Ідэолёгія буржуазна-дэмократычнага нацыяналізму характарызуецца тым, што для таго, каб беларусам конструявацца як нацыі, трэба перш за ўсё давесьці г і с т а р ы ч н а с ь ц ь беларускага народу, знайсьці якія-небудзь адзнакі *нацыянальнага „залатога веку“* ў *мінулым*, давесьці *гістарычнасьць* нацыянальнай пісьменнасьці, знайсьці *гістарычных нацыянальных гэрояў* і ўваскрасіць іх для таго, каб стварыць легенду аб нацыянальным мінулым, якая будзе падтрымліваць нацыяналізм зараз.

Пры гэтым, само сабою зразумела, формуле „Комуністычнага Маніфэсту“, што гісторыя ўсяго папярэдняга грамадзтва ёсьць гісторыя змаганьня клясаў, прыгнечаных і прыгнятальнікаў, патрыцыяў і плябеяў, майстроў і чаляднікаў, памешчыкаў і сялян, капіталістаў і рабочых,—месца не знаходзіца“ *).

Чацьвертае, што характарызуе нацыянал-дэмократызм, гэта яго орыентацыя на „культурны“ Захад, на белую пакуль Варшаву супроць чырвонай Масквы. Доказам гэтага зьяўляецца тое, што пры складаньні беларускай тэрмінолёгіі бралася польскае, а ня рускае слова пры адсут-

*) *В. Кнорын.* За культурную рэволюцыю. Выданьне БДБ, 1928 г.

насьці адпаведнага беларускага тэрміну, і нават беларускае слова, як слова „земляроб“, таму, што яно падобна да рускага слова, замянялася польскім словам „рольнік“.

У часе тэатральнай і кіно-дыскусіі прапанавалася лепш ставіць на беларускай сцэне заходня-эўрапэйскія п'есы або украінскія, абы толькі ня рускія.

Падобна вялікадзяржаўнаму рускаму шовінізму беларускі нацыянал-дэмократызм стаіць на глебе прызнаньня няўхільнасьці барацьбы двух культур—рускай і беларускай.

Выходзячы з гэтай тэорыі беларускі нацыянал-дэмократызм стварае агульны фронт з беларускім нацыянал-фашызмам Заходняй Беларусі, зьяўляючыся такім чынам агентурай беларускага нацыянал-фашызму—складанай часткаю польскага фашызму.

Беларускія нацыянал дэмократы трактуюць Кастрычніцкую рэволюцыю як рэволюцыю дробна-буржуазную. У адным навуковым творы проф. Доўнар-Запольскага (ненадрукаваным) робіцца спроба пабудаваць тэорыю, што ў Беларусі, пераважна сялянскай краіне, ня можа быць дыктатуры пролетарыяту, што асноўнай дзеючай сілай у Кастрычніцкую рэволюцыю было беларускае сялянства, і таму ў яго рукі павінна перайсьці кіраўніцтва дзяржавай.

Праз увесь час беларускі нацыянал-дэмократызм браў стаўку на капіталістычную рэстаўрацыю БССР. Гэтай думкай ён кіраваўся ў сваёй шкодніцкай дзейнасьці, зьяўляючыся натхніцелем і правадыром хутарызатарскай зямельнай політыкі з стаўкай на кулака з мэтай павярнуць сельскую гаспадарку БССР на шлях капіталістычнага разьвіцьця. Па тэй-жа лініі ішла дзейнасьць нацыянал-дэмократаў на фронце культуры, дзе яны ставілі мэту замест пролетарскай стварэньне буржуазнай беларускай нацыянальнай культуры.

Расчараваўшыся ў магчымасьці капіталістычнага перараджэньня БССР, контррэволюцыйная група беларускіх нацыянал-дэмократаў узяла курс на інтэрвэнцыю. У саюзе з нацыянал-фашыстамі Заходняй Беларусі, выконваючы заданьні польскага фашызму, яны падрыхтоўвалі глебу дзеля ўзброенага нападу на СССР, і ў першую чаргу на БССР, капіталістычных дзяржаў.

## Нацыянал-опортунізм, яго сутнасьць і роля

Беларускі нацыянал-дэмократызм рабіў уплыў на паасобныя звеньні нашай партыі. Сярод найменш устойлівых членаў партыі нацыянал-дэмократы знайшлі свой рупар, знайшлі носьбітаў нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі. Праява нацыянал-дэмократычных тэндэнцый у радох партыі, нацыянал-опортунізм, зьяўляецца адным з элемэнтаў правага ўхілу ва ўмовах нацыянальнай рэспублікі.

Якія-ж гэта характарныя рысы нацыянал-опортунізму, што мы павінны выкрываць і з якімі трэба праводзіць рашучую барацьбу ў радох нашай партыі, тым больш, што пастановай верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б ад 1930 г. погляды нацыянал-опортунізму зьяўляюцца несумяшчальнымі з годнасьцю члена партыі?

Найбольш характарным для нацыянал-опортунізму (а разам і для нацыянал-дэмократызму) зьяўляецца ідэя адзінай нацыі і адмаўленьне наяўнасьці клясавага змаганьня ўнутры гэтай нацыі.

Клясычным узорам тэзаў аб адзінстве беларускай нацыі, як зусім правільна адзначыў у сваём дакладзе на Кастрычніцкім Пленуме т. Гей, зьяўляюцца тэзы „Беларускае нацыянальнае пытаньне і комуністычная партыя“, выданыя ў 1921 г., галоўным аўтарам якіх зьяўляецца т. Ігнатоўскі. Ідэя адзінай беларускай нацыі разьвіваецца ў гэтых тэзах наступным чынам: „Нацыя (беларуская. *А. С.*) к канцу 18 стагодзьдзя прадстаўлена выключна адным сялянствам, ужо прыгонным, і невялічкай колькасьцю безьзямельных рамесьнікаў і малазямельных саматужнікаў (кустароў). У гэтакім выглядзе Беларусь пасьля распаду Польшчы (18 ст.) уваходзіць у склад Расійскай імпэрыі. Беларускі пан абшарнік к гэтаму часу стаў палякам. Чыноўніка-паляка замяніў чыноўнік вялікарус. Яўрэі разьбіліся на буржуазію буйную і дробную, з аднаго боку, і на пролетарыят, з другога боку. Беларуская маса была прадстаўлена сялянствам, парабкамі і невялічкай колькасьцю гарадзкіх пролетараў“.

У аднэй з наступных тэзаў, дзе гаворыцца аб соцыяльна-нацыянальным вызваленьні, вышэйсформуляваная думка аб адзінстве беларускай нацыі яшчэ больш падкрэсьліваецца наступным: „Гэта політыка—соцыяльнае вызваленьне для беларусоў стала, разам з тым, і нацыянальным вызваленьнем, дзеля таго, што клясавы і нацыянальны склад беларусоў амаль што супадае. Беларус даўно ўжо перастаў быць панам абшарнікам і купцом, ня быў фабрыкантам, ня быў нават і кулаком“.

Як бачым, сярод беларусаў ня было ні пана-абшарніка, ні буржуазіі і нават кулака. Далей ісьці некуды. Відаць аўтар тэзаў запамятаў, што сярод правадыроў „Нашай Нівы“ былі абшарнікі, як Івяноўскі, Уласаў і інш. Запамятаў ён і аб абшарніку Скірмунце, які быў кіраўніком „Беларускай Рады“ і залічваў сябе ў шчырыя беларусы. А граф Храбтовіч, а княгіня Альжбэта Радзівіл, якая давала грошы і на ўтрыманьне „Нашай Нівы“ і на выданьне „Вольнай Беларусі“ і „Звону“ ужо ў часы белапольскай окупацыі. Аўтар тэзаў забыў і аб тых кулаках, якія прадстаўлялі „адзіную беларускую нацыю“ ў царскай дзяржаўнай Думе, запамятаваў аб беларускім кулацтве, якое змагалася і змагаецца супроць дыктатуры пролетарыяту.

Выходзячы з думкі „аб адзінай нацыі“ нацыянал-опортуністы замест падкрэсьліваньня кіруючай ролі пролетарыяту, а разам з тым і клясавага расслаеньня сялянства (бядняк, серадняк, кулак), у сваіх выступленьнях

уважаюць за лепшае замяняць усё гэта „беларускім насельніцтвам“, „беларускім народам“.

Другой характарнай рысай нацыянал-опортунізму (і нацыянал-дэмократызму) зьяўляецца ідэалізацыя мінулага Беларусі. Яны лічаць, што не Кастрычнік зьявіўся пачаткам росквіту беларускай культуры, а шукаюць беларускі рэнэсанс (залаты век) у сярэднявякоўі, заснавальнікамі беларускай культуры лічаць манахаў Скарыну і Сымона Тураўскага.

Найбольш яскрава ідэалізацыя мінулага даводзіцца ў вышэйпамянёных тэзах. Тэза другая гаворыць: „З XIII стагодзьдзя Полацкая Русь і Літва ўтвараюць Літоўска-Беларускую дзяржаву. Тутака мы ўжо бачым пачатак і разьвіцьцё беларускай культуры; дзяржава перажывае фэўдальны быт. Культуру разьвівае тагочасная інтэлігенцыя, якая складалася з фэўдальнага дваранства (беларускай шляхты) і мяшчан беларускіх гарадоў... Беларуская культура ў 15, 16, 17 стагодзьдзях дае высокія ўзоры разьвіцьця права, гісторыі, літаратуры і г. д.“.

У тэзах ні слова аб тым, што гэтая культура была культурай прыгнятальнікаў—дваран, культура, узросшая на нявольніцтве, культура манахаў і папоў.

Гэта ідэалізацыя мінулага Беларусі чырвонай ніткаю праходзіць як у падручніках па гісторыі Беларусі (Ігнатоўскі), так і ў „Гісторыі беларускай літаратуры“ і іншых працах.

„Пры гэтым формуле „Комуністычнага Маніфэсту“, што гісторыя ўсяго папярэдняга грамадзтва ёсьць гісторыя змаганьня клясаў, прыгнечаных і прыгнятальнікаў, патрыцыяў і плябеяў, майстроў і чаляднікаў, памешчыкаў і сялян, капіталістаў і рабочых—месца не знаходзіцца. *Пролетарыят і рэволюцыйнае сялянства у такой нацыяналістычнай мітатворнасьці патрэбы не адчувае. Наадварот*, *пролетарыят павінен выкрываць клясавую сутнасьць „нацыянальных герояў“, выкрываць клясавы зьмест міту аб нацыянальным „залатым веку“ ў мінулым, паказаўшы эксплёататарскую клясавую падаплеку гэтых мітаў і гэтае мітатворчасьці*“. Пролетарыят павінен змагацца супроць спроб перанясеньня гэтым шляхам буржуазных нацыяналістычных элемэнтаў у новую пролетарскую культуру. Для пролетарыяту права на беларускую культуру выцякае зусім не з таго, што жыў і працаваў на беларускай мове сярэднявяковы манах Скарына, а ад рэволюцыйнага роўнапраў'я ўсіх народаў...

Для пролетарыяту Беларусі дзяржаўны унівэрсытэт, створаны рабочымі і сялянамі, ні ў якой меры не зьяўляецца пераемнікам Віленскай езуіцкай акадэміі, як гэта некаторым хочацца давесьці“ *).

Таму перад намі сёньня стаіць пытаньне разьвянчаць такіх „нацыянальных герояў“, як Кастусь Каліноўскі, прадстаўнік шляхецкай, а ня

*) Корын. „Аб рашаючых дробязях“ у вялікім пытаньні. За культурную рэволюцыю. БДВ, 1928 г.

хлопскай рэволюцыі ў польскім паўстаньні 1863 г., як яго імкнуліся паказаць і ў гісторыі і нават у мастацтве. Нам трэба зьняць годнасьць народніка-песьняра з абшарніка, прыхільніка прыгоннага ладу Дуніна-Марцінкевіча, годнасьць, якая з лёгкай рукі У. Ігнатоўскага гуляе па падручніках гісторыі беларускай літаратуры. Трэба таксама перавесьці другога народніка Фр. Багушэвіча з катэгорыі рэволюцыйнага народніцтва ў прадстаўніка лібэральнага народніцтва 80-х гадоў з яго рэакцыйнымі поглядамі на разьвіцьцё капіталізму і г. д.

Трэцяе, што зьяўляецца характэрным для беларускіх нацыянал-опортуністаў—гэта ідэалізацыя дробна-буржуазных партый, як Беларуская Соцыялістычная Грамада, „Наша Ніва" і г. д. У працах З. Жылуновіча мы маем спробы давесьці, што Беларуская Соцыялістычная Грамада зьяўляецца „папярэдніцай КП(б)Б, спробы замазаць дробна-буржуазны характар гэтай організацыі. Тав. Чарвякоў таксама ідэалізаваў буржуазныя нацыянальныя дарэволюцыйныя партыі Беларусі, прадстаўляючы справу такім чынам, што КП(б)Б працягвае справу гэтых буржуазна-нацыяналістычных партый. Тав. Чарвякоў у 1928 г. кажа: „Рэволюцыя патрабавала пераацэнкі ўсяго старага, патрабавала яснага адказу на запытаньні: ці старыя традыцыі і шыльды бяз зьмены зьместу старых лёзунгаў... ці даць старой шыльдзе „адраджэньня" новы зьмест, паставіўшы яе на службу соцыялістычнай рэволюцыі і праз гэта захаваць цесную сувязь з рэволюцыйнымі рабочымі і сялянствам". (І т. Чарвякоў і т. Жылуновіч пад напорам партыі прызналі і асудзілі свае нацыянал-опортуністычныя і праваопортуністычныя памылкі).

Беларускі нацыянал-опортунізм падмяняе пролетарскі характар Кастрычніцкай рэволюцыі ў Беларусі дробна-буржуазным, „агонь кастрычніцкай рэволюцыі надаў сілы поэту (гутарка ідзе пра Жылуновіча. *А. С.)* „бо ён адчуў сваю блізкасьць да *рабоча-сялянскай* рэволюцыі". „Рэволюцыя (Кастрычніцкая) прышла ад цяжкасьці сох *(*Артыкул т. Чарвякова, „Полымя", 1928 г.).

*Нацыянал-опортуністы.*

Нацыянал-опортуністы прыпісваюць няправільную ролю інтэлігенцыі як кіруючай сіле ў рэволюцыі.

У нацыянал-опортуністаў ёсьць прызнаньне нацыянальнай формы культуры пры ігнараваньні яе пролетарскага зьместу.

Нацыянал-опортуністы ў радох КП(б)Б ня толькі не адмежаваліся ад „тэорыі самабытнасьці" беларускае культуры, але ў час дыскусіі аб шляхох беларускага тэатру і кіно самі падтрымлівалі гэтую тэорыю (М. Зарэцкі, З. Жылуновіч).

У гэтай-жа дыскусіі выявілася іх шкодная позыцыя орыентацыі на „культурны" Захад заміж чырвонай Масквы.

Мы адгэтуль бачым, што ў важнейшых палітычных пытаньнях нацыянал-опортуністы альбо падтрымліваюць або цалкам падзяляюць устаноўкі нацыянал-дэмократаў. Мы бачылі, што як у ідэолёгіі, так і ў прак-

тычнай дзейнасьці сьціраліся межы паміж нацыянал-опортунізмам і нацыянал-дэмократызмам. Нацыянал-опортуністы зьяўляліся фактычна шчытом, об'ектыўна прыкрываючым контррэволюцыйную дзейнасьць нацыянал-дэмократаў на тэрыторыі БССР.

Вось чаму зусім правільна кастрычніцкі пленум ЦК КП(б)Б у 1930 г. пастанавіў:

„Пленум абвяшчае погляды нацыянал-опортунізму несумяшчальнымі з прыналежнасьцю да КП(б)Б.

## ПРОГРАМА І ДЗЕЙНАСЬЦЬ КОНТРРЭВОЛЮЦЫЙНАЙ ГРУПЫ БЕЛАРУСКІХ НАЦ.-ДЭМОКРАТАЎ *)

Выкрытая органамі ДПУ контррэволюцыйная група на чале з былымі міністрамі і дзеячамі Беларускай Рады—Ластоўскім, Цьвікевічам, Лёсікам, Некрашэвічам і іншымі, акапаўшыся ў Беларускай Акадэміі Навук, прасунула адтуль свае шчупальцы на рад вучасткаў экономічнага і культурнага фронту, Наркамзем, Наркамасьветы, Белдзяржвыдавецтва і інш.

Я. Лёсік адзін з ідэолёгаў контррэволюцыйнай групы паказвае, што „група вяла наступленьне ня толькі ў нацыянальным пытаньні, але таксама імкнулася ўплываць на аграрную політыку, праводзячы сваю кулацкую лінію (прышчэпаўшчына) і на іншыя вучасткі соцыялістычнага будаўніцтва (салідарызацыя з групай Бухарына і наогул з правымі элемэнтамі)“.

Такім чынам, мы бачым, што беларуская контррэволюцыя, імкнучыся з аднаго боку стварыць буржуазную беларускую культуру, з другога боку вяла работу па ўзмацненьні капіталістычных элемэнтаў вёскі праз політыку хутарызацыі, іншымі словамі—вяла курс на капіталістычнае перараджэньне БССР, на капіталістычную рэстаўрацыю.

Абвастрэньне клясавай барацьбы на этапе соцыялістычнай рэконструкцыі, разгорнутае соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, нашы вялізарныя посьпехі ў галіне соцбудаўніцтва зьнішчаюць падставу для надзеі на капіталістычную рэстаўрацыю БССР у беларускіх контррэволюцыянэраў і яны пераключаюцца на замежную інтэрвэнцыю.

Той самы Я. Лёсік наконт інтэрвэнцыі паказвае наступнае: „нашай асноўнай задачай было павялічэньне беларускіх контррэволюцыйных сіл у гарадох для захопу ўлады ў належны момант, выкліканы вайною або агульным аграрным паўстаньнем у Савецкім Саюзе. Мы,—кажа Лёсік,—свае надзеі на зьвяржэньне савецкай улады ўскладалі на інтэрвэнцыю“.

Сваю драпежніцкую работу беларускія контррэволюцыянэры праводзілі ў саюзе з нацыянал-фашыстамі Заходняй Беларусі, паколькі апош-

*) Гэты разьдзел напісаны на аснове матэрыялу, зьмешчанага ў газ. „Зьвязда“ ў артыкуле „Твар беларускае контррэволюцыі“.

нія стаўляюць тыя-ж мэты, што і контррэволюцыйныя нац.-дэмократы ў БССР, паколькі нацыянал-фашысты на чале з Луцкевічам зьяўляюцца выканаўцамі заданьняў польскага фашызму ў яго ліхаманкавай падрыхтоўцы ўзброенага паходу на СССР.

Такім чынам мы бачым, што контррэволюцыйная нацыянал-дэмакратычная група адыгрывала ролю форпосту міжнароднай інтэрвэнцыі. Яна ня толькі падтрымлівала сувязь з нацыянал-фашыстамі тыпу Луцкевіча, Астроўскага, Станкевіча і інш., але і з вядомым катам беларускіх працоўных Булак-Балаховічам.

На беларускай акадэмічнай конфэрэнцыі, якая адбылася ў Менску ў 1927 г., быў заключаны блёк паміж цэнтрамі беларускай контррэволюцыі па гэты і па той бок мяжы.

У той час, калі Луцкевічы, Астроўскія і Ко падрыхтоўвалі глебу для будучай інтэрвэнцыі, праводзілі так званую моральную падрыхтоўку сярод насельніцтва Заходняй Беларусі, у заданьні Булак-Балаховіча ўваходзіла задача рабіць бандыцкія дывэрсыі, а на выпадак ўдачы і ажыцьцяўленьня інтэрвэнцкіх плянаў, гэты кат намячаўся вайсковым міністрам.

Беларуская контррэволюцыйная група не абмяжоўвалася сувязьзю з нацыянал-фашыстамі па-за межамі Саюзу. У мэтах коордынацыі дзейнічаньня і ўзаемадапамогі яна зьвязваецца з контррэволюцыйнымі шкодніцкімі організацыямі ўнутры Саюзу.

Контррэволюцыйная група беларускіх нац.-дэмократаў падтрымлівае сувязь з яфрэмаўшчынай або так званым Саюзам вызваленьня Украіны і разам з апошнім бярэ орыентацыю на адну і тую-ж імпэрыялістычную дзяржаву.

Група мела зносіны з контррэволюцыйнымі організацыямі Кандрацьевых—Громанаў і праз выхаванцаў Кандрацьева, Гарэцкага, Ждановіча, і інш. разводзіла і ў тэорытычнай і ў практычнай галінах „кандрацьеўшчыну“ на тэрыторыі БССР. Гэтая сувязь з рускай контррэволюцыяй тлумачыцца агульнасьцю іх экономічнай програмы, якая мела на мэце затрымаць індустрыялізацыю БССР, у мэтах яе аграрызацыі з тым, каб зрабіць Беларусь пляцдармам концэнтрацыі сіл супроць чырвонай Масквы.

Вось у асноўным пляны, задачы і колы дзейнасьці групы контррэволюцыйных беларускіх нацыянал-дэмократаў.

Для рэалізацыі пастаўленых задач група намеціла падрабязна распрацаваную тактыку. Гэта тактыка паводле паказаньня аднаго з кіраўнікоў групы ў асноўным зводзілася да наступнага: а) групаваньне і зьбіраньне нацыяналістычных сіл у мэтах іх скарыстаньня ў патрэбны момант, б) уплыў праз сваіх членаў, якія працуюць у розных установах на політыку савецкай улады, у напрамку забесьпячэньня „мірнага“ правядзеньня іх буржуазнай рэстаўратарскай програмы; в) захоп важнейшых стратэгічных вучасткаў на ідэолёгічным фронце і камандных пасад у розных установах рэспублікі; г) узмацненьне контакту і сувязі з зарубежнымі

контррэволюцыйнымі організацыямі; д) нацыяналістычная работа сярод моладзі.

Гэтая тактыка ўнутры БССР была разьлічана на паступовы захоп камандных вышынь, на стварэньне цэнтраў ва ўсіх вузлавых пунктах нашага будаўніцтва, на шкодніцтва—такая форма мірнай інтэрвэнцыі капіталу.

Як-жа яны ажыцьцяўлялі сваю тактыку? Праз сваіх людзей у органах Наркамзему (Прышчэпаў, Смоліч і інш.) праводзілася работа па ўзмацненьні капіталістычных элемэнтаў вёскі, па ўзмацненьні кулака. Адгэтуль політыка хутарызацыі Беларусі, адгэтуль стаўка на так званыя „культурныя“, а ў сапраўднасьці кулацкія гаспадаркі.

Пад гэтую практычную работу ў галіне зямельнай політыкі Гарэцкі, Кісьлякоў і той самы Смоліч падводзілі тэорытычную базу.

Захапіўшы ў свае рукі рад навукова-дасьледчых устаноў (БАН, НДІ) і рад катэдраў у вышэйшых навучальных установах контррэволюцыйныя нац.-дэмократы імкнуліся падрыхтаваць сабе навуковую зьмену.

Праз Наркамасьветы на чале з Баліцкім яны сыстэматычна дабіваліся зрыву падрыхтоўкі пролетарскіх кадраў і праводзілі работу па выхаваньні моладзі ў нацыяналістычным напрамку.

Асаблівую ўвагу яны зварочвалі на апрацоўку літаратурнага „Маладняка“. Праз Дубоўку, Зарэцкага і іншых вялася работа па адрыву ад літаратурнай організацыі „Маладняк“ лепшых літаратараў і вярбоўцы іх у нацыяналістычны лягер. У тым-жа напрамку ішла далейшая работа асабліва ў літорганізацыях „Узвышша“ і „Полымя“.

Свае нацыяналістычныя тэорыі і погляды яны або пропагандавалі непасрэдна, або выкарыстоўвалі нацыянал-опортуністаў, як свой рупар. Так мы бачым, што Ластоўскі стварае сваю контррэволюцыйную „крыўскую“ тэорыю, Гарэцкі і Смоліч ствараюць тэорыю аб дэколёнізацыі Беларусі пры царызьме. Гэтая тэорыя павінна амніставаць усю мінулую дзейнасьць вялідзяржаўжаўнага колёнізатарскага капіталу. Гэтыя тэорыі павінны даць аснову для блёку з аднаго боку з польскай контррэволюцыяй і з другога—з рускай белагвардзейшчынай дзеля аб'яднаньня сіл контррэволюцыі ў змаганьні супроць пролетарскай дыктатуры.

Свае тэорыі аб беларускай самабытнасьці аб орыентацыі на „культурны“ захад у процілегласьць чырвонай Маскве яны праводзяць рукамі нац.-опортуністаў—дыскусыі аб шляхох беларускага кіно і тэатру (Зарэцкі, Глыбоцкі, Жылуновіч) і інш. У мастацкай літаратуры гэтыя тэорыі знаходзяць свае выяўленьне ў творах Глыбоцкага „Вецер з Усходу“, М. Зарэцкага—роман „Крывічы“ і інш.

Тэорыя аб мэсыянскай ролі інтэлігенцыі пропагандуецца Трамповічам—„Шляхі беларускай інтэлігенцыі“, Дубоўкай у яго поэме „І пурпуровых ветразей узьвівы“.

Поруч з гэтым актыўна праводзіцца работа па ідэалізацыі мінулага Беларусі—сьвяткаваньне 400-годзьдзя беларускай прэсы і юбілей Ска-

рыны, ідэалізацыя шляхецкага рэволюцыянэра Кастуся Каліноўскага ідэалізацыя сярэднявецкага пісьменства праз падручнікі па гісторыі беларускай літаратуры, напісаныя М. Гарэцкім, Чаржынскім, Піотуховічам. Адначасова праводзіцца організацыя дробна-буржуазных беларускіх пар, тый, як БСГ. Праводзіцца работа ў галінах такіх навук як гісторыя лінгвістыка, географія і г. д.

Проф. Доўнар-Запольскі дае „навуковую" працу, у якой, як ужо было адзначана, ён імкнецца давесьці што ў сялянскай Беларусі Кастрычніцкая рэволюцыя мела не пролетарскі, а пераважна сялянскі характар і г. д.

Усе гэтыя тэорыі патрэбны ім, каб угрунтаваць асноўны свой тэзіс— адмовы ад гегемоніі, ад дыктатуры пролетарыяту на тэрыторыі Беларусі, каб абгрунтаваць неабходнасьць адрыву Беларусі ад Савецкага Саюзу,

Беларуская контррэволюцыя ніколі ня мела і зараз ня мае аніякага падтрыманьня сярод працоўных мас БССР. У часе змаганьня за Кастрычнік на Беларусі працоўныя масы не пашлі за здраднікамі, якія лізалі боты і Вільгельму і Пілсудзкаму, і рускай белагвардзейшчыне. Не пашлі яны і за „лістападаўшчынай", якая таксама ставіла стаўку на безадкладнае адкрытае нізрынуцьце савецкай улады. І сёнешнія падзеі, як і падзеі недалёкага міналага, сьведчыць аб тым, што ў асяродзьдзі працоўных мас *беларуская контррэволюцыя ня знойдзе ніякага падтрыманьня.*

Група контррэволюцыйных нацыянал-дэмократаў зьбіралася рэалізаваць свае пляны пры дапамозе міжнароднай буржуазіі, пры дапамозе інтэрвэнтаў, якія павінны былі быць падтрыманы выступленьнямі кулацтва і нацыяналістычна-буржуазнай інтэлігенцыі ўнутры краю. Гэта сьцьвярджаецца і паказаньнямі аднаго з кіраўнікоў контррэволюцыйнай групы, які наконт гэтага піша: „нашай канчатковай мэтай было нізрынуцьце савецкай улады і ўстанаўленьне беларускай народнай рэспублікі пад протэкторатам Польшчы".

Аб тым, што нясе сёньня працоўным БССР інтэрвэнцыя, паказчыкам зьяўляецца хаця-бы ўжо тое, што актыўная роля ў гэтай інтэрвэнцыі адводзілася будучаму беларускаму вайсковаму міністру Булак-Балаховічу. Працоўныя БССР добра памятаюць яго бандыцкія налёты на беларускія вёскі і мястэчкі, катаваньне і забойства сялян, масавае забойства яўрэйскіх жыхароў у мястэчках, гвалтаваньне жанчын, рабункі і пажары. Мора крыві, фізычнае зьнішчэньне пролетарыяту і лепшых прадстаўнікоў бядняцка-серадняцкай вёскі—вось што праз дапамогу контррэволюцыйных нац.-дэмократаў прынесла-б нам інтэрвэнцыя.

**Байка аб незалежнасьці**

Трэба раз назаўсёды разьвеяць легенду, якую распаўсюджваюць— контррэволюцыйныя нацыянал-дэмократы аб тым, нібы яны зьяўляюцца ініцыятарамі і змагарамі за незалежнасьць Беларусі.

Незалежную, пролетарскую беларускую дзяржаву, увайшоўшую добраахвотна на роўных правох у вялікі Савецкі Саюз, даў чырвоны Кастрычнік.

Беларускія нацыяналістыя яшчэ ў часы рэволюцыі 1905 г. у часы „Нашай Нівы" ня йшлі далей ангельскага дамініона для Беларусі ў межах конституцыйнай расійскай монархіі. За часы лютаўскай рэволюцыі. за часы „керанщчыны" іх патрабаваньні ня ішлі далей патрабаваньня аўтономіі для Беларусі ў межах Расійскай фэдэратыўнай буржуазнай рэспублікі. У часы змаганьня за Кастрычнік на Беларусі, каб толькі не дапусьціць панаваньня пролетарскай дыктатуры, беларускія нацыяналістыя сёньня аддаваліся на міласьць кайзэру Вільгельму, заўтра Пілсудзкаму, ня грэбавалі яны пайсьці на ўклон і да Дзянікіна і яго шэфа францускага генэрала Бартэле.

Гэтай байцы аб незалежніцкіх імкненьнях нацдэмократаў трэба пакласьці канец.

Працоўныя БССР перакананы, што тут справа ідзе не аб „незалежнасьці", справа ідзе аб аднаўленьні капіталістычнага ладу шляхам нізрынуцьця пролетарскай дыктатуры. Аб гэтым сьведчаць найлепш паказаньні Краскоўскага, які гаворыць аб наступных патрабаваньнях і ажыцьцяўленьні іх програмы: першым пунктам іх пляцформы зьяўляюцца— „організацыя экономічных адносін на прынцыпе права прыватнай уласнасьці на зямлю, прадпрыемствы, рухомую і нярухомую маемасьць (поўнага і неадкладнага)". У гэтым пункце ўся сутнасьць змаганьня беларускага кулацтва і буржуазіі. Мы бачым, што не аб незалежнасьці ідзе справа, бо гэтую „незалежнасьць" яны думалі ажыцьцявіць пад крылом польскага белага арла, справа ідзе аб аднаўленьні прыватнай уласнасьці, аб аднаўленьні права буржуазіі на эксплёатацыю працоўных, справа ідзе аб нізрынуцьці пролетарскай дзяржавы.

Выкрыцьцё шэрагу контррэволюцыйных шкодніцкіх організацый ва ўсім Саюзе разам з выкрыцьцём беларускай контррэволюцыйнай групы яшчэ раз сьцьвярджае вялікую думку т. Леніна аб тым, што ў пэрыод дыктатуры пролетарыяту супраціўленьне буржуазіі ў дзесяткі раз узмацняецца, што клясавая барацьба набывае асабліва востры характар.

Поруч з актывізацыяй беларускіх нацыянал-дэмократаў, ідзе актывізацыя шовіністых іншых колераў вялікадзяржаўных, яўрэйскіх, польскіх і інш. Усе яны аб'яднаным фронтам вядуць барацьбу супроць нацыянальнай політыкі комуністычнай партыі. Бязупыннае змаганьне з вялікадзяржаўным шовінізмам, з контррэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмократызмам і шовінізмам іншых колераў павінна быць у цэнтры нашай увагі.

Праз узмацненьне тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, тэмпаў культурнай рэволюцыі праз інтэрнацыянальнае выхаваньне працоўных мас, мы выкарчуем карэньні варожых нам шовіністычных плыняў.

Перад пагрозай інтэрвэнцыі аддамо ўсе сілы на ўзмацненьне абароназдольнасьці краіны, каб зрабіць БССР непарушным форпостам савецкага Саюзу.

**Нашы задачы**

Комуністычная партыя Беларусі праз увесь час вяла і праводзіць барацьбу з вялікадзяржаўным рускім шовінізмам, беларускім нацыянал-дэмократызмам і шовінізмам іншых колераў.

„Вялікадзяржаўны шовінізм, выступаючы і ў адкрытай і ў захаванай форме часта пад відам звышінтэрнацыяналізму аб „перавашнасьці" рускай культуры, імкнецца рэвізаваць нацыянальную політыку партыі.

Політычны клясавы зьмест гэтых спроб дабіцца аднаўленьня „праў" вялікарускай буржуазіі на прыгнечаньне нацыянальных меншасьцяй. Вялікадзяржаўны шовінізм спрыяе абвастрэньню шовінізмаў другіх колераў, і ва ўмовах Беларусі ў першую чаргу беларускага нацыяналізму. Непрымірымая барацьба з праявамі вялікадзяржаўнага шовінізму павінна быць узмоцнена ў штодзеннай працы ўсіх зьвеньняў партыйнай і профэсіянальнай організацыі. Павінны быць узмоцнены тэмпы беларусізацыі як неабходнай прадпасылкі для далейшага пасьпяховага будаўніцтва беларускай культуры, нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зьмесьце. Пролетарыят павінен цалкам аўладаць каманднымі вышынямі на ідэолёгічным фронце. Дзеля гэтага неабходна весьці сыстэматычную працу падрыхтоўкі карэнных пролетарскіх кадраў. Справа культурнага будаўніцтва БССР—справа саміх рабочых. Дзеля пасьпяховага яго завяршэньня—уся пролетарская грамадзкасьць павінна па-баявому мобілізавацца на інтэрнацыянальнае выхаваньне мас, на растлумачэньне ленінскай нацыянальнай політыкі партыі на кожным прадпрыемстве, у кожным цэху, у кожнай зьмене, у колгасе і саўгасе. Гэтым-жа зьместам павінна быць прасякнута работа клюбаў. Бальшавіцкае пасьлядоўнае правядзеньне нацыянальнай політыкі—лепшы адказ пролетарыята на спробы контррэволюцыянэраў нацыяналістаў змагацца супроць дыктатуры пролетарыяту. Узмацненьне тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва—лепшы адказ інтэрвэнтам.

БССР мацнее. Яна была і застанецца моцнай крэпасьцю Саюзу на мяжы з міжнародным імпэрыялізмам" *).

*) З перадавіцы газ. „Рабочий" ад 30-XI 1930 г.

# КНІГАПІС

**Майкль Голд. Праклятыя агітатар.**

*Пераклад з расійскае мовы В. Сташэўскага. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск—1930 г. Тыраж 5.000 экз. 104 стар. Цана 35 кап.*

Майкль Голд, як пісьменьнік, расьце з кожным годам. У амэрыканскай пролетарскай літаратуры ён зьяўляецца цэнтральнай асобай і як новэлісты, і як поэт, і як драматург і, нарэшце, як публіцыст і рэдактар. Кола герояў Майкла Голда шырокае. Яно сапраўды інтэрнацыянальнае, але соцыяльна адзінае. Гэта нявольнікі капіталізму, беднякі эмігранты ўсходняй і заходняй Эўропы, нэгры і прадстаўнікі іншых прыгнечаных колёніяльных народаў. Голд умее ў простых рысах, але выразна і яскрава паказаць, як капіталізм зрабіў з прыгожай зямлі жудасную турму для мільёнаў бедакоў. Праўда, ён рэдка выходзіць у сваіх творах за межы маўклівага абурэньня. Пануючай ноткай у іх зьяўляецца сум аб нядолі працоўных. Гэтыя мотывы гучаць у творчасьці Голда значна часьцей, чым мотывы нянавісьці да капіталістычнага ладу. Аб прычынах гэтага, ня будучы дасканала знаёмым з усёй творчасьцю Голда і гісторыяй разьвіцьця амэрыканскае пролетарскае літаратуры, гаварыць цяжка. Быць можа гэта залежыць ад ступені, на якой знаходзіцца зараз рэволюцыйны рух амэрыканскае рабочае клясы, быць можа тут граюць некаторую ролю і якія-небудзь суб'ектыўныя і об'ектыўныя ўмовы.

Далей трэба адзначыць другую асаблівасьць аўтара. Майкл Голд зьяўляецца пераважна песьняром амэрыканскага люмпэн-пролетарыяту. Іменна гэты рабочы адзіночка, эксплёатуемы дробны рамесьнік, а не індустрыяльны рабочы, рабочы ў масе зьяўляецца яго ўлюбёным героем. І вось нялічаныя пакуты і сьлёзы яго яскравымі фарбамі незаўраднага мастака паказвае сьвету аўтар.

У зборніку зьмешчаны сем апавяданьняў і кароценькая прадмова Вільяма Д. Хэйвуда.

Я ня буду спыняцца падрабязна на кожным з гэтых апавяданьняў. Яны вельмі тыповы для творчасьці Голда і досыць поўна характарызуюцца толькі што прыведзенымі заўвагамі. Варта адзначыць толькі яшчэ адну цікавую рысу. З шасьці апавяданьняў з амэрыканскага жыцьця ніводнае ня мае сваім героем амэрыканца. Тут ёсьць паляк Курыловіч, ангелец Браун, мэксыканец Окзалес, яўрэй—сын эмігранта з Расіі, італьянская дзяўчына, нэгр, індус.

Бязумоўна, БДВ вельмі добра зрабіла, выдаўшы ў сэрыі „Інтэрнацыянальнае выхаваньне мас“ гэтую кніжку. Тым больш, што гэта папоўніла нашу вельмі небагатую перакладную літаратуру. Праўда, гэтыя апавяданьні, відаць, належаць да раньняга пэрыоду творчасьці Голда і ў далейшым, можна спадзявацца, што на беларускай мове зьявіцца яшчэ не адзін пераклад твораў гэтага маладога і таленавітага аўтара.

Шкода толькі, што кніжка выдадзена вельмі неахайна:

*Па-першае,*—навошта было рабіць

пераклад з „расійскага аўтэнтыку“? Калі ў некаторых выпадках (напр., пры перакладзе японскай літаратуры) гэтага нельга ўнікнуць, а ў іншых (як дзіцячае літаратуры) яшчэ можна часам дапусьціць, дык у даным выпадку пераклад ад гэтага вельмі многа страціў. У Майкла Голда надзвычайная багатая, насычаная, сакавітая мова, а ў гэтым перакладзе з перакладу ад яе не засталося і ценю. Мала таго, часам сустракаюцца такія недарэчнасьці, як... „*над галавою*, нібы казачнае страшыдла, *шумелі вагоны мэтраполітэна*“ ст. 65 (па-нашаму гэта падземная гарадзкая чыгунка), стылістычна неапрацаваныя звароты. Між іншым, зусім няправільна напісана імя аўтара.

У ангельскай мове няма зьмякчанага „л“ і таму не павінна быць ніякіх мяккіх знакаў.

*Па-другое*, — прадмова Вільяма Д. Хэйвуда абрываецца на [illegible] г. Ні слова ня сказана пр[illegible]цу Голда, як аднаго з організатараў і рэдактара часопісі „New Masses“— „Новыя масы“, вакол якога групуюцца амэрыканскія рэволюцыйныя пісьменьнікі.

Наогул, прымаючы пад увагу, што нашы чытачы зусім незнаёмы з амэрыканскай пролетарскай літаратурай, трэба было даць больш грунтоўны ўводны артыкул.

Праўда, гэтыя недахопы будуць зусім зразумелымі, калі прыняць пад увагу, што ў нас пераклады замежнай літаратуры ідуць самапасам, а сур‘ёзна ніхто імі ня цікавіцца.

Тав. Бела Ілеш у часе свайго нядаўняга прыезду ў Менск зусім справядліва адзначыў, як ненормальнае зьявішча, што БелАПП дагэтуль ня прыймаў удзелу ў працы Міжнароднага Бюро Рэволюцыйнае Літаратуры.

Таксама і ў справе перакладаў лепшых твораў пролетарскіх і рэволюцыйных пісьменьнікаў Захаду мы ганебна адсталі ад іншых рэспублік Савецкага Саюзу.

Трэба спадзявацца, што зараз пасьля Харкаўскага пленуму МБРЛ БелАПП з уласьцівай яму энэргіяй возьмецца за ліквідацыю гэтага прарыву ў нашай літаратуры.

Выдавецкаму аддзелу БДВ, каб найбольш пасьпяхова выконваць справу ўключэньня беларускай пролетарскай літаратуры ў адзіны інтэрнацыянальны фронт пролетарскай і рэволюцыйнай літаратуры, трэба, на маю думку, організаваць спэцыяльную сэкцыю іншакраёвай літаратуры, якая ў сыстэматычным і плянавым парадку і знаёміла-б беларускія працоўныя масы з рэволюцыйнай літаратурай Захаду.

Нарэшце, у другую чаргу, варта было-б паставіць пытаньне і аб выданьні на беларускай мове лепшых узораў клясычнае сусьветнае літаратуры.

**Аркадзь Лясны.**

31/X 1930 г.

## „Ветразі“ зборнік вершаў Т. Кляшторнага

*БДзВ. 1929 г. Тыраж 3.000. Бал. 128. Цана 90 кап.*

Зборнік „Ветразі“ зьяўляецца трэцім па ліку зборнікаў Т. Кляшторнага (першыя два „Кляновыя завеі“ і „Сьветацені“ вышлі ў 1927 і 1928 годзе). Зборнік „Ветразі“ ўмяшчае ў сябе вершы, напісаныя поэтай на працягу 1926—29 гадоў. Магутны росквіт соцыялістычнага будаўніцтва за гэты час, пераробка краіны з аграрна-індустрыяльнай у індустрыяльна-аграрную,—усе гэтыя зьявішчы ня могуць і не маглі не адлюстравацца ў тым ці іншым напрамку на поэце, які творыць у гэтую эпоху. Таму ня можна разглядаць „Ветразі“, як нешта застыгла-цэлае, а трэба на зборніку гэтым прасачыць ідэолёгічны шлях, праоблены поэтай за гэтыя чатыры гады, разьвіцьцё і напрамак разьвіцьця яго поэтычнага таленту. Для гэтага ёсьць усе прадумовы, бо ў зборніку сабраны рэчы найбольш характарныя для таго, ці

іншага часу творчасьці поэты. Ідэолёгічны-ж шлях, прароблены Кляшторным, зьяўляецца шляхам, надзвычай характарным для соцыяльнай групоўкі, узрасьціўшай яго, як мастака.

Калі ахарыктарызаваць у некалькіх словах творчы шлях Кляшторнага па „Ветразях", дык найбольш будзе адпавядаць выраз,—„ад упадніцтва да саюзьніцтва з пролетарыятам". 1927 год зьяўляўся ў творчасьці Кляшторнага годам найбольшага ідэолёгічнага адыходу ад пролетарыяту. Выяўляючы ў пачатку сваёй творчасьці імкненьне да „прывабнасьці гарадоў", „сталёвых салаўёў" і г. д., Кляшторны паказаў у далейшым, што гэта было толькі вонкавым захапленьнем, што адзінай, што сапраўды прыцягнула яго да сябе ў горадзе, была богема. Пачынаючы з верша „На ледзяной гітары" выяўляць адыход ад прогрэсыўных зьявішч жыцьця, поэта дасягае ў сваёй творчасьці апогея разьвіцьця богемы ў поэме „Калі асядае муць". Большасьць вершаў, датаваных 1927 годам і зьяўляецца сугучнымі ўпадніцкаму настрою згаданай поэмы. Поэта пэсымістычна глядзіць на жыцьцё („Не дагонім бэзавыя крозы" (39), „і сьлёзна, і горна, я міжвольна заплакаць гатоў" (26), „сьняцца аджытаму сны залатыя, толькі дарэмныя сны" (86), „сумна тут... ды ад чаго" (23). Не знаходзячы сабе месца ў ім, губіць усякую веру ў жыцьцёвыя пэрспэктывы і ставіць пытаньне аб тым, што

„ці атруцім жальбу ці згарым" (46).

Нездаровыя погляды поэты на каханьне, як на нешта хвіліннае, што толькі „хвалюе сэрца" выклікаюць радкі „шчасьце заўсёды хвіліна" (40) ці

„Не адна ты сэрца хвалявала,
Не адна;
Выпівай-жа палкія бакалы,
пі да дна" (39).

Адносіны ў творчасьці да жанчыны ў мастацкім паказе зьвязаны з богемай, ці з алькоголем. То чытачу ўяўляецца аўтар, які з-за здрады каханай

„...доўгія ночы бяз сна
Праводзіць да сіньняга раньня
За шыпучым бакалам віна" (45),

то аўтар робіць асаблівы націск на простытуцыі, зусім ня шукаючы шляхоў яе зьнішчэньня, ні нават не вытлумачваючы яе карэньняў (86), то ён шукае псыхічнага адпачынку на вобразах прыроды, ідэалізуючы „беларускую лэдзі—векавую бярозу" (26). Адным словам, здаровага поўнацэннага, жыцьцярадаснага каханьня мы ў гэты час у творчасьці Кляшторнага ня бачым. Гэта консоніруе з агульным, нездаровым напрамкам яго творчасьці ў той час. Адарваўшыся ад працоўнага процэсу вёскі, не далучыўшыся органічна да працоўнага процэсу гораду, поэта паказвае шляхам сваёй творчасьці ўсё большую дэклясацыю, якая ўрэшце робіць яго творчасьць зусім далёкай ад нашае сучаснасьці. У вершах таго часу, якія проста не адлюстроўваюць богемы, ці ўпадніцтва, аўтар імкнецца ўнікнуць усякіх грамадзкіх проблем, зводзячы вершы ў ролю анэкдотаў („Адважная паненка").

Вершы, датаваныя 1928 годам маюць у асноўным той самы напрамак, хоць пры больш глыбокім аналізе тут можна ўбачыць *колькаснае* накапленьне тэм прогрэсыўнай сучаснасьці. Тут ёсьць ужо вобраз дзяўчыны, „якая прамяняла сяло на рабфак" (38), ёсьць у вобразе сямейнага прымуса ганьбаваньне мяшчанска-сямейнага спакою (47) (праўда, аўтар не дае ў вершы таго, што павінны замяніць сабой сямейны прымус—узамен даюцца толькі „дальнія агні" без далейшай іх конкрэтызацыі), але гэта колькаснае накапленьне тэм яшчэ не ўсьвядомліваецца аўтарам, не зьмяняе якасьці яго поэтычнай продукцыі. У гэты самы час аўтар піша поэму „Беларусь", зьмешчаную таксама ў зборніку ў разь-

дзеле IV, у якой соцыяльныя пытаньні зусім не разьвязваюцца ў сучасным аспэкце, якая напісана бязумоўна пад уплывам нацдэмакратызму. Тут-жа ёсьць удаваньне ў тэмы мінуўшчыны, як і ў шмат якіх другіх вершах 29 году. Богема ў гэты час у творчасьці амаль зьнікае, хоць тыя самыя нездаровыя адносіны да каханьня яшчэ ёсьць

„хай я сто тысяч жанаты,
Ты не зважай, не зважай" (41)

Час гэты можна ахарактарызаваць, як час набліжаючагася пераломy ў творчасьці поэты, але яшчэ без рашучага адрыву ад упадніцкіх настрояў. Шуканьне неабходных для пісьменьніка сучасных тэм, няпэўнасьць у іх выбары, аднačасова з упадніцтвам, якое яшчэ ня выветрылася з творчасьці поэты, ці, інакш кажучы, нерашучасьць і адсутнасьць волі ў выбары новых шляхоў разьвіцьця творчасьці,—усё гэта заводзіць поэту ў творчы тупік і назрэлы пералом у творчасьці вырываецца ў выглядзе вершу „Ці варта сёньня быць поэтай?" Тут чуецца поўная разгубленасьць поэты. Ён заклікае:

„А дзе тут праўда, дзе памылка?
Ну памажэце-ж разабрацца!" (59).

Ён зусім шчыра кажа, што „часамі сьмеласьці бракуе прысьці да нейкіх пэўных рэчаў" (58), але тут-жа ён ва ўсю шырыню ставіць пытаньне аб тым

„...ці не страшэнная памылка
У час вялікі будаўніцтва
На леры лерніку пілікаць..." (58)[1])

і далей

„Ці некарысьней ля варштата
Аддаць душу сваёй краіне?" (58)

і сьцьвярджае ўрэшце

„...сягонешні поэта
Павінен даць і стыль эпохі" (60)
...Не пакідаць грамадзкай варты,
Не пакідаць сваёй трыбуны" (59)

Як бачна, пералом у творчасьці поэты, пералом у бок да сучаснасьці ясна назрэў і выявіўся ў гэтым вершы. Савецкая грамадзкасьць вуснамі „Чырвонай зьмены" дала поэце, праўда, далёка не вычарпальны, але ў асноўным правільны адказ, што і лірыка патрэбна пролетарыяту, але такая лірыка, якая раджае ў чытача бадзёрыя, рэволюцыйныя настроі.

Пералом у творчасьці пасьля гэтага вершу адбываецца ўсё-ж павольна. Прычынай гэтага можна назваць часткова і недастатковае рэагаваньне крытыкі на творчасьць поэты і, ня гледзячы на агульную раду „Чырвонай зьмены", усё-ж нявызначанасьць конкрэтных поэтычных шляхоў поэты. 1929 год праходзіць у творчасьці Кляшторнага яшчэ ў шуканьнях. Тут ёсьць ужо, аднак, імкненьне пераробкі чалавека („я не артыст") і сьцьверджаньне аб тым, што

„якое шчасьце сёньня працаваць...
...для нас пасыўнасьць сёньня
невядома..." (74)
Ці хто хоча працаваць,
Той бараніць за гонар лічыць" (72)

і аднačасова з гэтым боль чалавека, які „сябе для грамады назаўсягды таксама страціў" („Растратчык"). Гэты верш зьяўляецца, на наш погляд, досыць характарным для часу творчага пераломy поэты, бо ў выглядзе растратчыка поэта баіцца ўбачыць самога сябе, баіцца, каб не застацца за бортам жыцьця, у той час, як раней ён толькі вызнаваў, што „за сьцяной рэсторану... другое жыцьцё" („Узвышша" № 6 за 1927 г.). Ня гледзячы на творы амаль што цалкам абмалёўваючыя мінулае, ці „цені мінулага" („Цені даўняга" ст. 9—20), поэта ўсё-ж даволі шчыльна падыходзіць да тэй сучаснасьці. Імкненьне перабудовы свайго творчага шляху

---

[1]) Калі гэты верш друкаваўся ў „Чырвонай зьмене" радок гэты быў „на леры *плакаць* (курсыў наш—А. Ц.) і пілікаць". Пераработка, як бачна, пазьнейшая і няўдалая, бо першы варыянт значна больш пасаваў агульнаму настрою вершу.

ё

сьць. Ёсьць ужо зусім акрэсьленая перавага прогрэсыўных зьявішч сучаснасьці над рэгрэсыўнымі ў творчасьці поэты. Але *ўсебакова* ўспрыняцьця і ўсьведамленьня гэтых зьявішчаў яшчэ няма. Няма ў зборніку і сталага новага напрамку творчасьці поэты. Аб ім можна толькі здагадвацца. Новы шлях творчасьці вызначаецца больш пуката па-за межамі зборніка ў поэмах „Сны“ („Узвышша“ № 1 за 1930 год) і „Палі загаманілі“ (там-жа № 4, 5). Але іх разглядам мы тут займацца ня будзем. Па зборніку мы бачым шуканьне новых шляхоў творчага разьвіцьця Кляшторнага, шуканьне, якое пасьля шматлікіх хістаньняў пачынае набываць належнае рэчышча.

Што да тэхнічных момантаў, дык можна пашкадаваць, што аўтар не пад усімі вершамі даў даты напісаньня. Можна не згадзіцца і адносна размяшчэньня вершаў па разьдзелах. Так, эпіграф першага разьдзелу зусім не апраўдае зьмяшчэньне ў ім верша „Мая любімая“. Вершы з другога разьдзелу, як „Аб мінулым“ і „Чырвоны і белы“ больш падыходзяць да першага разьдзелу ў той час, як да другога разьдзелу больш падышоў-бы верш „Ці варта сёньня быць поэтай?“ зьмешчаны ў трэцім разьдзеле, як і верш „Я не артыст“. Выдадзены зборнік здавальняюча. Назва зборніку мала падыходзіць да яго зьместу. Дрэннае ўражаньне робіць шкодная памылка на вокладцы—замест „Т. Кляшторны“, надрукавана „Г. Кляшторны“. Але гэта дробязі.

**Ал. Цітоў.**

## БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Выйшлі з друку кнігі *Кузьмы Чорнага*: „Нянавісьць“, „Буры“ і „Лявон Бушмар“.

— *К. Чорны* піша для БДТ-2 п'есу на тэму пра колектывізацыю вёскі.

* *Максім Лужанін* здаў у друк кніжку для дзяцей пад назвою „Аднагодкі пяцігодкі“.

* Выйшлі з друку ў сэрыі „Мастацкае слова масам“ тры кніжкі *Крапівы*: „Ухабы на дарозе“, „Жывыя праявы“ і „Пра нашых шкоднікаўпапоў і ўгоднікаў“ (антырэлігійная).

— Выходзіць з друку трэцім выданьнем яго-ж зборнік сатыры „Крапіва“.

* *Зьмітрок Астапенка* друкуе кніжку вершаў пад назвою „Краіне“ і дзьве кніжкі для дзяцей — „Элькавы прыгоды“ і „Трактар“.

— Здаў у БДВ зборнік вершаў „Пульс Рэспублікі“.

* Выйшлі з друку кнігі *Міколы Нікановіча*: зборнік апавяданьняў „Вясновы прамень“ і аповесьць „Мяцеліца“.

— Выходзіць з друку асобнай кнігай яго аповесьць „У паўстанцаў“.

— Друкуецца зборнік выбраных яго апавяданьняў для чырвонаармейцаў пад назвою „Партызаны“.

* Выйшла з друку асобным выданьнем поэма *Тодара Кляшторнага* „Палі загаманілі“.

* *Алесь Звонак* здае ў БДВ новую кнігу сваіх вершаў.

— Друкуецца асобным выданьнем яго поэма „Загай“.

* *Міхась Зарэцкі* піша роман „Сьмерць Андрэя Беразоўскага“.

— Выходзяць асобнай кніжкай яго нарысы пра колектывізацыю пад назваю „Лісты ад знаёмага“.

* Друкуецца другая кніжка вершаў *Сьцяпана Ліхадзіеўскага* „Рокаты дальняй прыстані“.

* Выйшла з друку кніжка апавяданьняў *Платона Галавача* „Хочацца жыць“.

* Выйшла з друку новая кніжка нарысаў *М. Зарэчнага*.

* Вышла з друку кніга вершаў *М. Хведаровіча* „Рытмы“.

— Прынята да друку новая кніжка яго вершаў „Тэмпы-контрасты“.

* Вышлі дзьве кніжкі прозы *Сымона Баранавых*: аповесьць „Межы“ і „Чужая зямля“.

— Ён-жа працуе над новай аповесьцю з колгаснага жыцьця.

* Друкуецца трэцяя кніга нарысаў *С. Знаёмага* пад назваю „За дамбай“.

* Друкуецца асобнай кніжкай багата ілюстраваны нарыс *Іл. Барашкі* „Асінстан“. Мастацкае афармленьне кнігі мастака *Васільлева*.

* *Анатоль Вольны* друкуе асобным выданьнем сваю аповесьць „Антон Савіцкі“.

— Піша цыкл апавяданьняў „Далёкая ўсходняя“.

— Выходзіць трэцім выданьнем ягоная аповесьць „Два“.

* *Рыгор Мурашка* друкуе ў БДВ кнігу апавяданьняў пад назваю „Званкі“

— Ён-жа працуе над новым раманам.

* Выйшла з друку аповесьць *А. Гародні* „Варта на Рэйне“. Вокладка мастака *Б. Малкіна*.

* Выйшла з друку кніга поэзіі

*В. Маракова* „Вяршыні жаданьняў“. Вокладка *Смалянскага*.

* Зараз *В. Маракоў* рыхтуе да друку кнігу выбраных вершаў.

* *Юлі Таўбін* рыхтуе кніжку вершаў „Экзамен“.

* Па ініцыятыве Ўсесаюзнай Комуністычнай Акадэміі ў палове сьнежня гэтага году арганізуецца Беларускі тыдзень у Маскве з мэтай азнаямленьня шырокай пролетарскай грамадзкасьці Савецкага Саюзу з дасягненьнямі гаспадарчага і культурнага соцыялістычнага будаўніцтва БССР.

Пад старшынствам рэктара Ком. Акадэміі тав. Кержанцава створан шырокі грамадзкі камітэт па арганізацыі гэтага тыдню.

У гэты камітэт уваходзяць прадстаўнікі розных гаспадарчых і культурных організацый, прадстаўнікі профэсыянальных, партыйных, пісьменьніцкіх і мастацкіх організацый.

Камітэт запрашае прыехаць у Маскву прадстаўнікоў гаспадарчых і культурных організацый БССР—рабочых, колгасьнікаў, настаўнікаў, пісьменьнікаў, навуковых працаўнікоў, мастакоў, БДТ 1, польскі і яўрэйскі вандроўныя тэатры, беларускую капэлю, два клюбныя гурткі самадзейнасьці, ансамбль народных інструмантаў. Усяго едзе ў Маскву каля 250 чал.

Організуюцца 4 выстаўкі: гаспадарчых дасягненьняў, кніжная, школьная і выяўленчага мастацтва.

Намечана выдаць 4 кніжкі: аб гаспадарчым будаўніцтве, культурным будаўніцтве, аб літаратуры, а таксама літаратурны альманах.

* 6 лістапада ў Харкаве адкрыўся пленум Міжнароднага бюро рэволюцыйнай літаратуры. Ад БелАПП‘у выяжджае дэлегацыя ў складзе— Я. Ліманоўскага, Л. Бэндэ, П. Галавача і А. Сянькевіча.

Скончыўся пленум 15 лістапада. У міжнароднае бюро рэволюцыйнай літаратуры ад БелАПП‘у абраны Я. Ліманоўскі.

* У Менск з Масквы і Ленінграду прыяжджала брыгада пісьменьнікаў у складзе т.т.: Берзіна, Вайсенберга, Карнілава і Шыльдкрэта. Мэта прыезду брыгады—мобілізацыя рабочых на ліквідацыю прарываў. Брыгада выяжджала на Добрускую папяровую фабрыку „Герой працы“. На фабрыцы пісьменьнікі знаёміліся з вытворчасьцю.

У пляне працы брыгады было— абсьледваньне стану рабочага забесьпячэньня і культпрацы на фабрыцы. Немалое месца ў працы брыгады займала і рабкораўская вучоба.

* З мэтай популярызацыі і пашырэньня падпіскі на пэрыодычныя выданьні МОПР‘у—у Менску, Віцебску і Магілеве былі праведзены агульнагарадзкія конфэрэнцыі чытачоў мопраўскай літаратуры з пастаноўкай дакладаў аб значэньні мопраўскага друку ў інтэрнацыянальным выхаваньні мас і г. д.

* *Барыс Малкін* (мастак) працуе зараз над цыклем малюнкаў—„Стары Менск“, „Будаўніцтва“. Малюнкі будуць даны на грамадзкі прагляд, пасьля чаго пойдуць на Украінскую выстаўку.

* Мастак *Янка Ахрэмчык* апошнімі часамі займаецца дэкорацыйнаю працаю. Ён-жа аформіў убраньне Асінстану.

* Скульптар *Грубэ* працуе над статуем „Ленін“ для клюбу харчавікоў.

* Скульптар *З. Азгур* разам з *Арловым* зрабілі групу „Кастрычнік на Беларусі“. Група знаходзіцца ў Музэі Рэволюцыі.

* *З. Азгур* зрабіў для Музэю Рэволюцыі бюст т. Кнорына.

— Ён-жа зрабіў для Гістарычнага музэю бюст народнага артыстага БССР т. Галубка і скульптуру для яўрэйскага аддзелу „Трактарыста і будаўніка“.

* Скульптар *Грубэ* зрабіў барэльеф з дрэва—„Праца“. Прынята адпаведнай камісіяй для будучай карцiннай галярэі пры Гістарычным музэі.

* Набыта для будучай карцiннай

галярэі карціна мастака *Кастэлянскага* „Піонэры“.

* Набыты этуды *Лейтмана* (Віцебск) для карціннай галярэі пры Гістарычным музэі. Таксама набыты карціны мастакоў *Скаўроўскага, Бразэр* (малюнак Ягорава і інш.), *Тарасіка* і інш.

* Былое аб‘яднаньне мастакоў Беларусі „РОМБ“ з бязьдзейнай арганізацыі пераарганізоўваецца ў вялікую дзейную арганізацыю, куды будуць уваходзіць шмат мастакоў Беларусі.

Пры гэтай новай арганізацыі будуць утвораны філіі ва ўсіх гарадох БССР. Будзе ўтворана філія таксама ў Маскве і Ленінградзе.

* 18 лістапада споўняецца пяць год працы Белрадыёцэнтру. Да юбілею організавана ўсебеларуская радыёпераклічка па пытаньнях стану радыёфікацыі і радыёперадач ў БССР.

На кіно фабрыцы Белдзяржкіно скончана пастаноўка карціны „Суд павінен працягвацца“. Карціна адлюстроўвае змаганьне з дробна-буржуазнай моральлю і норавамі ў стаўленьні да жанчыны-работніцы. Рэжысэр карціны — *Дзыган*, опэратар — *Страж*.

* Скончана гукавая кіно інсцэніроўка поэмы беларускага пролетарскага поэты *Андрэя Александровіча* „Вызваленьне“. Праца вядзецца пад непасрэдным назіраньнем аўтара. Музыка напісана *Цітоцкім*. Рэжысэр *Ю. Тарыч*. Поэма запісана на двух мовах — беларускай і расійскай у перадачы М. Сьветлава.

* Да дня пуску Асінбуду — 8 лістападу Ленінградзкая фабрыка Белдзяржкіно выпусьціла фільм „Асінбуд“, які паказвае гісторыю пабудовы першай у БССР раённай дзяржаўнай электрастанцыі.

* Дырэкцыя Ленінградзкай фабрыкі Белдзяржкіно прыняла высунуты рабочымі фабрыкі на ўдарны квартал сустрэчны прамфінплян, які прадугледжвае павялічэньне пляну на два каротка-мэтральных політасьветных фільмы.

Работнікі фабрыкі вылучылі спэцыяльны штаб садзейнасьці будаўніцтву і пераабсталяваньню фабрыкі. Штаб вызначыў хутчэйшыя тэрміны выкананьня ўсіх будаўнічых работ.

* Кіно-карціна „Рубікон“, якая рабілася ўдарнай брыгадай кіно-фабрыкі БДК, атрымала ад Галоўрэпэрткому БССР першую катэгорыю на шырокім грамадзкім праглядзе, на якім прысутнічалі рабочыя розных фабрык і заводаў, студэнты Комвузу, прадстаўнікі розных грамадзкіх устаноў. Карціна прайшла з посьпехам.

На праглядзе прысутнічалі таксама прадстаўнікі нямецкай дэлегацыі, якія ў сваім выступленьні адзначылі вялікую мастацкую і палітычную каштоўнасьць карціны.

* 10 лістапада г.г. у Менску адбылося адчыненьне першага ў БССР гукавога кіно „Чырвоная Зорка“.

* У канцы сьнежня г.г. канчаецца пастаноўка карціны „Сонечны паход“ па сцэнарыю А. Вольнага. Рэжысэр А. Тарыч.

Карціна малюе колектывізацыю с. г. на Беларусі.

* Менскія тэатры і кіно ў часе „дэкады абароны“ бясплатна абслугоўвалі чырвонаармейскія часьці.

БДТ-І ставіў у памяшканьні тэатру спэктакль „Горад вятроў“. Беларускі вандроўны тэатр 20 лістапада ў доме селяніна даў пастаноўку „Дыктатура“. Музтэхнікум — 14 лістапада ў памяшканьні Дому Чырвонай арміі даў вялікі концэрт. Беларускі радыёцэнтр — 22 у памяшканьні Дому Чырвонай арміі організаваў вялікі сымфонічны концэрт.

Менскія кіно далі дармовыя для чырвонаармейцаў сэансы.

* У Менску адчыняецца Беларуская дзяржаўная студыя опэры і балету. Студыя опэры і балету мае два аддзяленьні — опэрнае і балетнае. Праз два гады студыя будзе рэорганізавана ў Беларускі опэрны тэатр.

Для выкладаньня запрошаны про-

фэсары Беларускага унівэрсытэту. Таксама запрошаны шэраг выкладчыкаў па музыцы і балету з Масквы і Ленінграду.

Мяркуецца організацыя выездаў у часе абедзенага перапынку на прадпрыемствы для дачы концэртаў. Пры студыі організуецца мастацка-палітычны савет, у склад якога ўвойдуць прадстаўнікі буйнейшых фабрык Менску.

Студыі ўжо заказана лібрэта першай беларускай опэры, якая будзе атабражаць соцыялістычнае будаўніцтва Беларусі.

* Саўнарком БССР ухваліў даць годнасьць заслужанага артыста мастацкаму кіраўніку Беларускага дзяржаўнага яўрэйскага тэатру, тав. Рафальскаму.

Пастаўлена пытаньне аб пабудове ў 1931 годзе ў Менску, сіламі цэнтральнага кіраўніцтва дзяржцыркамі СССР, каменнага цырку.

* З восені 1931 году Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр намечаны да рэорганізацыі ў трэці Беларускі дзяржаўны тэатр. Колгасы і саўгасы БССР будуць абслугоўвацца выездамі організуемага ў 1931 г. пры Цэнтральным доме селяніна 1-ым Беларускім экспэрымэнтальна-ўзорным вандроўным тэатрам.

* Вялікая ўвага будзе адведзена на мастацкае абслугоўваньне раёнаў. Для гэтай мэты будуць організаваны 8 дзяржаўных беларускіх перасоўных тэатраў. Для абслугоўваньня піонэраў, вучняў і дзяцей вучнёўскага ўзросту ў канцы 1930 г. будзе прыступлена да організацыі Беларускага дзяржаўнага тэатру юнага гледача.

* Організаваўся Беларускі вокальны квартэт у складзе—*П. Валодзькі, К. Пуроўскага* (тэнары) і братоў *К.* і *М. Нікалаевічаў* (басы). Свае концэртныя выступленьні квартэт пачаў з кастрычніцкіх сьвят, абслужыўшы шмат рабочых клюбаў.

* СНК пацьвердзіў сваю пастанову ад 23 жніўня аб перадачы пад загад ВСНГ БССР лясного аддзелу Навукова-дасьледчага інстытуту імя Леніна і аб рэорганізацыі гэтага аддзелу ў Навукова-дасьледчы лясны інстытут, які будзе знаходзіцца ў Гомелі.

# УКРАЇНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Коцюба Г. піша роман „Сэрца". Дзея роману адбываецца на фоне будаўніцтва Днепрэльстану. Акрамя таго, працуе над зборнікам апавяданьняў, якія малююць сучасную вёску.

* Панч Пятро працуе над п'есаю „Варожа кровь" і над аповесьцю „Соняшний цех". Выдаў другім выданьнем у Гіз'е на расійскай мове „Голубі ешелоні", а ў Цэнтравыдавецтве на яўрэйскай мове.

* Багмут І. канчае нарысы „Подорож до небесніх гір"—уражаньні ад падарожжа ў Цэнтральны Цянь-Шань.

* Яноўскі Юрка друкуе новы роман „Чотири шаблі"; у ГІЗ-е на расійскай мове выдаў кнігу „Кров землі".

* Эпік Гр. выдаў у ДВУ „Том сатири"; у расійскай мове ў ГІЗ-е друкуе „Зустріч". Працуе над романам „В цехах".

* Городзіенка Дзьм. скончыў і выдае ў ДВУ роман „Тинда".

— Піша кніжку „Срибній край", мастацкі рэпортаж з акругі суцэльнай колектывізацыі Шэўчэнкаўшчыны.

— Працуе над апавяданьнем „Бабит".

* Масэнка Тэрэнь напісаў кніжку нарысаў „Жыва річка", якую выдае ДВУ.

— Апрацаваў і здаў у друк ДВУ кнігу поэзій „Норд Ост".

— Укладае для выдавецтва „Пролетарій" зборнік мастацкіх матэрыялаў „Глитаево абличча".

* Любчэнка Аркадзь выдае ў ДВУ апавяданьні: „Проста історыя", „Оповідання про утечу", „Дні юности" (III-м выданьнем), „Зяма", „Нечистий" і інш.

— Выданьнем ГІЗ-у РСФСР, у расійскай мове выдрукаваў кніжку апавяданьняў і аповесьцяй „Вертей".

— Напісаў новую новэлю „Кров".

— Працуе над творам пад назваю „Один день".

* Куліш М. працуе над п'есаю „Патэтична соната" (грамадзянская вайна на Украіне, роля інтэлігенцыі на першым этапе рэволюцыі).

* Інстытут ім. Шэўчэнкі зьбірае матэрыялы для організацыі вялікай франкаўскай выстаўкі ў Харкаве, для адзначэньня памяці Івана Франка, накшталт шэўчэнкаўскай, каб паказаць працоўным Украіны постаць славутага прадстаўніка украінскага пісьменства ў часы яго эпохі, а таксама паказаць уплыў заходня-украінскай літаратуры на Франка і ўплыў Франка на разьвіцьцё украінскай літаратуры аж да сягонешняга дню. Інстытут мае атрымаць каштоўныя матэрыялы з Львову. Шмат сучасьнікаў Франка, якія цяпер жывуць на Украіне, перадаюць розныя матэрыялы пра Франка з сваіх архіваў.

* Цэнтральная Камісія увечненьня памяці М. Коцюбінскага склала ўмовы з выдавецтвамі і асобна з ДВУ на выданьне твораў пісьменьніка. Аўтарскі гонорар пойдзе ў фонд Коцюбінскага.

З новых выданьняў твораў пісьменьніка трэба адзначыць поўнае выданьне твораў М. Коцюбінскага ў 4-х томах, якое выходзіць пад рэдакцыяю габінэту пашэўчэнкаўскай літаратуры інстытуту Тараса Шэўчэнкі.

Акрамя таго інстытут Шэўчэнкі здаў ДВУ зборнік, прысьвечаны ана-

лізу творчасьці Коцюбінскага раньняй эпохі.

Інстытут хутка выпусьціць другі том гэткага зборніка з навукова-дасьледчымі артыкуламі.

* Члены „Пролітфронту“ вядуць працу ў літаратурных гуртках на найбуйнейшых харкаўскіх заводах. „Пролітфронт“ вядзе сыстэматычную консультацыю для ўсіх пачынаючых рабочых пісьменьнікаў з харкаўскіх заводаў і фабрык, рабфакаў, школ ФЗВ і інш. Консультацыя—у поэзіі, прозе, драматургіі, крытыцы. Разам з рэдакцыяю „Культробітник“ „Пролітфронт“ організоўвае выданьне спэцыяльнай консультацыйнай часопісі—месячніка пад назваю „Літературний цех“.

* Выдавецтва „КніГоспілка“ друкуе вялікі альманах членаў ВУСПП-у „Індустрыя“. Зьмест альманаху падабраны так, каб ён найбольш адпавядаў назьве: індустрыяльная тэматыка, індустрыяльнае аформленьне матэрыялу, індустрыяльнае аформленьне самага выданьня.

* „Кнігоспілка“ хутка выпускае новае пашыранае выданьне твораў М. Леонтовіча, падрыхтаванае да друку Я. Юрмас. Выданьне гэтае ахапляе 8 зборнікаў, сярод якіх зьмешчана некалькі дзесяткаў новых композіцый, дасюль невядомых.

* Цэнтральная ўправа ОСМУ зьвярнулася да Галоўмастацтва Украіны, культсэктараў ВУК'у гарнякоў і мэталістаў і да Укрколгасцэнтру з пропозыцыяю накіраваць групу асоб, членаў ОСМУ, у колгасы і ў індустрыяльныя цэнтры для работы, каб падрыхтаваць да Кастрычніцкіх сьвят рад тэматычных мастацкіх твораў, які характарызаваў-бы процэс колектывізацыі сельскай гаспадаркі і дасягненьня індустрыялізацыі.

* Асоцыяцыя мастакоў Чырвонай Украіны (Кіеўская філія) рыхтуе перасовачную выстаўку ў колькасьці 50 экспонатаў, зьвязаную з сьвяткаваньнем 10-годзьдзя комнезаму. Выстаўка мае агітацыйна-асьветны характар, ілюструючы ўдзел комнезаму ва ўзброенай барацьбе, соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і ў сувязі гораду з вёскай.

* У Кіеўскай карцінная галярэі была наладжана выстаўка твораў мастака К. Малевіча. На выстаўцы блізка 50 экспонатаў мастака. Выстаўка трывала да 1-га ліпеня.

У апошні час галярэя ўзбагацілася на рад твораў, прыдбаных на 2-й Усеукраінскай мастацкай выстаўцы, а іменна—работы мастакоў: Пальмава, Козіка, Кароўчынскага, Кішынёўскага, Чаліенка і інш. Паступіла некалькі твораў з Амэрыкі ад мастака Д. Бурмона і Оўрука (Оўруцкага).

На восень Галярэя мяркуе наладзіць, узгадніўшы гэта з мастацкімі аб'яднаньнямі Грузіі і нацыянальнаю Галярэяю Грузіі, выстаўку твораў грузінскіх мастакоў.

* Выдавецтва „Рух“ выпускае гэткія монографіі пра украінскіх мастакоў.

1-ая сэрыя: Т. Шэўчэнка, П. Мартыновіч, С. Васількоўскі, М. Самокыша, А. Петрыцкі, М. Бойчук, Ю. Міхайлаў, М. Жук, О. Мурашка, Дзячэнка.

2-я сэрыя: М. Бурачок, І. Северын, В. Крычэўскі, Іжакевіч, О. Сласьцьон, Т. Леўчэнка, І. Труш, О. Новакоўскі, М. Бэ, Сьвятаслаўскі.

3-ая сэрыя: Д. Левіцкі, В. Баравікоўскі, Л. Жэмчужнікаў, М. Піманенка, В. Трутоўскі, О. Кульчыцкая, Ф. Красіцкі, Ф. Крычэўскі, Ю. Нарбут, В. Мельлер.

Кожны выпуск будзе мець артыкулы пра мастака і 15—20 рэпродукцый лепшых яго работ. Частка рэпродукцыі будзе ў фарбах.

* У Адэсе організуецца мастацкі Інстытут з 4-ма факультэтамі, у гэтым годзе ў інстытуце навучацьмецца 500 студэнтаў.

* У Харкаве ўлетку адбыўся III-і зьезд Асоцыяцыі Рэволюцыйнага мастацтва Украіны, АРМУ апошні год перажываў глыбокі крызіс. Крызіс гэты зьявіўся лёгічным пасьледкам таго, што асоцыяцыя ўжо перарасла

сваю пачатковую мастацка-ідэолёгічную пляцформу і організацыйныя формы і не змагла сваячасова перабудаваць сваю работу на новым этапе соцыялістычнага будаўніцтва.

III-ці зьезд паглыбіў і конкрэтызаваў заданьні, якія стаяць перад організацыяю і даў новаму УБ дакладныя ўказаньні па перабудове організацыі.

Значную частку дзейнасьці асоцыяцыі мяркуецца перасунуць у рабочыя раёны. Заданьні вых. працы— выхаваць марксыцкі сьветапогляд, кваліфікаць і організоўваць супольную працу над разьвязаньнем мастацкіх проблем.

* Тэатры Савецкай Украіны ўжо пачалі орыентовачна вызначаць рэпэртуар наступнага сэзону. У гэтым годзе можна спадзявацца, што украінская драматургія дасьць шмат новых каштоўных твораў.

* Украінскія тэатры адчыняюць зімовы сэзон новаю п'есаю І. Мікітэнкі „Кадри".

* І. Мікітэнка перарабляе і ўносіць шмат зьмен да п'есы „Диктатура". Адэская дзяржрама дае яе ў цалкам новым аформленьні і пастаноўцы. Акрамя таго т. Мікітэнка піша на другую палову сэзону яшчэ адну п'есу на сучасныя тэмы.

* М. Сэмэнка апрацоўвае п'есу „1905 рік", якая пойдзе ў Адэскай дзяржраме. Гэта будзе вершаваная трагедыя.

* У выдавецтве „Рух" (Харкаў) вышлі дзьве новыя дагэтуль недрукаваныя п'есы Ул. Віньнічэнкі, напісаныя ім яшчэ і 1926-27 гг.—„Плач Ізраіля" і „Пророк".

* З ВУСППаўцаў напісаў п'есу „Іда Брук" Первамайскі.

* Маладняковец Мокрыеў, аўтар п'есы „Віддай партквиток", якая з вялікім посьпехам ішла ў Харкаўскім Чырвоназаводзкім тэатры, скончыў п'есу пра колектывізаваную вёску.

* М. Куліш здаў „Березолю" п'есу „Патэтична соната".

* О. Копыленка інсцэніруе свой роман „Візволеньня".

* Я. Мамонтаў працуе пераважна над лібрэтамі опэр і адначасова піша п'есу для вялікага тэатру.

* Драматург Мурынэц здаў для вялікага тэатру п'есу „Павуки".

* У чэрвені м-цы г.г. у Харкаве гастроляваў Бэрлінскі тэатр „Маладых актораў". Група маладых актораў складзена пераважна з актораў, якія раней працавалі ў Піскатара. Рэпэртуар групы выключна соцыяльнага характару і блізкі інтарэсам пролетарыяту.

* Рэжысэр А. Віньніцкі з опэратарам Роною ставіць вялікі навуковы фільм „Людина й Мавпа", які трактуе з марксыцкага пункту погляду тэорыі эволюцыі відаў. У фільму найноўшы навуковы досьлед у гэтай галіне.

* Рэжысэр Сафронаў, які закончыў з опэратарам П. Гарбенкам пастаноўку вытворчага фільму „Біле золото", ставіць цяпер вялікі фільм „Мэталюргія", які пакажа процэс вытворчасьці на ўсіх вялікіх мэталюргічных прадпрыемствах Сав. Саюзу.

* Рэжысэр-опэратар Г. Аляксандраў ставіць культурна-асьветны фільм „Слово про друк", які пакажа процэс поліграфічнай вытворчасьці і высьветліць друк ў Савецкім Саюзе.

* З прычыны дзесяцігодзьдзя Ўсеукраінскай Акадэміі Навук ВУФКУ ставіць вялікі дакумэнтальны фільм „ВУАН", які высьветліць значэньне навукі для украінскага пролетарыяту. Рэжысэр О. Перэгуда, опэратар П. Езерскі.

* Рэжысэр М. Капчынскі закончыў навучальна-асьветны фільм „Прозорі стінкі" пра значэньне шкла і індустрыялізацыі краіны.

* Рэжысэр О. Швачка з опэратарам О. Балтухіным ставяць вытворчы фільм „сельмашбуд" пра вырабніцтва с.-г. машын.

* Рэжысэр В. Заноза з опэратарам З. Чарняўскім ставяць культурны фільм „Енергетика" пра ўсе віды энэргіі (паравая, электрычная, вадзяная і інш.), пра яе запасы, пра ролю энэргіі ў перабудове нашай гаспадаркі.

* Рэжысэр-опэратар Б. Слуцкі зьняў у Маскве асьветны фільм „Фабрика-кухня“ пра значэньне харчаваньня ў справе перабудовы нашага быту.

* Рэжысэр М. Капчынскі з опэратарам С. Фядотавым прыступаюць да здымкі краязнаўчага фільму „Перлина радзянскага стэпу“ пра дзяржаўны запаведнік птушніцтва і таварыства „ЧАПЛІ“.

* Укр-Тэа-Кіно выдавецтва выпусьціла ў продаж новыя кніжкі пра кіно:

— Я. Саўчэнка „Нараджэння українського радянського кіна“. У гэтай кніжцы аўтар гаворыць пра тры вялікіх эпохіальных фільмы.

— „Звнигора“, „Арсенал“, „Земля“—таленавітага савецкага украінскага рэжысэра О. Дожэнка.

— М. Лядаў, „Аснови кіно-драматургіі та тэхнікі сценарія“ пад рэдакцыяю мастацкага аддзелу ВУФКУ. Мэта кніжкі даць кірунак да сур'ёзнага, удумлівага вывучэньня сцэнарнай справы.

* Колегія Наркамсьветы ўхваліла рэорганізаваць новы Адэскі кіно-тэхнікум ва Ўсеукраінскі Інстытут кінематографіі, які працавацьме ў Кіеве. Інстытут мецьме два факультэты—тэхнічны і мастацкі і падрыхтоўваць будзе працаўнікоў для Кіно-фабрыкі ВУФКУ.

* Выдавецтва ВУАН выпусьціла ў сьвет за студзень і люты м-цы 30 г. пяць выданьняў на 80 арк., а іменна: Запіскі гістарычна-філёлёгічнага аддзелу, кн. XXIV і XXV; Зборнік прац батанічнага музэю, ч. I; Матэрыялы да этнолёгіі, 2.; Бюлетэнь УКОПС № 4.

Здало ў друк гэткія выданьні:

„Патерик Печерский“; Бюлетэнь Етнографічнай Камісіі № 13; Тры програмы Етнографічнай Камісіі; Дзесяць анкет Дыялектычнай Камісіі; Запіскі Фізычна-Матэматычнага аддзелу, т. IV, в. 5; Зборнік прац Золёгічнага музэю, ч. 8. Весткі ВУАН; Спадарожнік па горадзе Кіеве (юбілейнае выданьне).

* Вышаў з друку першы нумар часопісі „Літературний Архів“, выд. інстытутам ім. Шэўчэнкі. Часопісь зьмяшчае нізку артыкулаў гісторыка-літаратурнага характару, нізку гісторыка-літаратурных дакумантаў як старой, так і новай літаратуры, і вялікую літаратуразнаўчую хроніку. Выходзіць часопісь пэрыодычна кожныя два месяцы.

* Музэі Украіны мяркуюць дастаць з маскоўскіх і ленінградзкіх—запароскія сьцягі, вялікую колькасьць археолёгічных рэчаў, якія за часы царызму былі вывезены з Украіны, творы украінскіх мастакоў XVIII—XX стагодзьдзя і інш. Асаблівую навуковую каштоўнасьць маюць рэчы скіцкай эпохі, а таксама пры элінскай культуры на поўдні Украіны.

* Популярны, па-запартыйны тыднёвік „Сила“, што выходзіў нядаўна ў Львове і сьмела абараняў інтарэсы рабочых і беднага сялянства ў Заходняй Украіне, забаронены польскаю ўладаю.

* Баярска-румынскі суд засудзіў рэдактара рабоча-сялянскай газэты „Борець“ (на укр. мове, выходзіць у Чэрніўцах), Івана Стасюка, на тры гады зьняволеньня і 85000 лэяў штрафу за артыкулы, зьмешчаныя ў „Борці“.

* Споўнілася пяць год існаваньня Дзяржвыдату АМССР. За гэты час Дзяржвыдавецтва выдала на малдаўскай мове 200 назваў рознай літаратуры з агульным тыражом 504 тыс. экзэмпляраў. Малдаўскія школы цалкам забясьпечаны падручнікамі. Значнае месца ў выданьнях Малдаўскага Дзяржвыдавецтва займае мастацкая літаратура, творы малдаўскіх пісьменьнікаў і поэтаў, а таксама палітычная і с.-г. літаратура. Праца малдаўскага Дзяржвыдавецтва, якая яднае навакол сябе кадр малдаўскіх пісьменьнікаў, поэтаў і літаратараў,—важны чыньнік у культурным будаўніцтве АМССР.

* Вялікім посьпехам карыстаецца капэля АМССР „Думка“. Акрамя рэпэртуару з малдаўскіх песень, капэля дэмонструе песьні і народаў СССР.

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* 10-га лістапада ў клюбе ФОСП адчынілася выстаўка „Писатель и колхоз“. На адчыненьні выстаўкі прысутнічалі прадстаўнікі ОГІЗ, Кнігацэнтру, Галоўмастацтва, Наркамзему, Колгасцэнтру, літорганізацый, рабочых заводаў.

* З Днепрапятроўску, з заводаў ім. Пятроўскага і ім. Леніна вярнуўся поэта Міх. Галодны, дзе прымаў удзел у змаганьні з прарывамі.

З матэрыялу, сабранага поэтаю ў часе паездкі, складаецца сэрыя нарысаў, якія М. Галодны мяркуе выдаць асобным зборнікам у выдавецтве ЗІФ.

* У клюбе ФОСП адбыўся рад літвечароў, прысьвечаных XIII гадавіне Кастрычніка.

На вечары, організаваным 6-га лістапада ячэйкай ВКП(б) ФОСП, з дакладам выступіў Ю. Сьцяклоў. Пісьменьнікі з цікавасьцю праслухалі ўспаміны членаў Т-ва старых бальшавікоў М. В. Марозава і Н. Падвойскага, а таксама пісьменьніка С. Д. Мсьціслаўскага—пра Кастрычніцкія дні. У літаратурна-мастацкай частцы вечару выступалі поэты пісьменьнікі і артысты маскоўскіх тэатраў.

У часе вечароў на фабрыках і заводах адбываліся выступленьні рабочых-пісьменьнікаў—ударнікаў з чытаньнем сваіх твораў.

* На нарадзе пры сэктары Мастацтваў і Літаратуры Наркамасьветы выпрацаваны парадак правядзеньня дэкады абароны літорганізацыямі, тэатрамі, кіно і г. д.—ЦК Працаўн. Маст. ФОСП, РАПП, Асоцыяцыя пролетарскіх музыкаў, фэдэрацыі мастакоў склікалі вялікі мітынг, задача якога мобілізаваць увагу савецкай мастацкай інтэлігенцыі вакол пытаньняў абароны. На мітынгу прынята спэцыяльная адозва да радыкальнай інтэлігенцыі ўсяго сьвету з прычыны насоўваючайся небясьпекі інтэрвэнцыі. Працаўнікі тэатру організуюць па тыпе ЛОКАФ аб'яднаньне дапамогі Чырвонай арміі і флёту.

Сэктар мастацтваў і літаратуры мяркуе прыстасаваць да дэкады абароны пачатак навуковага вывучэньня проблемы „Вайна і мастацтва“. Гэтым пачаткам будзе дыспут у Комакадэміі, у якім прыме удзел вайсковая сэкцыя.

* У выдавецтве „Фэдэрацыя“ выходзіць крытычны зборнік „Нашы позіцыі“, у які ўваходзяць артыкулы аб пляцформе ВОКП, пра нарыс аб сялянскім романе, артыкул супроць „палоншчыны“ і інш.

* У сувязі з заклікам ударнікаў у сялянскую літаратуру крытычны сэктар ВОКП распрацаваў програму выданьня масавай крытычнай бібліятэкі, разьлічанай на „прызыўніка-ўдарніка.

* ВОКП разгортвае дыскусію па творчым мэтодзе сялянскай мастацкай літаратуры. Выявіўся цэлы рад новых проблем. Створана спэцыяльная група з крытыкаў, якія выпрацоўваюць програму далейшага абгаварэньня пытаньняў творчага мэтоду.

### Закаўказьзе

* Башкірская мастацкая літаратура нарадзілася разам з Кастрычнікам. За невялікі час яна высунула такіх значных пісьменьнікаў, як: Губей

Давлетшчына, Булат Ішэмгулава, Даут Юлтыева, Авзал Тагірава, Сальт Агішава, Тухват Янабі (Калімулін), дала такія таленавітыя рэчы, як „Кроў“, „Комсамольскія песьні“, „Кунак Так Турмуш“, „Зельскі“, „Першыя сустрэчы“, „Кутшына“, „З мінулага“. Гэтыя творы прыцягнулі да сябе ўвагу і крытыкаў небашкірскай нацыянальнасьці.

* Цяпер ва Уфе жывуць і працуюць у галіне башкірскай культуры татарскія пісьменьнікі: Сайфі Кудашаў, Гарыф Гумэраў, Маджыд Гафуры, Ісанбемаў, Баязітаў і Алі Карачаеў. Яны пішуць на башкірскай мове і цалкам з жыцьця Башкірыі. Гафуры Маржыд нядаўна здаў у друк кнігу „Усходкі жыцьця“. Пасьлякастрычніцкі пэрыод даў шмат добрага ў галіне мастацкага слова і колькасна і якасна. Але тут меліся і хібы. Тэматыка была новая, орыентаваная на адбудаваньне гаспадарчага і культурнага стану краіны, але форма твораў насіла адзнакі пасьледваньня шаблёнізму. Толькі больш-менш таленавітыя аўтары стваралі свой уласны стыль (Губей Давлетшын).

* Рэконструкцыйны пэрыод, ліквідацыя кулацтва на аснове суцэльнай колектывізацыі становяць перад башкірскаю мастацкаю літаратураю новыя вялікія заданьні—адлюстраваць глыбокія социяльна-экономічныя зьмены, рост колгасаў і ўтварыць новы літаратурны жанр.

Некаторыя дасягненьні ў гэтай галіне ўжо ёсьць. А іменна: „Комсамол“—Іксанава, „Юлда“ („У дарозе“)—Чанішава, „Хай цьвітуць“—Кудашава, апавяданьне маладой пісьменьніцы Абдрахманавай—„Апавяданьне дзяўчыны“ (у перакладзе на расійскую мову надрукавана ў газэце „Красная Башкірыя“ № 106, травень м-ц 1930 г.).

* З 1930 году выходзіць штомесячнік „Октябрь“ на башкірскай мове, часопісь „Трактар“. Расійская сэкцыя выпусьціла альманах „На подступах“. Акрамя таго, выдрукавана хрыстоматыя „Наш Край“ (на рас. мове) і „Сэртыв“ (чуваск. мов.). Пры навукова-дасьледчым інстытуце закладзена сэкцыя мовы і літаратуры; ініцыятары—асыстэнты Башкірскага Пэд. Інстытуту і рэдакцыя часопісі „Октябр“.

* Башкірская асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў організавала ўдарныя пісьменьніцкія брыгады для вядзеньня шырокай культурнай масавай працы на прадпрыемствах Уфы.

# ХРОНІКА ЗСФСР

### Армения.

* Александр Шырванзардэ працуе над другім томам романа „Вартан Айрулян“ і другім томам „Хаоса“.

З мэтаю азнаямленьня працоўных армян закордону з творчасьцю савецкіх пісьменьнікаў Арменіі, праўленьне Фэдэрацыі ўхваліла з удзелам „Камітэту Дапамогі Арменіі“ („ХОК“), выдрукаваць за кордонам два зборнікі лепшых твораў членаў Фэдэрацыі.

* АПП Арменіі з мэтаю выяўленьня і падтрыманьня маладых пісьменьнікаў — рабочых і арганізацый літаратурных гурткоў на прадпрыемствах, — вылучыў з свайго складу 4 брыгады для ўсебаковага вывучэньня на месцы як творчасьці пачаткоўцаў рабочых, так і літаратурных аддзелаў насьценгазэты і, якія існуюць, літаратурных гурткоў.

### Грузія.

* К. Лорткіпанідзэ нядаўна выдаў новы свой твор „Новыя сяляне“, у якім малюе жыцьцё комун.

— Выдаў у ДВУ ў перакладзе на украінскую мову роман „Цьвіль“.

— У Дзяржвыд.-ве Арменіі, у перакладзе на армянскую мову, выдаў апавяданьні „Фотограф“ і „Першая маці“

* Джавшанідзэ Сяргей выпусьціў зборнік апавяданьняў.

* Нароушвілі Ф. выдае ў Дзяржвыдавецтве Грузіі поэмы і вершы.

* Чхіквадзе П. скончыў вялікі роман у трох частках, Дырэктар трэсту.

* Машаншвілі Аліо напісаў новую п'есу пра колгасы, якую ставіць рэжысэр А. Ахмэтэлі.

* Вуачыдзэ Бэніто выдаў новую кнігу: „Пытаньне рэконструкцыі мастацтва.

* Радзіані Д. друкуе кнігу: „Літаратурныя пытаньні“ (кніга пра сучасную літаратуру).

* Дзяржкінпром Грузіі адчыніў студыю кіноактораў для падрыхтоўкі кадру пролетарскіх кіноактораў.

* Паўночна-каўкаская мастацкая капэля шырока разгарнула сваю працу пад кіраўніцтвам композытара Каваленка і мае ўсюды вялікі посьпех.

Капэля нядаўна была ў вялікім падарожжы па закаўкаскіх рэспубліках з мэтаю абмену дасягненьнямі і пропаганды харавага мастацтва сярод шырокіх мас.

Рэпэртуар капэлі складаецца з песень рэволюцыйных, агітацыйнага і бытавога (армянскі, грузінскі, украінскі, цюрскі і інш.) характару.

* У Дзяржвыдавецтве Грузіі скончана выданьне „Капіталу“ К. Маркса; друкуюцца творы Энгельса, Пляханава, Сталіна; падрыхтаваны да друку творы Дарвіна, Пляханава пра мастацтва і інш.; выданьне некалькіх томаў твораў Леніна (Выданьне твораў Леніна працягваецца); з мастацкай літаратуры акрамя орыгінальных была выдадзена сэрыя кніг пісьменьнікаў Заходняй Эўропы і Савецкага Саюзу.

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА ТУРКМЕНСКАЙ ССР

* 5 мая ў дзень друку аформілася Ўсетуркменскае Літаратурнае Аб'яднаньне. Выбрана арганізацыйнае бюро ў складзе т. т. К. Бурукава, Я. Голодовіча, М. Кекілава, Б. Кербабаева, А. Аблонскага, М. Пальлера, і І. Фролава.

* Оргбюро Ўсетуркменскага літаратурнага Аб'яднаньня разам з праўленьнем Туркменбілешына агаласілі конкурс на лепшы мастацкі твор на тэму: „Праца спажывецкай коопэрацыі ў туркменскім ауле.

* Сэкцыя мовы і літаратуры Туркменкульту інтэнсыўна праводзіць зьбіраньне фольклёрных матэрыялаў, якія характарызуюць гаворку туркменскіх пляменьняў: тэке, салор і сарык. Для гэтай працы сэкцыяю было організавана некалькі экспэдыцый у раёны: Мервскі, Тахра-Базарскі і Сарэхскі.

* Археолёгічнай сэкцыяй Турменкульту праводзяцца раскопкі магілы „Ак-Пэпэ“ (у 5-ці кілёмэтрах ад Ашхабаду).

* Нядаўна ў Туркменкульце адбылася спэцыяльная нарада, з удзелам акадэміка Фэрсмана, па справе рэорганізацыі навукова-дасьледчай працы, пры чым апрацаваны проект організацыі аб'яднанага навукова-дасьледчага інстытуту Туркменістану.

# ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

## Паўночная Амэрыка

* Сілы рэволюцыйна-пролетарскага мастацтва Злучаных Штатаў растуць. Утвараюцца новыя аб'яднаньні („Rebel Poets“ і інш.), ідзе жывая агітацыйная і культурна - асьветная работа. Так, у Нью-Ёрку організаваны клюб ім. Джона Рыда, які яднае групу рэволюцыйных пісьменьнікаў, мастакоў, скульптараў і музыкантаў. Члены клюбу організавалі выстаўку карцін, адчынілі музычную школу і клясу графічнага мастацтва. Адбываюцца лекцыі, спэктаклі, прагляды новых фільм і інш.

* У апошні час рэволюцыйная літаратурная група „Rebel Poets“ („Бунтоўныя поэты“) выяўляе вялікую актыўнасьць. Выдала другі свой зборнік. Організавала ў шэрагу месц ячэйкі рэволюцыйных поэтаў, пісьменьнікаў і рабочых, якія цікавяцца літаратураю. Праводзіць актыўнае змаганьне супроць варожых пролетарыяту плыняй.

* Выдавецтва „Alb. and charles Boni“ выпусьціла ў сьвет новы роман Уптона Сынклера „Montain citu“ (Монтэн-Сіці).

* У красавікоўскім нумары часопісі „Nevos Masses“ (орган пролетарскага мастацтва і літаратуры) рэдактар яго М. Голд выступіў з пропозыцыяю: кожны пісьменьнік, які зьяўляецца членам клюбу, мусіць прымацавацца да вытворчасьці і спэцыялізавацца ў аднэй з яго галін. Такім чынам утворыцца моцная організацыя пісьменьнікаў, зьвязаных з рабочай клясаю.

* Два гады назад у Нью-Ёрку організавалася расійскае літаратурна-мастацкае таворыства „Серп і Молат“. Гэта аб'яднаньне пісьменьнікаў розных напрамкаў. Таварыства да апошняга часу ня мела пэўнага свайго аблічча, не займала цьвёрдых літаратурна-грамадзкіх позыцый.

Нядаўна „Серп і Молат“ выступіў у Нью-Ёрку з дэклярацыяю. У гэтай дэклярацыі сказана, што „Серп і Молат“ стаіць на позыцыях клясавага змаганьня і лічыць сябе непадзельнаю часткай рэволюцыйнага руху Злучаных Штатаў. Т-ва „Серп і Молат“ глядзіць на літаратуру, як на ўдзел ў рабочым руху, лічачы, што літаратура павінна організаваць і мобілізаваць рабочую клясу для барацьбы з ворагамі,

* Нядаўна пад назваю „Красная страла“ пачаў выходзіць у Нью-Ёрку савецка-амэрыканскі літаратурна-мастацкі альманах, рэдактар якога Давін Бурмок. Удзел у альманаху прымаюць пролетарскія поэты і пісьменьнікі Амэрыкі, а таксама СССР.

## Германія.

* Германскі пролетарскі пісьменьнік Карл Грунберг, аўтар роману „Brennende Ruhr“ („Рур у агні“), выдаў новы роман з жыцьця германскіх рабочых пад назваю „Працяг далей“.

* Ернэст Оттвальд выпусьціў кнігу „Спакой і парадак“—праўдзівы твор, які выкрывае ўсе махінацыі і тэхніку барацьбы ахоўнікаў капіталу—фашыстаў з рэволюцыйным рухам працоўных мас краіны.

* На першым месцы мастацкай кніжнай продукцыі гэтага году ў Германіі ставяць твор Гэнрыка Манна

„Chronik der gedanken und Vorgänge, Sieben jahre, 1921 bis 1928". („Хроіка думак і падзей за сем год— 1921-1928).

Потым яшчэ трэба адзначыць новую кніжку славутага рэжысэра Е. Піскатора, якая карыстаецца посьпехам, гэта „Das politische Theatr."

**Польшча.**

* Літаратурная полеміка на шпальтах літаратурнай газэты „Wiadomosci literackie" сыходзіць да ўзаемнай компромэнтацыі ўсіх полемістаў.

Апошняй зьявай компромэтацыі зьяўляецца полеміка паміж І. Баравым, Бр. Вінавэрам і яго вучнем Слонімскім на тэму „Маш" Чэстэртона. Бруно Вінавэр скончыў выбрыкам супроць крытыкі і наогул супроць „усякай пісаніны" прыгожага пісьменства. Вінавэр належыць да тых пісьменьнікаў, якія адмаўляюць у навуковасьці ўсё. А закончыў ён сваю філіпіку, пазбаўленую трапнасьці і дарэчных уваг, заяваю, што пісаць пра прыгожае пісьменства пачалі з першых часоў друку. На гэта „Miesięcznik Literacki", пішучы пра полеміку на старонках „W. L.", пытае ў канцы Вінавэра „Няўжо Вінавэру невядомы зусім Арыстотэль".

**Чэха-Славакія.**

* Славацкі пісьменьнік Міло Урбан прыцягнуты да адказнасьці за антымілітарыстычны артыкул „Увага шаблі", надрукаваны ў нацыянальнай газэце „Словак", рэдактарам якой зьяўляецца М. Урбан.

Урбана абвінавачваюць у агітацыі насельніцтва супроць арміі і ў закліках дэзэртыраваць з арміі ў выпадку вайны.

* У рэдактара чэскай левай літаратурнай часопісі „Tvorba" Ф. Ю. Фучыка ў яго адсутнасьць быў зроблены вобыск, конфіскаваны асабістыя лісты і рэдакцыйныя матэрыялы для наступнага нумару часопісі. Паліцыя шукала нелегальных часопісяй і матэрыялаў да падрыхтоўкі дэмонстрацыі 6 беразьня. 12 беразьня Ю. Фучыка арыштавалі, калі ён выходзіў з ЦК КПЧ.

* Роман вядомага чэскага сатырыка Я. Гашэка „Приключения бравого солдата Швейка" вытрымаў у Чэхіі 11 выданьняў. На сёньня роман перакладзены на гэткія мовы: нямецкую, украінскую, расійскую, польскую, славянскую, сербскую, угорскую, голяндзкую, швэдскую, ангельскую, францускую, гішпанскую і японскую.

На сцэне „Прыгоды Швэйка" ідуць у Славаччыне, СССР, Германіі, Польшчы і Юга-Славіі.

Курт Вэйль піша на гэту тэму опэру.

* У № 13 часопісі „Tvorba" зьмешчаны протэст супроць цэнзуры, якая конфіскуе нават малюнкі і фотографіі.

*Рэдакцыйная колегія:* А. Менскі, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот.

*Выдавец.:* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.

# ЗЬМЕСТ